Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 20 (4666) 18 мая 2012 г.

*Думка пісьменніка*

## Стымул для творчасці — конкурс



**Ягор КОНЕЎ**

За што я люблю драматургію?

За тое, што ўласныя адчуванні ды развагі тэатр можа трансфармаваць у яркія вобразы і красамоўныя дыялогі. Пэўна, таму з часоў юнацтва мяне цягнула складаць драматычныя творы. Але і дваццаць гадоў таму, і цяпер бачу, што супрацоўніцтва айчынных аўтараў з айчыннымі тэатрамі наладжваецца даволі складана. Пастаноўка беларускага аўтара на сцэне беларускага тэатра — не правіла, а выключэнне з правілаў.

Прычыны гэтай сітуацыі тлумачацца кардынальна па-рознаму. Рэжысёры скардзіліся, што нашы творцы збольшага пішуць "для сябе", "не адчуваюць сцэну". Таму, каб завабіць гледача ў залу, тэатры вымушаны ставіць замежную класіку. Знаёмыя драматургі скардзіліся, што нашы рэжысёры нават і не спрабуюць працаваць з айчыннымі аўтарамі. Рэжысёрская пыха схіляе іх ставіць свае імёны побач з сусветнымі знакамітасцямі. Да таго ж, значна прасцей працаваць з матэрыялам, які ўжо "абкатаўся" на сцэнах суседніх замежных тэатраў. Як у такіх умовах развіваць нацыянальнае тэатральнае мастацтва?

У апошнія гады Міністэрства культуры Беларусі прыкладае значна болей намаганняў па развіцці нацыянальнага тэатра. Напрыклад, дэкларавана, што за кошт бюджэту будуць фінансавацца пастаноўкі на нацыянальным матэрыяле. Таксама заснавана Тэатральная прэмія года, у якой, на жаль, адсутнічае намінацыя "Лепшы драматург года" (аўтара разглядаюць у сукупнасці з рэжысёрам у намінацыі "Лепшы спектакль").

Такія высілкі, безумоўна, вартыя павагі. Але мне здаецца, што можна іх развіць і ў больш плённым напрамку: магчыма, варта знітаваць бюджэтнае фінансаванне з рэкамендацыяй *усім беларускім тэатрам штогод праводзіць конкурс п'ес для беларускіх аўтараў. Прычым пераможца гэтага конкурсу мусіць быць абавязкова пастаўлены ў гэтым тэатры.*

Я сам прыйшоў у драматургію дзякуючы конкурсу, які ў 2003 годзе праводзіла Міністэрства культуры. Менавіта конкурс з'яўляецца лепшым стымулам для аўтара, бо дае хоць нейкую гарантыю, што з тваім творам азнаёмяцца. Мала каму хочацца пісаць "у шуфляду".

Паводле маіх назіранняў, пераможцы конкурсаў, што праводзіліся ў апошнія гады ў некаторых тэатрах, атрымлівалі граматы і грашовыя ўзнагароды — і на гэтым справа завяршалася.

Зразумела, трэба заставацца рэалістамі. Конкурс не вырашыць усіх праблем, якія існуюць у айчынным тэатры. Аднак ён, па-першае, стане творчым стымулам для многіх аўтараў, якія хацелі б пакаштаваць "пыл куліс", але дагэтуль бачылі сваю поўную незапатрабаванасць. І, па-другое, пашырыць прастору для выбару рэжысёрам і кіраўнікам тэатраў. Багацце выбару з цягам часу непазбежна перарасце ў якасць пастановак. Заявы некаторых рэжысёраў, што, маўляў, яны гатовы ўжо заўтра ставіць п'есу беларускага аўтара, калі ім прынясуць шэдэўр, абсурдныя па сваёй сутнасці. Шэдэўры не з'яўляюцца па запатрабаванні, а вось добрыя творы атрымліваюцца ў выніку няспыннага творчага працэсу.

Тады, упэўнены, будзе квітнець беларускае тэатральнае мастацтва.

І мы разам з ім.

# Незабыты Галубок

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

**15 мая споўнілася 130 гадоў з дня нараджэння Уладзіслава Галубка. Руплівцы айчыннай культуры адзначылі знамянальную дату ў той жа дзень. Урачыста-мемарыяльная падзея адбылася ў філіяле Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі — утульнай сталічнай Гасцёўні, якая носіць імя гэтага выбітнага дзеяча нацыянальнай сцэны, першага народнага артыста БССР.**



*Уладзіслаў Галубок. Мінск,1915 год.*

Здаецца, і рэкламы гучнай не было, а вечарына сабрала аншлаг. І даволі значную частку неабыякавай аўдыторыі складалі родзічы, сваякі, нашчадкі Уладзіслава Галубка. Ён меў універсальны творчы дар і застаўся ў гісторыі як драматург, аўтар каля 40 п'ес на тэмы з розных часоў і перыядаў жыцця роднага краю; як рэжысёр і акцёр, спадкаемца старажытных традыцый беларускіх скамарохаў, батлейшчыкаў, выканаўцаў народнай драмы, паслядоўнік творчых прынцыпаў Ігната Буйніцкага, Фларыяна Ждановіча. Самабытнаю з'явай увайшоў у гісторыю створаны ім у сталіцы Беларускі трэці дзяржаўны тэатр — некалі знакаміты на ўсю краіну вандроўны БДТ-3 (1920 — 1937), дзе сам заснавальнік ставіў спектаклі, вёў адміністратыўныя справы, нярэдка разам з калегамі маляваў дэкарацыі, выходзіў на сцэну як акцёр. Юбілею гэтага яркага чалавека арганізатары імпрэзы прысвяцілі выстаўку "Нястомны рыцар тэатра", адкрыццё якой стала пачаткам кранальнай сустрэчы ў "Гасцёўні Уладзіслава Галубка".

Найцікавейшая і вельмі змястоўная атрымалася экспазіцыя, стварыць якую яе ініцыятарам дапамаглі Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, Гомельскае чыгуначнае дэпо, Баранавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт (станцыя Лясная ў раёне Баранавічаў — радзіма артыста), прыватныя асобы. У музейных вітрынах і шафах дэманструюцца ўнікальныя рукапісныя дакументы (у тым ліку і касцёльныя), пасведчанні, фотаздымкі, што ўспрымаюцца сёння ўжо не толькі як пазнакі самых розных эпізодаў з жыцця пэўных людзей, але і як артэфакты айчыннай гісторыі, прасякнутыя "водарам эпохі". Вось хаця б аўтографы У. Галубка, яго публікацыі, у тым ліку верш "Забытая хата", змешчаны ў "Нашай Ніве" (1908), яго ж мініяцюрная кніжачка з надпісам "Апавяданьня" на вокладцы і датай "1913 г." — гэта варта пабачыць! Знайшлі сваё трапнае месца ў выставачнай зале старадаўнія дыятанічныя цымбалы, скрыпка са смыком і драўляная трашчотка; беларуская батлейка і ўзоры нацыянальных строяў. А на сценах — пачынаючы з калідора, што вядзе да самой гасцёўні, — размясціліся жывапісныя карціны, разнастайныя фотападборкі...

На вечарыне і музыка гучала. Вядомая цымбалістка Таццяна Шумакова ды канцэртмайстар Наталля Сазановіч нават невялічкую праграму падрыхтавалі з твораў беларускіх аўтараў. А прамоўцаў было багата: дырэктар музея Зінаіда Кучар, кіраўнік філіяла Таццяна Гаршкова, старэйшы музейны работнік Аляксандр Міхаленя, святар Леанід Акаловіч, Ада Шагнюк, зямлячка У. Галубка, якая ладзіць у Баранавічах цяпер ужо ўніверсітэцкі конкурс яго імя — для чытальнікаў беларускай паэзіі. Род У. Галубка прадстаўлялі яго ўнучка Ізабэла Леапольдаўна Баброва; праўнучка Вольга Генрыхаўна Ціхановіч, чыё дзяцінства прайшло побач з бабуляй, сярэдняй дачкой артыста; праўнук па лініі сына Леапольда — Вячаслаў Баброў і яго жонка Жанна; жонка мастака Генрыха Ціхановіча, унука У. Галубка, — Лілія Аляксандраўна. Яна памятае аповеды Вільгельміны Уладзіслаўны, цёткі Люсі, пра знакамітага бацьку, які вокамгненна стаў "ворагам народа", быў расстраляны, і таму яго імя, што доўгія гады кідала цень на ўсю сям'ю, нават пасля рэабілітацыі ў 1957-м вымаўлялася шэптам, і толькі пасля хрушчоўскай "адлігі" загучала годна і нават з гонарам. А ў 1984 годзе мастак Яўген Ціхановіч, зяць У. Галубка, змог ажыццявіць даўнюю задуму і напісаць партрэт народнага артыста...

У кантэксце размоў пра яго постаць і трагічны лёс, пра значэнне яго дзейнасці для развіцця айчыннай культуры, пра гісторыю стварэння імяннай Гасцёўні як першаасновы музея прагучалі аднадушныя меркаванні наконт недаацэненасці асобы У. Галубка ў нашым сённяшнім грамадстве. І сапраўды, сёлета мы шырока і на высокім афіцыйным узроўні адзначаем 130-годдзе народных паэтаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Імя першага народнага артыста, які нарадзіўся таксама 130 гадоў таму, павінна было б стаяць побач з імі ў календары нашых культурных падзей.

А выстаўка "Нястомны рыцар тэатра" чакае ўсіх зацікаўленых!



*У. Галубок "На возеры Мядзел" (палатно, алей. 1918 — 1920).*

# Усе — у музей!

**Арцём КУМЕЛЬСКІХ**

На сённяшнім лістку календара пазначана адно з найпрыгажэйшых і самых дэмакратычных свят: Міжнародны дзень музеяў. Знаўцы кажуць, што традыцыі музейшчыкаў адзначаць сваю прафесійную дату, шырока расчыняючы дзверы экспазіцыйных залаў для бясплатнага наведвання, ужо больш як 30 гадоў, а колькасць краін, у якіх 18 мая святкуюць кожны год, і святкуюць штораз адмыслова, сягае амаль да двухсот. Як бы там ні было, а ў Беларусі, дзе толькі дзяржаўных музеяў каля 150, гэта традыцыя прыжылася. Больш за тое: некалькі гадоў таму наша краіна з энтузіязмам далучылася і да міжнароднага праекта новага тысячагоддзя "Ноч музеяў", так што сёлета размаітыя творчыя акцыі ўсяночнага майскага свята зноў пройдуць і ў самых буйных, нацыянальных, і ў рэгіянальных "храмах муз" краіны.

Самы час павіншаваць адно аднаго са святам і 18 мая пры канцы працоўнага дня наведацца ў музей. У які? Адразу і не скажаш, бо паўстае адвечная праблема выбару паміж добрым, найлепшым і яшчэ лепшым. Напрыклад, гісторыка-культурны музей-запаведнік "Заслаўе" запрашае сёння на прэзентацыю мастацкага праекта "Exit-1", у аснове якога — рэфлексія на нямецкія кінатэксты пачатку XX ст. Атмасферу святочнага адпачынку мінулага стагоддзя створыць для сваіх наведвальнікаў Музей гісторыі горада Гомеля, але бліжэй да ночы свята ў духу рэтра пачне растварацца ў рэаліях XXI стагоддзя. Якім чынам? Праз шоу-праграмы, тэатральныя мініяцюры, музычныя нумары, сучасную фотавыстаўку і кінапаказы. А Нацыянальны мастацкі музей Беларусі ладзіць сённяшняе свята пад аптымістычнаю назвай: "Апакаліпсіс адмяняецца!" Для тых, хто прыдумае сабе галаўны ўбор, аздоблены запаленым ліхтарыкам, адмяняецца і ўваходны білет: такіх светланосных наведвальнікаў прапусцяць у музей бясплатна.

"Давайце ўсе пойдзем у музей!" — так гучыць дэвіз свята. Дык пойдзем?

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка паставіў задачу паскорыць рэалізацыю праекта па стварэнні нацыянальнай электроннай бібліятэкі. Пра тое ён заявіў, звяртаючыся з Пасланнем да беларускага народа і Нацыянальнага сходу. Другой надзвычай важнай культурнай задачай для Беларусі на дадзеным этапе, паводле слоў Кіраўніка дзяржавы, з'яўляецца адраджэнне слуцкіх паясоў.

✔ Беларусь прадставіць лепшыя кнігі, якія былі выдадзены ў нашай краіне з 1 чэрвеня 2011 года па 15 мая 2012 года, на IX Міжнародным конкурсе "Мастацтва кнігі" дзяржаў СНД, які пройдзе 24 — 25 мая ў Астане (Казахстан). Конкурс праводзіцца па намінацыях "Садружнасць", "Мая краіна", "Кніга для дзяцей і юнацтва", "Культура. Навука. Адукацыя", "Арт-кніга", "Надрукавана ў Садружнасці". Гран-пры будзе ўручана стваральнікам унікальнага фундаментальнага выдання універсальнай тэматыкі.

✔ Тэатр-студыя кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" возьме ўдзел у Днях культуры Беларусі ў Літве ў кастрычніку. Літоўскай публіцы будуць прапанаваны два спектаклі. Адным з іх стане "№ 13" паводле п'есы англійскага драматурга Рэя Куні. Другая пастаноўка пакуль яшчэ канчаткова не вызначана, аднак ёю цалкам можа стаць бліскучы спектакль "Сродак Макропуласа" паводле славутай драмы Карэла Чапэка. З гэтым паказам тэатр надзвычай паспяхова гастраляваў у мінулым месяцы ў Чэхіі.

✔ Дні культуры Рэспублікі Беларусь праходзяць у Санкт-Пецярбургу 18 — 19 мая. Нашу краіну прадставяць Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам А. Анісімава, ансамбль народнай музыкі "Бяседа" пад кіраўніцтвам Л. Захлеўнага. Удзельнікі мерапрыемства змогуць пабачыць і работы мастака У. Цеслера, а таксама выстаўкі, падрыхтаваныя Літаратурным музеем М. Багдановіча і Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры. Будзе прэзентавана і спецыяльные выданне "Дзікага палявання караля Стаха" У. Караткевіча.

✔ Член Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Чарота ўключаны ў кароткі спіс (шорт-ліст) кандыдатаў на атрыманне Патрыяршай літаратурнай прэміі імя святых роўнаапостальных Кірыла і Мяфодзія. Шорт-ліст, у які ўвайшлі імёны дзесяці пісьменнікаў, апублікаваны на афіцыйным сайце Маскоўскага Патрыярхату. Лаўрэат будзе абвешчаны 29 мая ў зале Царкоўных сабораў храма Хрыста Ратавальніка ў Маскве.

✔ Рэспубліканская выстаўка сучаснай візуальнай творчасці студэнтаў "АРТ-акадэмія" праходзіць у мастацкай галерэі "Універсітэт культуры". На ёй прадстаўлены персанальныя і калектыўныя работы студэнцкіх студый дызайну, фатаграфіі, дэкаратыўна-прыкладной і мастацкай творчасці, тэатраў моды. Фінал "АРТ-вакацый" адбудзецца 22 — 23 мая ў Мінску ў фармаце вялікага гала-канцэрта.

✔ Дабрачынны канцэрт "Дотык да жыцця", прымеркаваны да Міжнароднага дня абароны дзяцей, пройдзе 1 чэрвеня ў культурна-спартыўным комплексе "Мінск-Арэна". На ім выступяць Прохар Шаляпін, Агнія, гурт "Всё включено", Вадзім Мезга, Аня Шаркунова, Галіна Шышкова, Аляксей Хлястоў, "Беларускія песняры" і іншыя вядомыя артысты. Усе атрыманыя ад продажу квіткоў сродкі, а таксама ахвяраванні гледачоў пойдуць на аказанне дапамогі дзецям, якія пакутуюць ад анкалагічных і гематалагічных захворванняў.

Падрыхтавала **Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# На гасціннай Гродзенскай зямлі

**Дэлегацыя літаратараў, членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі, вярнулася з двухдзённай вандроўкі па Гродзеншчыне. Гэта вандроўка стала працягам здзейсненых раней па ініцыятыве Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі паездак па Мінскай і Магілёўскай абласцях.**

Марына **КАЛЯДА**

Творца, які чакае натхнення, назіраючы за жыццём з акна, падобны да ракі, рэчышча якой завалена каменнем. Добра асэнсоўваючы гэта, беларускія пісьменнікі заявілі пра сваю гатоўнасць шукаць натхненне, знаёмячыся з Беларуссю. У адрозненне ад раней здзейсненага падарожжа, калі літаратарам прадстаўлялі лепшыя прадпрыемствы і гаспадаркі Мінскай і Магілёўскай абласцей, паездка па Гродзеншчыне мела ярка вызначаную культурна-гістарычную скіраванасць.

Пасля ўрачыстай сустрэчы дэлегацыі на мяжы вобласці і аповеда пра раёны, па землях якіх аўтобус рушыў да Гродна, мінскіх пісьменнікаў і прадстаўнікоў Гродзенскай абласной арганізацыі СПБ, што да іх далучыліся, чакала аўдыенцыя старшыні аблвыканкама Сямёна Шапіры. Губернатар расказаў пра багатае мінулае рэгіёна, засярodзіўшы ўвагу творцаў на тым, што Гродна — найбольш захаваны гістарычна сярод іншых абласных цэнтраў Беларусі. А будынак аблвыканкама, напрыклад, у розныя часы станавіўся прыстанкам для брата Напалеона Жэрома Банапарта, вялікага рэфарматара Расійскай імперыі Пятра Сталыпіна, палымянага рэвалюцыянера Фелікса Дзяржынскага. Нямала слоў было сказана і пра эканамічны твар вобласці, што займае сёння другое месца па вытворчасці мяса пасля Мінскай і трэцяе — па вытворчасці малака пасля Мінскай і Брэсцкай. Усё часцей сярод кіраўнікоў можна пабачыць гаспадарлівую моладзь, многім прадстаўнікам якой сёння трыццаць і крыху за трыццаць гадоў.

Старшыня Гродзенскай абласной арганізацыі СПБ Людміла Кебіч падзякавала губернатару за дапамогу гродзенскім творцам. Выпуск літаратурнага альманаха Гродзеншчыны, заснаванне літаратурнай прэміі імя Алаізы Пашкевіч (Цёткі) — гэта толькі самыя бачныя дзеянні Сямёна Барысавіча, накіраваныя на развіццё літаратуры ў рэгіёне. Па даручэнні старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў уручыў Сямёну Шапіру медаль "За вялікі ўнёсак у літаратуру".

У гэты ж дзень пісьменнікі здзейснілі своеасаблівае паломніцтва да літаратурных святынь Гродна: наведалі Дом-музей Максіма Багдановіча, славуты Дом-музей Элізы Ажэшкі. Літаратары пазнаёміліся таксама з гістарычным цэнтрам Гродна, яго замкам і храмамі. А вечарам было наладжана Свята паэзіі ў санаторы ААТ "Гродна Азот".

Другі дзень распачаўся літаратурнымі сустрэчамі пісьменнікаў з выкладчыкамі, студэнтамі, вайскоўцамі. Заключным акордам вандроўкі стала наведванне славутага СВК "Прагрэс-Верцялішкі" і сустрэча з яго кіраўніком, Героем Беларусі Васілём Рэвякам.

## Спаконвечнае

# Блаславёны шлях да людзей

Уладзімір **ЗАЛУЖНЫ**

Мінскаму Дому міласэрнасці — 10 гадоў. Адзін з яго стваральнікаў, настаяцель Усіхсвяцкага прыхода протаіерэй Фёдар Поўны ў сваім выступленні зазначыў, што галоўнай місіяй Дома міласэрнасці была і застаецца ўсеагульная рэабілітацыя чалавека: духоўная, медыцынская і сацыяльная. Тут працуюць нядзельная школа, маладзёжныя групы, класы пачатковай школы СШ № 137 г. Мінска з праваслаўнай формай выхавання на аснове праваслаўных традыцый беларускага народа. З кожным годам папаўняецца фонд прыходскай бібліятэкі, у якой цяпер налічваецца амаль 8 тысяч кніг, многія з якіх унікальныя па змесце і паліграфічным выкананні.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі мелі магчымасць пабываць у швейнай майстэрні "Залатая рызніца". Там з лёну, шоўку, парчы, саломкі з выкарыстаннем ручной і машыннай вышыўкі выпрабляецца ўвесь асартымент адзення для святароў. У іканапіснай майстэрні за 10 гадоў створана каля 200 ікон, некалькі плашчаніц. Яны знаходзяцца не толькі ў Беларусі, але і ў многіх храмах краін Еўропы і Амерыкі.

Актыўна заяўляе пра сябе рэабілітацыйны цэнтр "ЭЛЕОС", які існуе пры Доме міласэрнасці і прапануе 41 від ліцэнзійных медыцынскіх паслуг. У яго структуры — кансультацыйна-дыягнастычнае і стацыянарнае аддзяленні.

Дом міласэрнасці — унікальны сацыяльны аб'ект Праваслаўнай Царквы, створаны для саборнага служэння людзям.

## За падзеяй

# Святая Сафія — апякунка сям'і

**Навукова-практычная канферэнцыя "Сям'я, шлюб у сучасным свеце: адраджэнне традыцыйных духоўных каштоўнасцей" адбылася ў Слуцку ў рамках мерапрыемстваў, прысвечаных 400-годдзю з дня канчыны святой праведнай Сафіі Слуцкай.**

Ганна **САЎКО**

У Слуцкай цэнтральнай раённай бібліятэцы сабраліся людзі, сапраўды неабыякавыя: педагогі, медыкі, работнікі культуры, сацыяльнай аховы, а таксама святары праваслаўных прыходаў Слуцкага Благачыння. Бібліятэкары прапанавалі цікавую выстаўку публікацый, прысвечаных Сафіі Слуцкай. Шэраг выдатных партрэтаў славутай асветніцы ўпрыгожваў выстаўку. Асобную частку яе склалі кнігі, прысвечаныя святой і яе папярэднікам, "рыцарам Праваслаўя" князям Алелькавічам. Падчас канферэнцыі адбылася і своеасаблівая прэзентацыя новага выдання сталічнага выдавецтва "Чатыры чвэрці" — кнігі Ірыны Масляніцынай і Мікалая Багадзяжа "София Слуцкая", напісанай у жанры аповесці-эсэ.

Выступленнем аўтаркі, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Ірыны Масляніцынай і распачалася канферэнцыя, якая тэматычна звязала вобраз асветніцы, падзвіжніцы Праваслаўя Сафіі Алелькавіч з адраджэннем лепшых сямейных традыцый нашага народа. Пра тое, што гарманічная сям'я, пабудаваная на ўзаемным даверы, разуменні, павазе і гатоўнасці прыняцця на сябе бацькоўскага подзвігу, можа існаваць у самыя, здаецца, неспрыяльныя ў палітычным і эканамічным плане часы, казала пісьменніца. Саюз Сафіі Алелькавіч і Януша Радзівіла, людзей рознага духоўнага ўзроўню, рознага веравызнання, розных сямейных традыцый, даў прыклад такой сям'і яшчэ ў XVII стагоддзі.

Настаўніца Тамара Пятроўская ў дакладзе "Сямейнае выхаванне сродкамі традыцыйных хрысціянскіх каштоўнасцей" акрэсліла праблемы сучаснай сям'і, сярод якіх — раз'яднанасць бацькоў і дзяцей, інфантыльнасць моладзі і нежаданне браць на сябе адказнасць.

Намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце СШ № 12 Святлана Сянькевіч падзялілася вопытам правядзення Фестывалю сям'і. Выконваючы ў форме конкурсу нескладаныя забаўляльныя заданні, дзеці і іх бацькі збліжаюцца духоўна, адкрываюць для сябе адно аднаго, вучацца разуменню, цярпімасці, павазе і любові.

Дырэктар Слуцкай цэнтральнай раённай бібліятэкі Людміла Гурыновіч расказала пра рэалізацыю праграмы "Благавест", распрацаваную сумесна з Праваслаўным духавенствам і накіраваную на адраджэнне традыцыйных каштоўнасцей. Цэлы шэраг розных па форме і змесце духоўна-асветніцкіх мерапрыемстваў ужо праведзены на базе бібліятэкі.

Падводзячы вынікі канферэнцыі, протаіерэй, настаяцель Слуцкага Свята-Міхайлаўскага сабора, Благачынны праваслаўных прыходаў Случчыны айцец Міхаіл Вейго падзякаваў прысутным за неабыякавасць і гатоўнасць змяняць думкі і норавы нашых суайчыннікаў да лепшага.

## Між іншым

# Паміж мірам і вайною

Міра **ІЎКОВІЧ**

У Гомелі, у палацы Румянцавых і Паскевічаў, адкрылася ўнікальная фотавыстаўка "Пад небам Першай сусветнай…". Большасць са 160 прадстаўленых фотаздымкаў зроблена непасрэдным удзельнікам баявых дзеянняў на Каўказе, выхадцам з Гомеля Казімірам Пазняком, які служыў у Карскім паветраплавальным атрадзе.

Асноўнай місіяй лётчыкаў у тыя часы былі разведка і аэрафотаздымка, пра што сведчыць фотаархіў гамяльчаніна, які дазваляе ўвачавідкі пазнаёміцца з першай авіяцыйнай тэхнікай, стаць сведкам баявых дзеянняў на фронце, салдацкіх будняў і хвілін адпачынку рускага войска, убачыць палонных туркаў, здзейсніць вандроўку па Каўказе і захапіцца яго дзіўнай прыродай, архітэктурай і каларытнымі тыпажамі мясцовага насельніцтва.

Многія са здымкаў гэтага перыяду ўяўляюць сабою лісты Казіміра Пазняка родным і блізкім — бацькам у Гомель, нявесце Яўгеніі Яўсеевай на станцыю Качанаўка ў Чарнігаўскую вобласць, брату Юліяну, які служыў кулямётчыкам у 117-м пяхотным Яраслаўскім палку. Гэтыя паштоўкі былі для нашага земляка злучальнымі ніцямі паміж домам і казармай, мірам і вайною.

Калекцыя здымкаў, якая перажыла дзве сусветныя вайны, цудам захавалася на гарышчы аднаго са старых гомельскіх дамоў. Не так даўно яе перадалі ў музейныя фонды. Гэта жывое гістарычнае сведчанне, сапраўдная хроніка трагічных падзей і ілюстрацыя лёсу чалавека, які прайшоў вайну, думаецца, зацікавіць гамяльчан і гасцей горада.

*Літабсягі*

# Перамога народа

**Літаратурная вечарына “Душою і сэрцам мы з вамі, героі…”, прысвечаная Дню Вялікай Перамогі, прайшла ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.**

**Дар’я ШОЦІК, фота аўтара**

На імпрэзу завіталі малодшы сын Якуба Коласа, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, доктар тэхнічных навук Міхась Міцкевіч, пісьменнік-франтавік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Алесь Савіцкі.

Дырэктар музея Зінаіда Камароўская распавяла прысутным пра гераічны лёс Алеся Ануфрыевіча, які з 1962 па 1969 год з’яўляўся вучоным сакратаром літаратурнага музея Якуба Коласа.

— У гады вайны перамагала не толькі зброя, а перамагаў дух, вера салдата, — упэўнены Алесь Савіцкі. — У тыя часы кожны пісьменнік лічыў сваім абавязкам напісаць пра барацьбу нашай дзяржавы з ворагамі. Слова творцаў змагалася побач са снарадам, куляй, штыком, мужнасцю савецкага салдата.

Алесь Ануфрыевіч нагадаў: “У Брэсцкай крэпасці ёсць надпіс, які вядомы ўсім: “Умираю, но не сдаюсь! Прощай, Родина”. Пасля апошняга слова клічнік — не завершаны, выпісаны напалову: у таго салдата не было сіл, каб дапісаць гэты клічнік… І цяпер невядома, чыя рука пакінула на абпаленай сцяне Брэсцкай крэпасці гэты надпіс. Але ў салдата за плячыма была Радзіма, родны дом”.

Падчас літаратурнай вечарыны знайшла працяг акцыя “Чытаем Купалу і Коласа разам”. Госці дэкламавалі палымяную ваенную лірыку Якуба Коласа, за якую пісьменнік атрымаў Сталінскую прэмію І ступені.

Міхась Міцкевіч расказаў пра паэмы “Суд у лесе” і “Адплата”, напісаныя ў Ташкенце, дзе жыў падчас вайны Якуб Колас. Навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, праўнучка Коласа і Маўра Васіліна Міцкевіч распавяла пра выстаўку кніжнай графікі А. Дзямарына і Э. Агуновіча. Прысутныя мелі ўнікальную магчымасць убачыць



*Прамаўляе пісьменнік-франтавік Алесь Савіцкі.*

рукапісы трылогіі “На ростанях” Якуба Коласа.

Не абышлася імпрэза і без падарункаў. Алесь Савіцкі перадаў музею сваю кнігу “Сонца на ўсіх адно”, у якой сабраны празаічныя творы, публіцыстыка, успаміны, баявыя справы і іншыя сведчанні той вайны.

*Артлінія*

# Опера вітае маладых!

**Праз два дні ў Мінску адбудзецца ўрачыстае адкрыццё Маладзёжнага форуму опернага мастацтва, удзел у якім возьмуць выканаўцы з краін СНД, Балтыі ды Грузіі. З 20 па 25 мая іх галасы будуць гучаць у шасці спектаклях Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

З маладымі перспектыўнымі салістамі, сярод якіх ёсць ужо і сусветна знакамітыя, будуць працаваць найлепшыя дырыжоры і рэпетытары, спецыялісты па коўчынгу. Плануецца абмеркаванне кожнага спектакля пры ўдзеле саміх артыстаў, прадстаўнікоў СМІ, музычна-тэатральнай грамадскасці. На постсавецкай прасторы такі форум ладзіцца ўпершыню. Але той, хто памятае мастацкае жыццё Мінска на памежжы 70-х — 80-х гадоў мінулага стагоддзя, убачыць у гэтай падзеі адраджэнне колішняй традыцыі. Так, якраз тады ў нашай сталіцы пачалі праводзіць першыя Усесаюзныя фестывалі творчай моладзі музычных тэатраў. Цікава было назіраць за нараджэннем інтэрнацыянальных сцэнічных ансамбляў, у якіх раскрываліся новыя грані на той час маладых беларускіх салістаў: Ніны Казловай, Людмілы Колас, Вольгі Цішынай, Аляксандра Дзядзіка, Яраслава Пятрова, Віктара Скорабагатава... Падчас такіх фестываляў мы знаёміліся і з дырыжорскай моладдзю: Аляксандрам Анісімавым, Валерыем Гергіевым, Мікалаем Карндорфам, Яўгенам Колабавым, чые імёны сёння шануе музычны свет. У якасці педагогаў і кансультантаў прыязджалі легенды Вялікага тэатра СССР Наталля Шпілер, Іван Пятроў.

На сёлетні форум, арганізаваны пры падтрымцы Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц СНД, збіраецца 16 маладых спевакоў, сярод якіх лаўрэаты міжнародных конкурсаў, салісты буйных тэатраў свету, у тым ліку і сапраўды залатыя галасы XXI стагоддзя. Мы пачуем іх у спектаклях “Кармэн”, “Багема”, “Іяланта”, “Рыгалета”, “Травіята”, “Князь Ігар”. За дырыжорскім пультам выступяць вядомыя майстры з розных краін: Аляксандр Самоілэ, Фелікс Корабаў, Аляксандр Анісімаў, Віктар Пласкіна, Джанлука Марчыяна.

25 мая 1933 года прэм’ерны паказ оперы “Кармэн” з маладой Ларысай Александроўскай у галоўнай партыі абвясціў нараджэнне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. Амаль праз 80 гадоў на нашу сцэну выйдзе шыкоўная сучасная Кармэн — Аксана Волкава, беларуская оперная зорка, якой апладзіравалі ў Вялікабрытаніі, ЗША, Іспаніі, Італіі, Расіі,



*Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь, лаўрэат міжнародных конкурсаў Аксана Волкава ў партыі Кармэн.*

Францыі, Швейцарыі. У іншых галоўных партыях — лаўрэаты міжнародных конкурсаў Эдуард Мартынюк (Беларусь), заслужаны артыст Арменіі Георг Акабян, Дана Брамане (Латвія). Дырыжор — народны артыст Малдовы Аляксандр Самоілэ.

*Повязі*

# Юзаф Крашэўскі: асэнсаванне велічы

**Навукова-практычная канферэнцыя “Юзаф Крашэўскі: знакаміты і невядомы”, якая адбылася ў музеі-сядзібе “Пружанскі палацык” з нагоды 200-годдзя з дня нараджэння славутага пісьменніка, стала насамрэч міжнароднай. На трох мовах: беларускай, рускай і польскай — гучалі выступленні. А лепшым перакладчыкам служыла атмасфера сяброўства і аднадумства, якая панавала ў зале.**

**Ірына СЯДОВА, фота аўтара**

Сапраўды, усіх прысутных аб’ядноўвала не толькі агульная любоў да творчасці — літаратурнай, мастацкай, музычнай — Юзафа Крашэўскага, але і жаданне данесці свае веды і пачуцці да шырокіх колаў, дастойна ўвекавечыць памяць знакамітага земляка. Гэта падкрэслівалі ў сваіх прывітальных прамовах арганізатары канферэнцыі: начальнік аддзела культуры Пружанскага райвыканкама К. Панімаш, дацэнт Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта С. Васовіч і дырэктар музея “Пружанскі палацык” Ю. Зялевіч.

Тэматыка выступленняў была вельмі разнастайнай. Дырэктар музея Ю. Крашэўскага ў польскім Раманове Ганна Чабадзінска-Пшыбыслаўска расказвала пра наяўныя фонды музея, гісторыю яго стварэння. Аказваецца, дом быў разбураны падчас Другой сусветнай вайны, і ўзнаўляць яго даводзілася амаль з нуля. Але цяпер, дзякуючы працы многіх энтузіястаў, Раманова стала цэнтрам вывучэння жыцця і творчасці пісьменніка. Пані Ганна выказала спадзяванне, што падобны лёс чакае і былы маёнтак Крашэўскіх Доўгае на Пружаншчыне. Тым больш што са стадыі “пустога месца” мы, здаецца, ужо зрушыліся. Гэта яскрава даказала студэнтка Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна Марына Каленік. Дзяўчына распрацавала праект аднаўлення сядзібы Крашэўскіх у вёсцы Доўгае, які і прадэманстравала ўдзельнікам канферэнцыі.

Пажаданне Доўтаму паўтарыць лёс ужо аднаўленых беларускіх гістарычных святынь прагучала і з вуснаў кандыдата гістарычных навук дацэнта кафедры філасофіі і культуралогіі БДТУ В. Папко, дырэктара музея “Замкавы комплекс «Мір»”. Вольга Мікалаеўна лічыць, што сродкі, укладзеныя ў музеі, сябе апраўдваюць. Як прыклад — музеі ў Міры і Нясвіжы, якія карыстаюцца асаблівым поспехам у турыстаў.



*Удзельнікі канферэнцыі завіталі ў г.п. Шарашова, дзе пабывалі на месцы пахавання бацькі пісьменніка, Яна Крашэўскага.*

Паэзію Юзафа Крашэўскага аналізавала ў сваім выступленні доктар філалагічных навук, прафесар БДУ імя А. С. Пушкіна М. Жыгалава. Музычна-крытычная дзейнасць Ю. Крашэўскага таксама стала прадметам даследавання. З дакладам на гэтую тэму выступіла трэцякурсніца Беларускай акадэміі музыкі Ірына Філімовіч.

За работай канферэнцыі сачыў з мульты-медыйнага экрана... сам Юзаф Крашэўскі. Ён сядзеў ля бюро, задумення падпершыся рукой, і яго прысутнасць ў зале адчувалася незвычайна востра.

*З-пад пяра*

➤ Урачыстае адкрыццё выстаўкі “Янка Купала і Якуб Колас — беларускія песняры”, прымеркаванай да 130-годдзя з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры, адбылося ў Дзяржаўным гісторыка-літаратурным і прыродна-ландшафтным Пушкінскім запаведніку “Міхайлаўскае”. Праект здзейснены пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі. Рукапісы, унікальныя дакументы і фотаздымкі, пераклады твораў Пушкіна, зробленыя песнярамі, ілюстрацыі беларускіх мастакоў Георгія Паплаўскага, Арлена Кашкурэвіча, Міхаіла Басалыгі, Васіля Шаранговіча, Янкі Раманоўскага і інш. — усё гэта паўстала перад наведвальнікамі музея як яскравае сведчанне сяброўства двух народаў і павагі да нашай літаратуры.

**Мікола АЛЕКСІЧ**

➤ Гран-пры і дыплом лаўрэата І ступені ўсерасійскага адкрытага літаратурнага фестывалю-конкурсу “Хрустальный родник-2012” дастаўся паэту з Беларусі Андрэю Смятаніну за вершы для дзяцей. Фестываль-конкурс праходзіў у Арле. За права стаць яго пераможцам змагаліся больш як сто літаратараў з Расіі, Беларусі і Латвіі.

**Паліна ПРЫГОДЗІНА**

➤ Супрацоўнікі рэдакцыі часопіса “Вожык” арганізавалі творчую вечарыну з нагоды 70-годдзя выдання і назвалі імёны пераможцаў віктарыны, прысвечанай гэтай даце. Удзел у віктарыне ўзялі чытачы з самых розных куткоў Беларусі, а большасць пераможцаў — гэта бібліятэкары, настаўнікі, кіраўнікі народных ансамбляў, вучні і студэнты. Але ёсць і выключэнні: трэцяе месца ў намінацыі “Літаратурны конкурс” заняла Таццяна Дземідовіч, індывідуальны прадпрымальнік з г. Брэста (гумарэска “Як бабуля ікрой частавалася”). На вечарыне выступіў гурт “Смехаўё” з Любані, пародыі на вершы вядомых паэтаў прачытаў Мікола Шабовіч. А Мікола Чарняўскі прыгадаў гісторыю сваіх першых публікацый у “Вожыку”. Кожны з гасцей імпрэзы змог знайсці нагоду для ўсмешкі.

**Дар’я ШОЦІК**

➤ Прэзентацыя новай кнігі для дзяцей маладой пісьменніцы Кацярыны Хадасевіч-Лісавой — “Касмічная адысея хлопчыка Стасіка” — прайшла ў Ждановіцкай сельскай бібліятэцы. Пісьменніца расказала пра тое, што галоўным героем яе новага твора з’яўляецца сынок Станіслаў. А яшчэ пра фею, якая распырсквае эліксір казачных сноў, і пра зорачку-знічку Сола, якая ўмее іграць на цымбалах. У кнізе — дзесяць казак, а значыць, дзесяць цудоўных вечароў могуць правесці бацькі са сваімі дзецьмі. Напрыканцы Кацярына Хадасевіч-Лісавая прачытала некалькі ўласных вершаў, якія надта ўзнялі настрой прысутным.

**Валянціна СЛЕСАРАВА**

➤ Беларускі камерны хор “Салютарыс” узяў удзел у Міжнародным фестывалі рускай духоўнай музыкі ў Літве. Харысты выступілі на адкрыцці фестывалю ў Вільнюскім касцёле Святой Кацярыны, падчас канцэрта ў гонар ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны ў Прачысценскім кафедральным саборы і ў Каўнаскай царкве. Нашы землякі запомніліся знаўцам праваслаўных культурных традыцый сваім прафесіяналізмам і падборам рэпертуару, у які акрамя твораў рускай духоўнай былі ўключаны ўзоры беларускай праваслаўнай музыкі.

**Лізавета ВІХУРА**

## Да 130-годдзя Янкі Купалы

Алена ЛЯШКОВІЧ

# Імя Купалы на карце свету

**Ушанаванне асобы Янкі Купалы пачалося яшчэ пры жыцці паэта. У музеі захоўваюцца дакументы аб наданні яго імя Мазырскай школе № 3 (31.05.1926) і паказальнай школе пры Полацкім педтэхнікуме (1926). Упершыню па-за межамі краіны ў 1932 г. у гонар паэта была названа бібліятэка-чытальня ў Порту-Алегра (Бразілія).**

Пасля смерці паэта была прынята ўрадавая пастанова ад 2 ліпеня 1942 г. "Аб літаратурнай спадчыне народнага паэта БССР Янкі Купалы". У тым жа годзе прынята Пастанова СНК БССР і Бюро ЦК КП (б) Беларусі аб спадчыне Янкі Купалы, дзе гаварылася: "Усе літаратурныя працы: кнігі, рукапісы, выдадзеныя і не выдадзеныя, лісты, перапіска народнага паэта з грамадскімі дзеячамі, фатаграфіі і іншыя матэрыялы, якія адносяцца да жыцця і дзейнасці паэта, абвешчаны дзяржаўнай уласнасцю".

25 мая 1944 г. была падпісана ўрадавая пастанова № 268 "Аб стварэнні музея Янкі Купалы", а ўжо 20 верасня наступнага года адкрылася экспазіцыя, якая пазнаёміла з жыццём і творчасцю Янкі Купалы першых наведвальнікаў музея. 67 гадоў Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы не толькі захоўвае і зберагае спадчыну вялікага паэта, але і далучае да яе новыя і новыя пакаленні беларусаў.

Захаванню памяці Песняра ў нашай краіне заўсёды надавалася вялікае значэнне. Найбольш значныя мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю Янкі Купалы, мемарыялізаваны. У структуры Дзяржаўнага літаратурнага музея песняра дзейнічаюць чатыры філіялы: Купалаўскі мемарыяльны запаведнік "Вязынка" — радзіма паэта, "Яхімоўшчына" — месца, дзе працаваў на бровары і дзе адбывалася яго грамадскае сталенне як нацыянальнага паэта, філіял "Акопы" — творчая калыска Янкі Купалы, Купалаўскі мемарыяльны запаведнік "Ляўкі" — месца, што стала апошнім прытулкам Янкі Купалы ў Беларусі перад ад'ездам у эвакуацыю.

У яго гонар названы вуліцы, бібліятэкі, навучальныя і культурна-адукацыйныя ўстановы многіх абласных і раённых цэнтраў Беларусі. У Мінску імя песняра носяць вуліца, парк, Нацыянальны акадэмічны тэатр, Інстытут мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, бібліятэка, сярэдняя агульнаадукацыйная школа № 19. Заснавана Дзяржаўная літаратурная прэмія імя Янкі Купалы, сярод лаўрэатаў якой М. Танк, П.Панчанка, У.Дубоўка, А. Макаёнак, А. Куляшоў, К. Крапіва і інш.

Ушанавана памяць паэта і па-за межамі Беларусі. 100-гадовы юбілей беларускіх песняроў Купалы и Коласа паводле рашэння ЮНЕСКА адзначаўся на міжнародным узроўні.

Помнікі Купалу ўсталяваны ў Араў-парку ў Нью-Ёрку, на Кутузаўскім праспекце ў Маскве. У Санкт-Пецярбургу, Смаленску, Кіславодску, пасёлку Пячышчы каля Казані, вёсцы Соф'іна Раменскага раёна Маскоўскай вобласці, Вільнюсе, пасёлку Гаспра каля Ялты ёсць мемарыяльныя дошкі, прысвечаныя паэту. Імем Янкі Купалы былі названы караблі Дунайскага і Волжскага параходстваў. Купалаўскія найменні атрымалі школа і вуліца ў Душанбэ, бібліятэка ў Харкаве, вуліцы ў Кіеве і Запарожжы, у Ташкенце, Тбілісі, Рызе, Ніжнім Ноўгарадзе, Беластоку, Гданьску і інш.

У пасёлку Пячышчы (Рэспубліка Татарстан) ужо больш як 35 гадоў дзейнічае Музей-кватэра Янкі Купалы. У 2011-м беларускай школе ў Рызе прысвоена яго імя.

Пасольства Рэспублікі Беларусь у Дзяржаве Ізраіль выступіла з ініцыятывай надаць імя Янкі Купалы адной з вуліц ці плошчаў у горадзе Ашдод, шостым па велічыні ў гэтай краіне, у якім пражывае вялікая беларуская дыяспара. Супрацоўнікі музея Купалы накіравалі навуковую даведку пра стасункі паэта з прадстаўнікамі яўрэйскага народу і яго стаўленне да праблемы антысемітызму. Яшчэ ў 1911 г. паэт выказаў сваю грамадзянскую пазіцыю па гэтым пытанні, калі разам з У. Караленкам, М. Горкім, А. Талстым, А. Блокам і іншымі дзеячамі культуры падпісаў зварот "Да рускага грамадства" супраць "справы Бейліса". Адказ атрымалі станоўчы — плошча імя Янкі Купалы хутка з'явіцца ў Ізраілі.

На верасень запланаваны міжнародны выставачны і культурна-адукацыйны праект "Сярэбранае руно" ("Янка Купала і рускія пісьменнікі мяжы XIX — XX стст.") Праект ажыццяўляецца разам з Дзяржаўным літаратурным музеем (г. Масква).

Створаны мастацка-дакументальныя перасоўныя выстаўкі "Янка Купала ў дыялогу культур", "Паэзія купалаўскіх мясцін", "Янка Купала і тэатр" для экспанавання ў дыпламатычных і консульскіх установах Рэспублікі Беларусь. Прыемна, што многія Пасольствы нашай краіны актыўна ўключыліся ў святкаванне юбілеяў класікаў. Так, напрыклад, да нас звярнуліся беларускія пасольствы ў Аўстрыі, Бельгіі, Пастаяннае прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у ААН з просьбай прадаставіць перасоўныя выстаўкі і іншыя матэрыялы.

Пачалося супрацоўніцтва ў рамках правядзення юбілейных мерапрыемстваў і з беларускімі дыяспарамі ў іншых краінах. Вядуцца работы па стварэнні навуковай канцэпцыі і тэматычнай структуры музея Янкі Купалы ў беларускай школе ў Рызе. Падрыхтавана выстаўка "Родная нівы я мільённа часціна…", якая будзе экспанавацца ў Латвіі з 26 мая па 1 чэрвеня. Плануецца правядзенне шэрагу мерапрыемстваў з "Саюзам беларусаў Казані", "Саюзам беларусаў Дона", Беларускім таварыствам у Польшчы, а таксама іншымі беларускімі дыяспарамі.

Неабходна мемарыялізацыя купалаўскіх мясцін пры актыўнай дапамозе мясцовых улад. Калі яны паспрыяюць, з'явіцца мемарыяльная дошка на касцёле ў Радашковічах (Маладзечанскі раён), дзе хрысцілі Янку Купалу, мемарыяльныя памятныя знакі ў в. Бараўцы (Мінскі раён), в. Вялікія Бакшты (Маладзечанскі раён), в. Беліца (Сенненскі раён), дзе Купала працаваў на броварах.

Уладзімір Караткевіч сказаў пра Янку Купалу: "Гэты чалавек усім створаным вярнуў народу годнасць, годнасць за сваё мінулае, сілу жыць у сённяшнім, мужнасць, каб глядзець у будучыню.

Бываюць паэты большага ці меншага генія, больш ці менш моцнага ўплыву на розум і ўяўленне Чалавека, але для нас, беларусаў, ён адзін такі.

Ён — Купала. І гэтым усё сказана".

Мне вельмі хочацца, каб беларусы заўсёды памяталі гэтыя словы — і праводзячы святы, імпрэзы, акцыі і выстаўкі ў юбілейным Купалаўскім годзе, і ў паўсядзённым жыцці і працы.

## Глыбокае-2012

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

# Ураджайная ніва Алеся Жыгунова

**Падведзены вынікі рэспубліканскага конкурсу Беларускага саюза журналістаў "Залатое пяро-2011". Яго лаўрэатамі сталі аўтары высокапрафесійных работ, апублікаваных у рэспубліканскіх, абласных, гарадскіх і раённых СМІ, прагучаўшых у тэле- і радыёперадачах. Прэмію імя Р. Булацкага за важкі ўклад у развіццё рэгіянальнай журналістыкі атрымаў Алесь Жыгуноў — загадчык аддзела агрaпрамысловага комплексу раённай газеты "Веснік Глыбоччыны". Чытачам "ЛіМа" А. Жыгуноў вядомы як аўтар паэтычных кніг "Матчына вышыванка", "Мая тройца", "Пагавары са мной пра восень", "Ля цяпельца зары" і іншых. Ён — лаўрэат рэспубліканскай літаратурнай прэміі "Залаты купідон".**



*Дыплом лаўрэата прэміі "Залатое пяро-2011" Алесю Жыгунову (справа) уручае сакратар праўлення БСЖ Міхаіл Шыманскі.*

**— Алесь, цябе рэдка можна заспець у рэдакцыйным кабінеце…**

— Дык у мяне ж ненарміраваны рабочы дзень! *(Смяецца.)* Падчас сяўбы ці жніва, бывае, прыязджаю дадому позна вечарам, а то і ноччу. Да абеду звычайна здаю матэрыялы, а заўтра зранку — зноў у дарогу. На фермы, збожжасховішчы, сенажаці, палеткі — да людзей…

**— Чытаючы "Веснік Глыбоччыны", заўважыў: газета пазбягае павучанняў, як трэба сеяць, убіраць хлеб, карміць жывёлу. Наколькі мне вядома, некаторыя "раёнкі", наадварот, лічаць публікацыю такіх матэрыялаў адным з кірункаў сваёй дзейнасці.**

— Магчыма, так вырашылі заснавальнікі газет. Мы ж імкнёмся зазірнуць у душу селяніна, дахodліва расказаць пра яго плённую працу і залатыя рукі. А тэхналогіяй вырошчвання ўраджаяў няхай займаюцца спецыялісты-аграрнікі. Дарэчы, нашы ініцыятывы падтрымліваюць старшыня райвыканкама Алег Морхат, начальнік райсельгасхарчу Алег Скрабнеўскі, старшыня райкама прафсаюза работнікаў АПК Вячаслаў Кажан. Аднак гэта не значыць, што газета павінна быць "беззубай". На яе старонках няма крытычных публікацый. Канечне, не ўсім яны даспадобы. Але інакш нельга.

**— Матэрыялы рубрык "Ардэнаносцы Глыбоччыны", "Блакітны вецер", "Водсветы жыцця", "Фотааб'ектыў абвінавачвае", якія ты вядзеш, паездкі, сустрэчы, рэйды — усё гэта патрабуе і часу, і сіл. Ці застаецца яны для паэзіі?**

— Ведаеш, я ніводнага верша не напісаў за сталом, хоць і згодны з табою: паняцці лірыка і жывёлагадоўчая ферма не вельмі стасуюцца. Вершы нараджаюцца ў галаве ў любы момант. Скажам, "Палявая дарога", што пакладзены на музыку, з'явіўся падчас прагулкі на веласіпедзе. І такіх прыкладаў шмат.

**— Ты ўзначальваеш літаратурнае аб'яднанне "Даляглялды". Як вашы творцы рыхтуюцца да Дня беларускага пісьменства?**

— Як і ўсе глыбачане, мы бяром удзел у суботніках, нядзельніках па добраўпарадкаванні. Актыўна супрацоўнічаем з выдавецтвамі "Літаратура і Мастацтва" і "Мастацкая літаратура", у якіх рыхтуюцца кнігі "Зямля любімая навечна ад Доўтага да Беразвечча" і "Глыбоччына літаратурная". У літаратурна-музычнай гасцёўні "Сустрэчы для вас" ладзім вечарыны з пісьменнікамі, музыкамі, мастакамі суседніх раёнаў, гасцямі з Мінска і Віцебска. Выступаем у бібліятэках, клубах… І на Дні пісьменства мы зможам годна прадставіць свае творчыя набыткі.

**Што ж, жыватворная крыніца, якая аднойчы забруіла на Глыбоччыне, невычэрпная, яна наталяе і маладыя літаратурныя парасткі.**

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

## Слова чытачу

# Раўняецца каханне?

Вольга РОПАТ




**Алесь Бадак — пісьменнік, творы якога прасякнуты ўспамінамі. Так, у аповесці "Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца" распавядаецца пра юнака, які закахаўся ў сваю настаўніцу біялогіі — Таццяну Антонаўну, Танечку. Юнак не адмаўляецца ад пачуцця, хоча быць з каханай, але...**

Аўтар ператварае досыць распаўсюджаны сюжэт пра школьнае каханне ў гісторыю, якая адбываецца адначасова ў двух паралельных светах — мінулым і сучаснасці — і дапамагае даросламу чалавеку разабрацца ў памкненнях няўрымслівага юнака.

У гэтым творы каханне пераплятаецца з усведамленнем радзімы, любоўю да сваёй зямлі. Асабліва западаюць у душу словы бацькі юнага героя: *"Чым больш ты пакінеш дома дарагіх табе рэчаў, тым больш будзеш хацець сюды вярнуцца"*.

У аповесці шмат вясёлых і шчымлівых момантаў. Наогул, і пабудова сюжэта, і лексічныя сродкі, якія выкарыстоўвае аўтар, спрыяюць таму, каб мы яшчэ раз задумаліся над самым галоўным жыццёвымураўненнем, дзе ў выніку мусіць быць Каханне…

*Голас Беларусі*

# Міжнароднаму вяшчанню Беларускага радыё — 50 гадоў

**Калі б хто з выпадковых наведвальнікаў зайшоў у дзявятую студыю Беларускага радыё, што на Чырвонай, 4, у час запісу праграм, быў бы нямала здзіўлены: мужчынскія і жаночыя галасы прамаўляюць тэксты на самых розных мовах. Толькі асобныя — знаёмыя — словы можна разабраць: Мінск, Полацк, Янка Купала, Якуб Колас...**
**Нават калегі на радыйных калідорах часам здзіўляюцца: як лёгка і вольна супрацоўнікі Радыё "Беларусь" гавораць па-нямецку і па-англійску, па-польску і па-іспанску, па-французску — не горш за парыжан.**

*Ян ЖЫЗНЕЎСКІ,*
**фота Кастуся Дробава**

— І вядома ж, па-беларуску і па-руску, — дадае дырэктар дырэкцыі падрыхтоўкі праграм на замежных мовах "Беларусі" Вячаслаў Лакцюшын. — Зміцер Занеўскі, дарэчы, акрамя англамоўных праграм вядзе перадачы на беларускай і рускай мовах, калі б спатрэбілася, працаваў бы і на шведскай, а таксама на польскай. Тое ж можна сказаць пра Алену Шыкун, рабочая мова якой — нямецкая, Рамана Яніва, Паліну Барцаву...

Дарэчы, па словах Вячаслава Аляксандравіча, на Радыё "Беларусь" працуе сёння больш як дзесяць выпускнікоў перакладчыцкага аддзялення Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, якія паспяхова авалодалі прафесіяй журналіста.

Міжнароднае вяшчанне Беларускага радыё — буйны радыёканал, які працуе круглыя суткі на кароткіх і сярэдніх хвалях, у FM-дыяпазоне на прыгранічныя раёны Беларусі і ў інтэрнэце. Партнёры нашых журналістаў ёсць у Германіі, дзе штодня транслююцца праграмы, у Беластоку, дзе прадстаўнікі шматлікай беларускай дыяспары з задавальненнем слухаюць перадачы на роднай мове, у Еўрапейскім вяшчальным саюзе, з яго партала нашымі матэрыяламі карыстаюцца звыш 120 буйнейшых інфармацыйных агенцтваў Старога Свету.

— А пачыналася ўсё з паўгадзіны вяшчання на беларускай мове, — згадвае пісьменнік Мікола Чарняўскі, адзін з першых супрацоўнікаў, што прыйшоў на радыёстанцыю, якая звалася тады "Савецкая Беларусь", роўна пяцьдзясят гадоў таму. — Мы нават уявіць не маглі, якім магутным стане голас краіны ў міжнароднай прасторы.

Шмат клопатаў штодня ў галоўнага дырэктара, вядомага пісьменніка і журналіста Навума Гальпяровіча. Гэта з яго прыходам у калектыў восем гадоў таму радыёстанцыя стала хутка і дынамічна развівацца.

— Я адчуваю падтрымку кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі і, не ў апошнюю чаргу, першага намесніка старшыні А. Саламахі, — прызнае Навум Якаўлевіч. — Трэба было стварыць сучасны паўнавартасны канал, адысці ад правінцыйнасці, драбнатэм'я, павялічыць колькасць моў. Сёння можна сказаць, што ў асноўным нам гэта ўдалося. Колькасць гадзін вяшчання павялічылася амаль у шэсць разоў, замест чатырох рабочых моў сталі карыстацца сямю. Сфарміраваўся вельмі цікавы калектыў, якім можна толькі ганарыцца. Гэта мой намеснік Р. Прохараў, загадчыкі аддзелаў Р. Міцюшнікаў, М.Драгіна, журналісты Л. Сурэс, Т. Гаргалык, А.Якавенка, Т. Зеніна, В.Міцюшэнка, В. Блажэвіч. Дарэчы, Вольга Блажэвіч — цікавая паэтка, не раз выступала ў друку.



*У студыі Радыё "Беларусь": Ксенія Кавалёва, Алена Шыкун, Вячаслаў Лакцюшын, Навум Гальпяровіч, Вікторыя Хаміцэвіч.*

Працягвае супрацоўніцтва з намі Таццяна Сівец, якая шмат зрабіла за час работы на нашым радыё для прапаганды беларускай мовы і культуры. Сярод нашых няштатных аўтараў пісьменнікі Алесь Бадак, Уладзімір Ліпскі, Маргарыта Прохар, журналіст і паліголаг Вадзім Гігін, мовазнаўца Алена Пекач, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Святлана Дзянісава, дэкан тэатральнага факультэта Беларускай Акадэміі мастацтваў Уладзімір Мішчанчук. На хвалях нашага радыё частыя госці — вядомыя ў краіне людзі, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў, дэпутаты, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый.

Што ж, мы часам не заўважаем, колькі цікавага, важнага і значнага побач з намі. І пра тое, што ў маладой беларускай дзяржавы такі яркі і магутны голас у міжнароднай радыёпрасторы, таксама ведаюць, магчыма, не ўсе. Але пошта кожны дзень прыносіць на Чырвоную цікавыя лісты з самых розных куткоў свету. Праз перадачы Радыё "Беларусь", праз конкурсы і онлайн-канферэнцыі людзі на ўсіх кантынентах больш даведваюцца пра наш цудоўны край. Дзякуй за гэта сённяшнім юбілярам, новых ім творчых поспехаў!

*Партрэт на фоне кнігі*

# Па законах паэзіі

*Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,*
**фота Кастуся Дробава**

**Юрый Сапажкоў — паэт, які можа і дзве, і тры гадзіны запар натхнёна расказваць пра тое, што, безумоўна, з'яўляецца галоўным у яго жыцці, — пра паэзію. І будзе распавядаць гэтак шчыра і аддана, што суразмоўца сціхне, стаіўшы дыханне, захапляючыся, уздымаючыся над сабою.**

— А ведаеце, напісанне аднаго верша можа зацягнуцца на доўгія гады, нават на дзесяцігоддзі, — распачынае Юрый Міхайлавіч нечакана. — Вось толькі на днях мне прыйшло чатырохрадкоўе, якім трэба завяршыць даўно ўжо, здаецца, скончаны і нават апублікаваны верш "Точка невозврата".

**— "Точка невозврата" — гэтак жа называецца ваш паэтычны зборнік... Дык згаданы верш не прахадны, а знакавы?**

— Можна сказаць, што ён — этапны. Аднак, паставіўшы неяк кропку ў канцы апошняга радка, я ўсё не мог супакоіцца і час ад часу вяртаўся да яго ў думках, асэнсоўваў. Усё больш упэўніваўся — недасказана! І раптам патрэбныя радкі прыйшлі. Нават сэнс стаў іншым, больш глыбокім, можа, больш трагічным. Вось як заканчваўся верш раней:

*И как ни медли, предстоит*
*Тебе решить,*
*что ложь, что свято,*
*Расслышать, что душа велит*
*Пред этой точкой невозврата.*
*Когда назад уже не сметь,*
*И время надвое разъято,*
*И что-то гонит, как на смерть,*
*Тебя за точку невозврата.*

Цяпер заканчэнне гучыць гэтак:

*Мне голос свыше: разумей,*
*Пора понять — земля поката,*
*Пойдёшь за точку невозврата*
*И снова выйдешь прямо к ней…*

Абмеркаванне асобнага верша пераходзіць ў абмеркаванне таго, як наогул з'яўляюцца вершы.

— Знянацку. Калі ты штосьці перажываеш, то хочацца ўсё дадумаць і здзівіцца новаму сэнсу, ракурсу, цікавай аналогіі. Калі гэта



адбываецца, то вершы практычна гатовыя. Працэс запісвання на паперы — другасны. Ты садзішся за стол ужо з гатовым ці амаль гатовым вершам. А можа, і не садзішся наогул. Я пішу звычайна на вуліцы — калі верш з'явіўся, трэба яго найхутчэй занатаваць, каб не згубіць нерв, каб не забыць мелодыку…

**— Калі ў школе вывучаюць творчасць класікаў, звычайна кажуць пра вялікія планы паэтаў, задумы, папярэднюю дэталёвую распрацоўку вобразаў. А на самой справе як?**

— На самой справе паэзія не плануецца. Жыццё паэта дзеліцца на такія этапы, калі яму не пішацца, і этапы натхнення, калі пастаянна ў галаву прыходзіць нешта нечаканае, тое, што трэба абдумаць. Нараджаюцца метафары, якія хочацца развіць. Штосьці адчуваеш, знаходзіш, штосьці стукаецца да цябе. Мяне тады цягне пахадзіць па вуліцах… А спецыяльна запланаваць ці то па заказе, напрыклад, напісаць: вось, складзі верш пра Радзіму — гэта проста глупства.

**— Ну чаму ж… Пісалі нават цэлыя паэмы па заказе…**

— Але нічога з гэтага не засталося пасля ў людской памяці. Толькі ў кніжках, што гэтыя паэты павыдавалі.

**— Але ж паэт можа натхніцца і патрыятычнай тэматыкай. Вось, у Роберта Раждзественскага ёсць паэма "210 крокаў". Можа, яе і замаўлялі. Але адчуванне такое, нібыта ён кожны радок выпакутаваў, праз сэрца прапусціў.**

— Вы маеце рацыю. Паэт, які склаўся як творца, паверыў у сябе, можа напісаць на любую тэму. І напісаць не як пачатковец, не як пасрэднасць — напісаць хораша. Але не так, каб гэта засталося, каб гэтым і праз шмат гадоў захапляліся. Майстар зрабіў харошую рэч — як сталяр зрабіў якасную мэблю. Гэта было характэрна для нашых савецкіх паэтаў. Пэўна, толькі для іх.

Узгадваючы пра "два ўніверсальныя пытанні", адказ на якія заўжды будзе цікавым, — пра веру і пра каханне, — неадкладна задаю іх Юрыю Міхайлавічу.

— Я веруючы чалавек. У нас у родзе былі святары, у тым ліку і мой дзед. Я лічу, што мяне чатыры разы ў гэтым жыцці ратаваў Бог. У дзяцінстве ледзь не падарваўся на міне, якая засталася пасля вайны. Пазней мусіў патануць — не патануў. Аднойчы блізка-блізка каля мяне праляцела шаравая маланка. І ўрэшце ледзь не ўпаў разам з самалётам — ён садзіўся без шасі.

**— Можа, Бог гэтак настойліва адводзіць ад вас бяду дзеля вашых вершаў?**

— Я думаю, нас ратуюць ад вернай смерці дзеля таго, каб мы больш цанілі жыццё і стараліся несці іншым людзям добра…

**— І каханне…**

— Каханне — складанае пачуццё. Выпрабаванне, пакутлівае пакаранне, адкрыццё ўласнай недасканаласці… І пры ўсім гэтым яно дае абсалютна ўнікальную магчымасць максімальна ачысціцца дзеля каханага чалавека. У мяне шмат вершаў, народжаных гэтым пачуццём. У выдавецтве "Літаратура і Мастацтва" ляжыць зборнік "Дай пламени у пламени остыть" — сто з лішкам вершаў, прысвечаных пераважна каханню. Яно прайшло праз маё жыццё, вельмі сур'ёзна паўплывваўшы на яго. Але аднойчы я зразумеў, што сваім каханнем не магу нікому прынесці шчасця… Ды і наогул, заўважыў, што калі ў паэта атрымліваецца сапраўды варты верш пра каханне, то будзе ён трагічнага гучання. Ва ўсялякім разе — з прадчуванне бяды, марнасці сваіх пачуццяў, немагчымасці шчасця.

**— Тым не менш прынята лічыць, што толькі каханне робіць паэта паэтам…**

— Тут можна паспрачацца. У Твардоўскага, напрыклад, няма ніводнага верша пра каханне, але ж глядзіце, які вялікі паэт! Альбо вось нядаўна прачытаў вершы Галубовіча са зборніка "З гэтага свету" — там пра каханне толькі адзін ці, мабыць, два творы. А кніга — проста ўражвае.

Юрый Сапажкоў — не толькі сапраўдны паэт, але і публіцыст сапраўдны. І крытык. Патрабавальны, але добразычлівы. Ён ніколі не падыходзіць да ацэнкі кнігі фармальна — чытае яе заўжды цалкам, удумліва. І на самай справе разумее, што можа кіраваць творцам у сучасным свеце, бо чытае шмат.

— Калі не пішацца, то хочацца чытаць, — кажа ён. — Я проста ўражаны тым, што бачу вакол сябе столькі твораў, з якімі варта было б азнаёміцца.

Аднак пры ўсёй адкрытасці Юрый Сапажкоў далучае сябе да пісьменнікаў, якія прагнуць "пустэльніцтва".

— У мяне дрэнны характар, — кажа ён. — Я не магу быць нават з тымі, хто мяне сапраўды любіць. Я не зближаюся, напрыклад, з прыхільнікамі маёй творчасці, нават не імкнуся да сустрэч, кантактаў. Але не таму, што мне не прыемная іх увага. Наадварот, лаўлю сябе на думцы, што надта прыемная, распраўляю плечы. І… тут жа пачынаю дакараць сябе, саромецца сваёй гардыні і — змагацца з ёю ўсімі магчымымі спосабамі.

# «Душа не ведае спакою, калі на свет раджае верш…»

Мікола МІШЧАНЧУК

**Ён нарадзіўся ў цудоўным кутку Беларусі — у вёсачцы Каралішчавічы, што прытулілася непадалёку ад Мінска ў атачэнні бухматых елак і стройных бярозак, лугавін і ляшчынніку, у 1902 годзе, 20 мая. У культурнай, па тым часе нябеднай сялянскай сям'і, дзе шанавалі і высока ацанілі вынікі не толькі фізічнай працы. Таму і адвозілі на продаж у Мінск яе здабыткі, каб даць адукацыю, вывесці ў людзі дачок Юзэфу і Леакадзію, сыноў Вінцуся, Баніфацыя і Ізідора. І яго — будучага слыннага паэта і літаратурнага крытыка Іосіфа, па-вясковаму — Язэпа.**

Гэтае ўтульнае месцейка пазней Язэпу Пушчы давялося пакінуць надоўга як студэнту БДУ, а затым Ленінградскага ўніверсітэта, пасля арышту па фальшывым абвінавачванні ў нацыяналізме ў 1930-м і як вязню сумлення — да 1958 г., калі, рэабілітаваны, вярнуўся на Радзіму.

Ужо пасля таго, як славутага каралішчаўца не стала, яго незабыўная, слаўная спадарожніца жыцця Станіслава Эдуардаўна пры асабістай сустрэчы спавядалася, што сям'я "дзекабрыста XX стагоддзя", высланага ў далёкі Шчадрынск, выжыла дзякуючы шчодрасці, чалавечнасці мясцовага рахункавода Івана Іванавіча, які ў перыяд усеагульнай падазронасці і шпіёнаманіі асмеліўся пазычыць сям'і "ворага народа" грошы са словамі: "Без працы загінеце. Дзеткі не будуць жыць. Будзе праца — аддасцё, а не будзе — то і не трэба".

Са споведзі Станіславы Эдуардаўны я даведаўся, што арыштавалі паэта пасля таго, як ён вярнуўся з пакошы ў бацькоўскі дом адпачываць. З болем прыгадвала мая сумоўніца, як здзекаваліся з паэта Алесь Дудар (ён жа Тодар Глыбоцкі), Янка Ліманоўскі. Са слязамі на вачах жанчына казала пра тое, што сацыяльны землятрус раскалоў на асобныя кавалкі дружную сялянскую сям'ю, нанёс яе членам незагойныя раны: бацькі паэта сталі жабракамі, сканалі ў чужой хаце; брат Баніфацый памёр на Асіпаўшчыне; сястра Леакадзія, працуючы аграномам у Трасцянцы, перажывала непрыхільнае стаўленне ўлад; брат Ізідор эмігрыраваў у ЗША…

Усё гэта трэба было перажыць… Дзякуй Богу, што "простыя", добрыя людзі сустрэліся на шляху Плашчынскіх-Пушчаў у сяле Чаадаева Мурамскага раёна, дзе ажно 17 гадоў (1941 — 1958) настаўнічаў, дырэктарстваваў, пісаў вершы на рускай мове, гадаваў вішнёвы сад аўтар "Песень на руінах". Да самай яго смерці, нават і пасля яе, ужо Станіслава Эдуардаўна атрымлівала віншаванні са святамі, запрашэнні на літаратурныя вечары, лісты-роздумы ад чаадаеўцаў — настаўнікаў, вучняў, жыхароў…

* * *

Язэп Пушча — сын драматычнага, складанага XX стагоддзя, які выявіў у сваёй творчасці яго маланкавыя водбліскі, перажыў (сумленна!) яго поспехі і страты. Ён не згубіўся сярод вяршынь — Купалы, Коласа, Багдановіча, праспяваў сваю, адметную і непаўторную, песню.

Першыя ноты гэтай песні былі народжаныя дзівоснай каралішчавіцкай прыродай, вясковым побытам, маладнякоўскім (ён быў адным з заснавальнікаў "Маладняка") захапленнем паслякастрычніцкімі зменамі ў жыцці. Паэт выгукнуў свой настрой ужо загалоўкамі зборнікаў "Раніца рыкае" (1925), "Vita" (1926), "Дні вясны" (1927). Аднак на хвалі агульнага захаплення і дэкларатыўнасці, "бурапеннасці" не застаўся, здолеў насыціць сваю лірыку, у адначассе з А. Звонакам, Т. Кляшторным, А. Моркаўкам, імажыністкімі, ускладнена-асацыятыўнымі вобразамі, перадолець каноны праўдападобнага, апісальнага мастацтва. У вершы "Прывітанне табе…" жывой істотай паўстае песня, у якой "шчокі румяняцца сонцам у снежні". І сёння чытач успрымае як навацыйныя, нечаканыя радкі верша "Я раніцы кланяўся ў пояс…": — "Сахою я гонейкі песціў, / Кілзаючы сонца ў шлеі": выразна рэалістычны, "ласкава-памяншальны" малюнак ворыва дапаўняецца, звышпраўдзівым, разлічаным на фантазію рэцыпіента, на працу яго ўяўлення пра магчымую сітуацыю — хіба сонца можна зацугляць у шлеі? Крытыка асабліва чаплялася за гэты вобраз і прыпісвала Язэпу Пушчу дэкадэнцтва. Максім Гарэцкі ў творчасці Пушчы, яго равеснікаў-маладнякоўцаў прызнаў наяўнасць імажыністкіх вышукаў, што вылілася ў "зусім здаровую і патрэбную творчасць арыгінальных слоў і вобразаў" яшчэ ў 1928 годзе.

У асобе гэтага маладога паэта, нават ва ўмовах суровай ідэалагічнай дыктатуры, літаратура імкнулася да змястоўнага і фармальнага разняволення, выкіроўвалася на эстэтычны эксперымент, адмаўлялася ад схематычнага адлюстравання мінулага і паслярэвалюцыйнай рэчаіснасці. Верш-маналог "Узвейся, вецер…" прасякнуты думкай, што прычына нягод і няшчасцяў паслякастрычніцкай краіны і яе народа — страта Крыжа Хрыстова, тое, што "Мы жывём без імені святога".

Падобны погляд на рэчаіснасць стаў пераважаць у паэзіі Язэпа Пушчы 1927 — 1930 гадоў, што асабліва выразна выявілася ў зборніку з гаваркой назвай — "Песні на руінах" (1929). Усяго ў ім каля трох дзясяткаў вершаў, аб'ядналых агульнай назвай "Чорная дарога". Яны гучаць як цэласная трагічная мелодыя, абумоўленая і сацыяльнымі, і маральнымі фактарамі. Сярод апошніх — здрада сяброў, нават былых аднадумцаў, якія цкуюць паэта ў прэсе, запісваюць яго ў кагорту "дробнабуржуазных пісьменнікаў", "нацдэмаў". Матыў здрады ідэалам дабра і праўды, сумленнаму мастацтву і немагчымасці пакарання здраднікаў — цэнтральны ў нізцы. У вершы "Сягоння ноч пагодная..." вобразы "лёд" і "прадонне" сталі побач, стварылі эфект невыноснасці таго, што робіцца і з жыццём, і з самім паэтам: "У дзікім чуем голасе: // Душу і песню на ладоўню", "Схіліўся дзень твой над прадоннем". Твор "Чорныя вароны" ў многім прарочы, гэта элегія, прасякнутая невымерным болем. Бязлісты сад — спустошаная радзіма і, магчыма, ушчэнт збяднелая паэзія; чорныя вароны — пісьменнікі-харысты, якія ўхваляюць сумніўныя каштоўнасці. Людзі абмінаюць іх, каб не чуць крыку — "дзікага" і "прыкрага".



Язэп Пушча. 1925 г.

У агульную трагедыйную канцэпцыю рэчаіснасці ўпісваюцца даваенныя паэмы Язэпа Пушчы "Цень Консула. 1918", "Песня вайны. 1914 — 1915", надрукаваныя крыху пазней "Крывавы плакат" (варыянт назвы — "Крывавы год") і "Сады вятроў". Паводле мастацкіх вартасцей гэта не раўназначныя творы. Лірыка-філасофская з дыялогавымі застаўкамі "Цень Консула", прысвечаная акупацыі Беларусі войскамі кайзераўскай Германіі ў 1918 годзе, праецыруецца на сталінскую рэчаіснасць і сюжэтам, і вобразамі ўдзельнікаў трагедыі, якая разгортваецца ў акупаваным чужынцамі Мінску. Занепакоенасць занядбаннем гуманістычных прынцыпаў існавання, магчымай страты, незалежнасці краіны, адчуванне сталінскіх рэпрэсій сталіся штуршком для нараджэння задумы і яе ўвасаблення ў радкі прарочага твора. Дзеянні Атэры, спрацыраваныя ў паэме і на мінулае, параўноўваюцца з дзеяннямі дэспатый Старажытнага Рыма.

> *Язэп Пушча — сын драматычнага, складанага XX стагоддзя, які выявіў у сваёй творчасці яго маланкавыя водбліскі, перажыў (сумленна!) яго поспехі і страты. Ён не згубіўся сярод вяршынь — Купалы, Коласа, Багдановіча, праспяваў сваю, адметную і непаўторную, песню.*

Паэма "Сады вятроў" (1930) годна завяршае другі, пераацэначны перыяд творчасці паэта. Напісана яна ў дыялогавай форме. Паэт-рамантык Грыміцкі (вобраз аўтабіяграфічны) адстойвае прынцыпы такога мастацтва, калі творы сталіся б "помнікамі эпохі", якія не змагла б "раз'есці" "часу горкасць".

Апанент Грыміцкага, колішні сябра празаік Мяроха, не прызнае "сады вятроў" як знак сапраўднай прыгажосці; яны не вабяць яго сваёй патаемнай незвычайнасцю, а "гучаць, як тыя авадні". На прапанову Грыміцкага — "Зірні, як тут усё красуе! // З садамі лепш ты не ваюй…" — Мяроха адказвае: "Як бы прыгожа ні казаў; // Вада шмат прыгажэй шумуе, // І прыгажэй бляе каза". Пазіцыя апанента-"рэаліста" меркантыльная: ён хоча спажываць у свaім часе ўсё, што толькі можна, што прыносіць карысць і выгаду ("Карысць, карысць ва ўсім — мой лозунг, // І ў творчасці заўжды яна"). Мяроха — адзін з харыстаў-дагаджальнікаў, пазіцыя якіх была непрымальная не толькі для Грыміцкага, але і для самога Пушчы.

Асаблівае раздражненне вульгарнай крытыкі выклікалі вершы "Ліст да сабакі" і "Ліст ад сабакі", напісаныя пад уплывам ясенінскага шэдэўра падчас вучобы ў Ленінградскім дзяржаўным універсітэце і надрукаваныя ў часопісе "Узвышша" (1927, № 5) у падборцы пад назваю "Асеннія песні". Самі назвы вершаў успрымаліся крытыкамі як выклік грамадству і перабудовачнаму часу: маўляў, паэт не знайшоў сумоўцаў сярод людзей і таму звярнуўся да жывёлы. Аднак амаль ніхто не заўважыў, што гэта былі лісты дадому, сумныя пасланні часова адарванага ад роднага кутка чалавека. Гэтая адарванасць ад традыцыйных каштоўнасцей і вылілася ў сімфонію расчараванасці і болю ("Туга і боль пабілі мне душу на рану", "Калі паэт галоў на грудзі звесіць, // Няўжо краіне ён тады не сын?"). Аказваецца, пясняр тугі і болю — не сын краіны, што будуе самае справядлівае грамадства на зямлі. Язэп Пушча трапіў пад "аглабельную крытыку" бэндэўскага кшталту, як і аўтар трагедыйных твораў Янка Купала, як творца паэмы "Калі асядае муць" Тодар Кляшторны, як узвышавец Андрэй Мрый з яго спробай выкрыць самасуеўшчыну, як Лукаш Калюга з яго прагнастычнымі творамі. Той, хто хацеў "супраць ветру размахнуць крыламі", хто ўспрымаў бальшавіцкія эксперыменты як народную трагедыю, ці складваў крылы і мірыўся, ці гінуў на неабсяжных прасторах Поўначы, Сібіры, Далёкага Усходу, ці пасля перанесеных пакут усё ж вяртаўся дадому.

* * *

Трэці перыяд творчасці Я. Пушчы прыпадае на гады вымушанай "эміграцыі" за межы Радзімы, калі было напісана на роднай мове няшмат, і 1956 — 1964 гады, калі паэт быў адноўлены ў правах, перажываў хвіліны радасці, верыў у будучыню. Тэматычныя абсягі яго творчасці пашырыліся ў параўнанні з "узвышаўскім" перыядам: з'явіліся вершы пра мясціны, дзе каля трох дзясяткаў гадоў ён жыў, пра лёс пакаленняў, прысвячэнні Адаму Міцкевічу, Байрану, Сяргею Ясеніну, Яну Райнісу. Побач з карцінамі беларускай прыроды ("На возеры", "А ў бары, бары сасонкі", "Свіцязь", "Белавежа") паўстаюць карціны марскога пейзажу ("На ўзмор'і", "Мора"), у стылі пасляваеннага часу пішуцца вершы на вытворчую ("Будаўнік", "Настаўнік") і ўрбаністычную ("Мінск", "У Навагрудку", "Гродна") тэматыку. Радасны настрой паэта выліваецца ва ўрачыстыя оды ўсяму існаму: жыццю, людзям, прыродзе, Радзіме, пра што сведчаць нават назвы: "Засяваю поле чыстым зернем", "Усміхаецца вясна", "На Радзіме так прыгожа", "Хараством зямлі любуюся"…

Зрэдзь праблісквае трывожная нотка, прыглушаецца святочная мелодыя, і на змену ёй прыходзіць у паэзіі гэтай пары ранейшы роздум над вечнымі праблемамі існавання, з'яўляецца ўзвышаўская спавядальнасць, як у "Валунах" ("Не будзе камень на грудзях зямлі ляжаць — // Размелюць часу жорны, // І вецер попел згорне"). Падчас заіскрыцца, закрынічыць імажыністкая вобразнасць, калі душа на хвіліну-другую як бы скіне з сябе ўстаноўку на адычнае пісьмо:

*Душа не ведае спакою,*
*Калі на свет раджае верш.*
*Усе вокны насцеж у пакоі,*
*На рукі зораньку бярэш*
*І ёй чытаеш новы верш.*

Паэт па-майстэрску авалодвае вершаванай формай санета, іх у Я. Пушчы назбіраецца некалькі дзясяткаў.

На новым этапе творчасці ён паспрабаваў свае сілы і ў паэмным жанры. Гэта і аповед пра старога партызана Лукаша, якога катуюць фашысты, ды не могуць зламаць яго волю — "Бор шуміць" (1957), і "Людвіся" (1959) — пра вясковую дзяўчыну, якая апекавалася параненай дзяўчынкай Анэткай, дапамагла яўрэйцы Равецы, што ўцякала з Трасцянца, уратавацца ад смерці і па волі паліцыянта Яські Смыка, нахабству якога дала годны адказ, сама апынулася ў канцлагеры і толькі цудам уратавалася, кінуўшыся ў азярцо.

Паэт сам не зведаў пакут народа ў акупацыі, таму падзеі ў паэмах паказаў прыблізна, схематычна, не абгрунтаваў дзеянні герояў — дзеда Лукаша і Людвісі. Адсюль — рыторыка, лозунгавасць твораў. Аднак яму ўдаліся асобныя пейзажныя замалёўкі ("Расою плакаў вечар, // Як бабёр, // Усхліпваў вецер // Хвалямі азёр"; "Цераз поле хмаркі неслі // Маладзік — свой серп зубчаты"). Прысутнічае ў "Людвісі" стыхія народных песень. Але, паўторымся, схематызм, зададзенасць творчай устаноўкі на паказ гераізму савецкіх людзей вядуць да рытарызму, лозунгавасці, складаецца ўражанне ненатуральнасці паказанага. Язэп Пушча ў паэтычным эпасе і ў большасці лірычных твораў у 1950 — 1960-я гады застаўся на ўзроўні ілюстратара падзей, выяўлення агульнага пачуцця радасці. Распачаты ў 20-я гады эксперымент па стварэнні арыгінальнага, суб'ектыўнага слоўнага мастацтва меў слабы працяг. Але даруем яго "асляпленне" сонцам надзеі. Як і многім паэтам, што ў першай палове 1960-х гадоў жылі верай у лепшую будучыню, выяўлялі асабісты і агульны настрой грамадства.

Да 100-годдзя Максіма Танка

# Дамовіліся і ў снах прыходзіць…

**Народны паэт Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі Максім Танк пачынаў творчасць у вельмі складаную рэвалюцыйна-вызваленчую эпоху, з'яўляўся актыўным удзельнікам змагання насельніцтва Заходняй Беларусі за сваю долю і волю.**

Святлана КУКУЦЬ

Але змагарныя сцежкі былі б больш няпростымі, каб побач не крочыў чалавек, які падтрымліваў яго ва ўсіх справах і пачынаннях, быў надзейнай апорай, — жонка Любоў Скурко. Максім Танк "сэрцам пісаў кожную песню" і прысвячаў іх Радзіме, беларускаму народу, маці, шукаў адказы на адвечныя філасофскія пытанні. Не менш арыгінальная і багатая любоўная лірыка паэта. Яна наскрозь прасякнутая высокім пачуццём да адзінай жанчыны, якое ён захаваў да самай смерці.

Любоў Андрэеўна была родам з вёскі Новікі, якая знаходзілася побач з Пількаўшчынай. Цікава, што прозвішча ў яе было такое ж — Скурко. Бацькі дзяўчыны яшчэ раней пераехалі ў Вільню — тагачасны цэнтр грамадска-палітычнага і культурнага жыцця Заходняй Беларусі. Максім Танк здымаў у іх пакойчык падчас навучання ў гімназіі, якую, аднак, не закончыў, бо быў выключаны як вальнадумца. Магчыма, з таго часу і з'явілася ў яго светлае пачуццё да дзяўчыны:

*Я помню крылы вашых рук,*
*Сукенку з воблакаў лятучых*
*І басаножак гулкі стук*
*На лесвічнай бетоннай кручы,*
*Свой страх, калі прынёс букет:*
*Хаця б ніхто не мог дазнацца,*
*Што закахаўся ваш сусед…*

Калі польскія ўлады кінулі Яўгена Іванавіча за краты ў Лукішкі, Любоў Андрэеўна аказалася адной з тых, хто не адвярнуўся ад паэта. Яе доўгачака080ныя лісты саграваді сэрца ў халодных сценах камеры.

Дзе б ні жыў паэт — у Вільні, Вілейцы ці Беластоку — яго падтрымлівала дарагая Лю (так называў Максім Танк каханую). Дасылала любімыя кнігі, была яго галоўным крытыкам: "Учора прыйшла паштоўка ад Лю. Піша, што ёй спадабаліся мае апошнія вершы ("Калі хочаш…", "Зноў загарэліся сосны", "Марозны, белы вецер…" і іншыя)".

Знаходзячыся ў разлуцы, Яўген Іванавіч нецярпліва чакаў магчымасці спаткацца з ёю: "Чакаю прыезду Лю. Зараз няма ў мяне нікога з блізкіх, з кім мог бы падзяліцца сваімі думкамі. Нават у турме, у адзіночцы, я знаў, што за сценамі — мае сябры, з якімі магу перастуквацца. Здаецца, яшчэ ніколі такіх бесправетных і глухіх дзён не было" (Вільня, 1938 год).

Маладая сям'я перажыла і цяжкія гады вайны. Яўген Іванавіч з жонкай эвакуіраваліся на ўсход, а бацькі аказаліся пад нямецкай акупацыяй. Уладкаваўшы жонку з малым сынам Максімам, паэт вярнуўся на захад. Служыў франтавым карэспандэнтам у газеце "За Савецкую Беларусь", потым працаваў у газеце-плакаце "Раздавім фашысцкую гадзіну". Пасля вайны быў галоўным рэдактарам часопіса "Полымя", старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі.



*Максім Танк і яго жонка Любоў Андрэеўна. Фота з сайта www.myadel.minsk-region.by.*

Любоў Андрэеўна апошнія гады свайго жыцця правяла ў інваліднай калясцы. Яўгену Іванавічу самому цяжка было хадзіць, але ўвесь час ён быў з жонкай. Яны пастаянна спрачаліся: кожны хацеў памерці раней. Але ў гэтай невясёлай спрэчцы "перамагла" Любоў Андрэеўна, і Максім Танк вельмі цяжка перажываў смерць каханай:

*А восьто часінай трывожнай*
*Не змог аблягчыць твайго болю,*
*Пасля ўсіх амністый — і Божай —*
*Сабе не дарую ніколі.*

Як і дамаўляліся з жонкай, пасля яе смерці ў сакавіку 1995 года яе крэміравалі, а урну з прахам паэт паставіў у тумбачку каля свайго ложка. Сам Яўген Іванавіч доўга не пратрымаўся без любай і памёр праз чатыры месяцы. Урну паклалі ў труну і пахавалі ў адной магіле на радзіме Максіма Танка ў Пількаўшчыне.

Яшчэ ў 1939 годзе ў сваіх дзённіках паэт выказваў надзею: "Хацелася б напісаць пра вялікае каханне… Баюся толькі, што не змагу…" Але ж хіба не з'яўляецца яго любоўная лірыка доказам таго, што гэта мара спраўдзілася? Простая, але па-танкаўску арыгінальная, яна адлюстроўвае ціхае, але моцнае, "адзінаўладнае" пачуццё паэта. Лебядзінай песняй прагучаў яго апошні сум па жонцы, і, здаецца, прарочымі былі радкі:

*А час зямны наш праміне,*
*Згасіўшы сонца дыск на ўсходзе, —*
*Дамовімся: ты — да мяне,*
*Я — да цябе і ў снах прыходзіць.*

---

Соф'я МАРОЗАВА

**Паэзію Раісы Баравіковай называюць "тысячай і адной ноччу кахання". Яе лірычная гераіня, выкшталцоная гараджанка, трымае кветнік на балконе і — сад пачуццяў у душы. "Жанчына ў капелюшы на фоне саду" — такі слоўны партрэт гераіні "намаляваў" даследчык Іван Штэйнер. Якая яна?**

# Сад у квецені

Часам — юная цнатліўка, што бачыць свет "у ружовым мроіве святла", часам — прывабная жанчына, якая між людскога тлуму "паважна, з выглядам гетэры" "чыёсьці сэрца ў кошыку нясе", часам — суцішаная самотніца, што назірае за лістападам, а часам — няўрымслівая дзяўчынка, што горача просіцца "пабыць тваім крылатым ценем". У яе, як у сапраўднай жанчыны, тысяча аблічаў, тысяча галасоў. У паэтычным вобразе "гаворыць" усё: не толькі словы, але і падтэкст, і паўзы, і нават "сукенкі глыбокая складка": "Не лотаць мілую, а ружы // Вам на сукенцы прынясла", "я выбегу да вас, // цяпер — у сцішана ліловым..." Больш за тое — за яе гавораць травы, птушкі, надвор'е, уся прырода: "не ўяўляла калісь, каб бружмель адцвітаў і... набягалі слёзы". Прыехаўшы ў мясціны дзяцінства, гераіня абавязкова падымецца па старой лесвіцы на гарышча, каб прачытаць свае старыя лісты, напісаныя да матулі — і дзіўным чынам замкнецца кола часу...

Гераіня Раісы Баравіковай кіруецца логікай пачуццяў, якая не адрознівае бінарных апазіцый. Таму ў яе паэзіі супрацьлегласці сплаўляюцца алхімічным чынам, вынаходзячы заўсёднае трэцяе, што вырашае непрымірымасць пары. І знешне супярэчлівае ўяўляецца натуральным: "цяжкі камень усклала на грудзі, // лёг, — як зорка ля сэрца ўзышла", "хачу ва ўсім застацца незалежнай, // хачу залежаць ад тваёй рукі", "я ніколі цябе не пакіну — // я ніколі з табой не была". Для лірычнай гераіні ў гэтым заключаецца рэальнасць пачуцця, яго натуральная шматмернасць. Яна ведае, што можна "вернасцю сваёю пакараць", што "мы ўсё бяжым адтуль, дзе любяць нас, // вяртаемся туды, дзе нас любілі". У яе свеце бэз чамусьці нагадвае пах восеньскае астры, а боль і жаль бываюць светлымі: "як ноч сама, як неба шыр, // жыццёвы міг — такі кароткі, // сягоння — з галавою ў вір, // а заўтра нават боль — салодкі". Урэшце, усё адносна, і ў гэтым таксама загадка быцця: "заплача няшчасны — пякельная скруха, // шчаслівы падумае — песня гучыць".

Лірычная гераіня ўмее быць падуладнай свету. Часта не яна кіруе пачуццём, а пачуццё авалодвае ёю: "калі ў асенняй дымцы неба стыне, // калі рабіны горкія гараць, // нагорнецца, наверняцца, нахлыне, // і ты не знаеш, як яго назваць". Яе каханне можа вырастаць да абсягаў космасу, перапаўняць сабой зорны абшар: "І голас голля заміраў пад ветрам // у вечаровым цёплым тумане, // калі гарэлі зорна кіламетры // агнём любві, што ўспыхвала ўва мне". І ў той жа час глыбока ўнутры заўжды тоіцца адчуванне недагаворанасці і неспазнанасці, таямніцы, здзіўлення перад тварам свету і сваёй шчаслівай мізэрнасці перад ім: "Жыццё ў абсягах вечных толькі прысмак, // а што ёсць смак — ніхто мне не сказаў". Гераіня лірыкі Раісы Баравіковай, думаю, ахвотна перафразавала б знакаміты выраз Канта пра "зорнае неба над галавой і маральны закон унутры нас". Нароўні з небам у іерархіі яе каштоўнасцей, мусіць, была б... таямніца пачуцця.

**Даведка**

*Раіса Баравікова — паэтэса, празаік, драматург. Яна аўтар паэтычных зборнікаў "Рамонкавы бераг" (1974), "Слухаю сэрца" (1978), "Такое кароткае лета" (1981), "Адгукнуся голасам жалейкі" (1984), "Каханне" (1987), "Пад небам першага спаткання" (1990), "Люстэрка для самотнай" (1992), "Сад на капялюшыку каханай" (1998) і іншых, лаўрэат літаратурнай прэміі імя А. Куляшова, Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы.*

У моманты ўзрушання лірычная гераіня Раісы Баравіковай не раз папросіць: "Не біся так моцна, сэрца!" Аднак у гэтым сэрцабіцці, няхай часам пякельна-тужлівым, але нязменна багатым, шчодрым — яе шчасце. Не сурагатная "шчаслівасць", не сытая задаволенасць, не яркакідкая радасць, а глыбіннае перажыванне, шчаслівае і поўнае. Гераіня ўсведамляе свой талент адчуваць свет: "мая душа — скарбонка пачуцця", "не дастаткам, а сэрцам расла", "толькі тады і бачна хараство, // калі душа адценні ўсе ўвабрала". Таму нават адзінота ніколі не бывае ў яе беспрасветнай (хай сабе і "дрэва долі нашай — адцвіло"!): "сябе я адчувала б адзінокай, // каб не было ні дрэў, ні аблачын".

Жаночы, па-свойму інтымны кантакт гераіні са светам настолькі шчыльны, што яна мае поўнае права сцвярджаць: "мой партрэт снягамі снежань піша". Сваімі пачуццямі і думкамі яна нібыта няспынна вядзе гаворку з прыродай і атрымлівае адказ — у сімвалах, якія тонка, ледзь улоўна, метафарычна "счытвае" сярод вязі штодзённых праяў. Такі духоўны ўзаемаабмен праходзіць праз душу падводнай плынню, як río abajo río, рака пад ракой.

*Што прачытае*
*ў позірках зіма,*
*Калі так знемагае*
*кожны дотык!*
*Мне падказаць*
*спрабуе снежань, хто ты!*
*Не дыхаю.*
*Я знаю ўсё сама.*

У вершах Раісы Баравіковай надзвычай багатая раслінная паэтыка. Сад, кветнік, лес дапамагаюць ёй раскрыць душу, выяўляюць яе. Так, напрыклад, хатняя расліна цыкламена прадвяшчае змены, увасабляючы ў сабе цэлую філасофію часу... Гераіня сябруе з "ручнымі вужамі", для яе "сініца з кустоў сцеражэ" "цішыні чабаровае лапік", "рабіна гронкай распальвае ўсход", а "лопухлісцякрылы" трымае "вады халоднай на глыток". Не дзіва, што і "айчына" рыфмуецца з "біручынай" (гэта расліна сямейства маслінавых).

"І ўсё ж большая частка маіх вершаў пра каханне, гэта, напэўна, фантазія пачуццяў, калі ўяўленне малюе тое, чаго чалавеку не стае", — прызналася Раіса Баравікова ў адным з інтэрв'ю. Гэта жыватворная фантазія дзейнічае не толькі ў паэзіі. Яна дапамагла пісьменніцы ажывіць гісторыю ў містычных апавяданнях зборніка "Вячэра манекенаў" і нават засадзіць беларускімі кветкамі далёкія планеты з іншых галактык ("Казкі астранаўта: касмічныя падарожжы беларусаў", "Таленчыны "Я", альбо Планета Цікаўных Хлопчыкаў", "Казачныя аповесці пра міжпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў").

Творчы сад — заўсёды плён вялікай працы, штодзённага шчыравання. А ў вершах Раісы Баравіковай часта ўзнікае ілюзія, што ён створаны нязмушана, нібыта сілай чарадзейнага поля. Сілай кахання, жаноцкасці, фантазіі.

# Паэзія



Кастусь Жук

## Дыялог з афганцам

*Сярод*
*Нясходжаных дарог*
*І сходжаных*
*Пад небам праведным*
*З табой паўсюдна*
*Крочыў Бог —*
*Заступнік ад дзядоў і прадзедаў.*

*Ахоўнік ён*
*Тваіх надзей*
*І мар,што сталі яснай яваю.*
*Для хціўцаў —*
*Ты не дабрадзей,*
*Таму і лёс*
*Азоран славаю.*

*Між ратнікаў —*
*Заўсёды свой.*
*Снарадамі душманаў*
*Хрышчаны,*
*Ты з імі не закончыў бой —*
*Не ўсе яны*
*Ў дувалах знішчаны.*

*Шчыміць у сэрцы*
*Кандагар.*
*Ашчэры гор*
*У снах нахмурацца —*
*І ты ізноўку*
*Той ваяр,*
*Што вокам*
*Над прыцэлам жмурыцца.*

*Афганскі*
*Каляндар жыцця*
*Не перайначыць*
*Нават вечнасці.*
*Ён —*
*Твой пачатак і працяг,*
*Зняверыста вайной знявечаны.*

*— Яшчэ не ўзята вышыня…*
*А кулі зумкнуць*
*Злымі восамі —*
*І душыць вушы*
*Цішыня*
*Над гор пустэльных*
*Хмарачосамі.*

*Ракеты*
*Ўздыбяцца ў зеніт —*
*І неба жоўтае, афганскае,*
*Ўзарвецца,*
*Быццам дынаміт,*
*Пад ночы*
*Цемраю паганскаю.*

*Не перайначыць лёс*
*Нічым.*
*Вайна і ў снах кусае,*
*Гадзіна.*
*І не схавацца, не ўцячы*
*Ад судных дзён,*
*Вайной украдзеных.*

*Крывёй*
*Бруіцца небасхіл,*
*Дзе сябра мой*
*Ляжыць паранены,*
*А на плячах ягоных — пыл,*
*І вочы*
*Дымам прытуманены.*

*Ні Абдула*
*І ні Махмуд —*
*Са мной з тых дзён*
*Ваююць цынікі…*
*А ўспомню*
*Смерці злы прысуд —*
*І стану сам*
*Свінцова-цынкавым.*

*На ўзлёце дня*
*Адпрэчу сны —*
*І разарву*
*Ўспамінаў путы я.*
*І пракляну багоў вайны.*
*За што,*
*За што дасюль пакутую?!*



Рагнед Малахоўскі

## У дзённай мітусні...

* * *

*пяшчота вады*
*наталяе смагу жыцця*
*пяшчота зямлі*
*аберагае імгненні мінуўшчыны*
*валуны ў полі*
*аблашчаныя сонцам*

* * *

*клапатлівыя нябёсы*
*прарэджваюць*
*хмары над крыжам*
*промнік сонца*
*запальвае свечку*
*расінка на кноце*

* * *

*над вёскай вятры*
*спудзілі*
*чорныя хмары варання*
*звіняць сабачыя ланцугі*
*рыпяць іржавыя брамкі*
*не пахіснецца*
*прыдарожны крыж-ахоўнік*

* * *

*стаю ў храме*
*як прывід*
*уласнай адзіноты*
*адчуваю і ведаю*
*не вечны*
*выйду з храма*
*сустрэну твой закаханы позірк*
*падумаю пра будучага сына*

* * *

*лета, каханне*
*начная крынічка*
*успомніць калісьці*
*наш першы грэх*
*і праз гады*
*я засаромлюся*
*зазірнуць*
*у яе халодныя вочы*

* * *

*маўклівыя зоры*
*пакідаюць свае сузор'і*
*дрэваў галіны*
*аддаляюцца ад каранёў*
*моху цураюцца валуны*
*людзі — зоры*
*людзі — дрэвы*
*камяні*

* * *

*ля крынічкі*
*кропелькі нябёсаў*
*пралескі*
*назіраюць за нашым каханнем*
*люблю твае рукі*
*што пахнуць вясною*

* * *

*човен кахання*
*кранаецца водмелі*
*давай пакінем*
*нашы недарэчныя спрэчкі*
*дзесьці ў блакітнай прасторы*
*беспадстаўныя хваляванні*
*у цяжкай пазалоце*
*нарачанскіх хваляў*

* * *

*шчасце быць закаханым*
*не азначае*
*не быць свабодным*
*імгненне з табой*
*нараджае*
*тысячы прычын*
*маёй вернасці*
*табе*

* * *

*у чорных глыбінях ночы*
*на прасторах*
*зорнага Нарочча*
*на чоўне натхнення*
*вяслую па Млечным Шляху*

* * *

*паскараюцца хуткасці*
*караценцюць імгненні*
*сціскаецца прастора*
*здолець бы*
*убачыць Галоўнае*
*у гэтай*
*штодзённай мітусні*



Фота Кастуся Дробава



Пётр Макарэвіч

## Спагада жывому — жыве

*У раме аконнай аблокі*
*Па майскім блакіце плывуць.*
*Спакойна і мудра здалёку*
*Да сэрца ўспаміны нясуць.*

*Вось я, аблачынка дзяцінства,*
*Над лугам, над полем лятун,*
*Наскрозь прамяніста расхлістан,*
*Да ўпаду гуляю ў лапту.*

*На рукі мае па сасонцы*
*Сястрычка-вавёрка імкне.*
*Здаецца, разліўся я сонцам,*
*А сонца ўлілося ў мяне.*

*Казяўцы з аслабленым цельцам*
*Заўзята майструю жытло*
*З лучынак, травінак і шкельцаў:*
*Хачу, каб жывое жыло!*

*Але за хмурынкамі хмары*
*Нахлынулі цёмных масцей*
*І — градам па хатцы, па марах*
*Дубасяць мацней і мацней.*

*Шчырую насуперак грому*
*І бліску маланак кругом…*
*Не выбіў спагады жывому*
*І сённяшні гром з перуном.*

## Ранак на Бацькаўшчыне

*Па маладзенькіх промнях дня*
*У неба пот віецца парай.*
*Свяцлеюць сосны за папарам,*
*Дзе блізкая мая радня*
*Ля прадзедаў зямельку парыць.*

*А я, як Ясір Арафат,*
*Спавіўшы галаву хусцінай,*
*Кашу атаву канюшыны*
*Паблізу дзедаўскіх прысад*
*У звоне хмары камарынай.*

*Да вуснай туліцца ручай*
*(Ў маленстве — Дзедава крыніца),*
*Што з-пад алешнікаў бруіцца.*
*І аціхае мой адчай*
*З глытком гаючае вадзіцы.*

*Пракосы ў кропельках расы*
*Трымцяць вясёлкаю на сонцы*
*І пах мядовы льюць бясконца…*
*Пасля пластую, блудны сын,*
*Ласунак матчынай кароўцы.*

*Упершыню падперазаў*
*Без бацькі сена воз духмяны.*
*І адпускаюць сэрца раны.*
*І з возам коціцца сляза*
*Любові, ўдзячнасці, прызнання…*

## Краю роднага букет

*Як струна ўдоўж шашы — Навасёлкі,*
*Дзе кладзецца двухколавы след.*
*Дачных вёрст незлічоную колькасць*
*Мой прамчаўся веласіпед.*

*Дождж раптоўны на лапках курыных*
*Па асфальце з прыскокам бяжыць.*
*Леваруч праз ляскі і лагчыны*
*На паўнеба вясёлка гарыць.*

*А па правай руцэ прывячае*
*Наваселец — лядовы палац:*
*Як на крылах, увесь узлятае,*
*Дзе заросль бур'янам быў пляц.*

*Дожджык з сонцам, шаша і вясёлка —*
*Краю роднага дзіўны букет.*
*Мне нашчадкам пакінуць бы толькі*
*Гэты цуд,*
*гэты рай,*
*гэты свет!*

# Недзіцячыя пытанні

**Якой павінна быць сучасная дзіцячая літаратура? Чаму сённяшнія маленькія чытачы не ведаюць, хто такі Віталь Біянкі? Ці варта зарабляць на выданнях для дзяцей? На кніжных выстаўках заўжды хапае яркіх вокладак, але ці ўсе яны вартыя набыцця? Адной з падзей, якія шырока абмяркоўваліся падчас VII Міжнароднага кніжнага салона ў Санкт-Пецярбургу, стала аднаўленне дзіцячага часопіса "Искорка". У сувязі з гэтым расійскія пісьменнікі і прадстаўнікі творчых арганізацый іншых краін падзяліліся думкамі пра тое, як і што пісаць для дзяцей. "ЛіМ" прапануе вам некалькі цікавых меркаванняў, а таксама запрашае далучыцца да абмеркавання гэтай важнай тэмы.**

**Таццяна СІВЕЦ**

**Таццяна ФЯДЗЯЕВА, доктар філалагічных навук, галоўны рэдактар часопіса "Вестник детской литературы" (выдаецца пры падтрымцы Саюза пісьменнікаў Расіі):**

— Па-першае, сёння варта задумацца пра ўзнаўленне балансу паміж сур'ёзнай і забаўляльнай дзіцячай літаратурай у расійскім кнігавыданні і кнігараспаўсюджванні. Па-другое, нам бракуе цэнтралізаванага ўдзелу дзяржавы ў працэсах, звязаных з дзіцячай літаратурай і чытаннем. Я не згодна з лозунгам, які вызначае апошнім часам развіццё айчыннай дзіцячай літаратуры: не мае значэння, пра што пісаць, абы твор быў якасна "зроблены". Такім чынам прыніжаецца роля зместу. І мы становімся сведкамі застою, калі выдаецца толькі вясёлая дзіцячая кніга — яе зашмат, а твораў, прысвечаных сур'ёзным сацыяльным праблемам, тым рэаліям, у якіх знаходзіцца сучаснае дзіця, зусім мала — яны патанаюць у моры забаўляльнага чытва. На маю думку, сёння забытыя дзве асноўныя функцыі дзіцячай літаратуры: выхаваўчая і дыдактычная. Гэты крызіс носіць глабальны характар, і я, як спецыяліст па заходняй літаратуры, магу адзначыць, што і на Захадзе адбываецца тое ж самае. Дзяцей не вучаць каштоўнасным асновам жыцця, не развіваецца іх светапогляд, не вядзецца гаворка пра сэнс жыцця, не фарміруецца літаратура, якая садзейнічае маральнаму развіццю дзіцяці. Але я не кажу, што пісьменнікі павінны сухой моваю "вяшчаць" нейкія прапісныя ісціны — не! Дзіцячая літаратура мусіць быць аднachасова і змястоўнай, і высокамастацкай.

Да мяне патрапляе мноства рукапісаў менавіта такой літаратуры, а гэта значыць, што пісьменнікі ствараюць падобныя творы — адпаведна, крызіс не ў пісьменніцкім, а ў выдавецкім асяродку. Чаму ў дастатковай ступені не выдаюцца ў нас сацыяльна значныя кнігі? Напэўна, таму, што дзяржава з'яўляецца пасіўным назіральнікам — усё аддадзена на водкуп рынку, няма ў нас дзяржаўнай ідэалогіі, якая б закранала сферу дзіцячай літаратуры, няма канкрэтных праграм, што падтрымлівалі б якраз тыя творы, якія не хочуць браць нашы выдавецтвы. Трэба проста дацiраваць іх, каб потым распаўсюджваць па бібліятэках і школах. На жаль, у нас няма змычкі паміж школай і бібліятэкай — дзецям няма дзе сустрэцца з добрай літаратурай. А значыць, варта прыгадаць і савецкі вопыт, калі мы дакладна ведалі, дзе шукаць цікавую кнігу, у каго прасіць парады. Але работа павінна быць сістэмнай. Сацыёлагі нядаўна назвалі спіс жанраў, асабліва папулярных у перадпадлеткавым і падлеткавым асяродку: на першым месцы — брутальнае фэнтэзі, на другім — гісторыі пра вампіраў, на трэцім — трылеры. Адпаведна, з дзіцячых гадоў не фарміруюцца станоўчыя маральныя якасці, і дзіця паглынае масліт. Я б наогул прапанавала стварыць нейкі Савет па дзіцячай кнізе, які без савецкага ідэалагічнага прэсінгу выконваў бы экспертныя і рэкамендацыйныя функцыі. Я ведаю, што так робіцца ў Аўстрыі, дзе падобныя спісы складае Міністэрства асветы і імі кіруюцца школы. Магчыма, ёсць сэнс самім пісьменнікам больш увагі надаваць гэтай праблеме.

**Юрый БУКОЎСКІ, галоўны рэдактар часопіса "Искорка":**

— Клопат пра дзяцей не павінен прыносіць прыбытак! Існуе два бакі кнігавыдавецкага працэсу: пісьменнікі і чытачы. Пісьменнікі сёння ствараюць шмат, якасна і цікава. Працуючы над часопісам, я знайшоў шмат вартых твораў. Але пры гэтым мы часта выступаем у школах і бібліятэках, дзе чуем адзін папрок: мы хочам чытаць, але няма чаго. Чаму так адбываецца? Шмат што залежыць і ад бацькоў: заўважце, у кнігарні не прыходзяць дзеці 5 — 7 гадоў — туды ідуць дарослыя. Так што мы павінны ўлічваць і іх меркаванне. На нашым часопісе, створаным у 1957 годзе, вырасла некалькі пакаленняў. Ён не столькі забаўляў, колькі выхоўваў дзяцей патрыётамі — сваёй краіны, свайго горада, распавядаў пра свет, які дзіця бачыць наўкола. І ў тых чытачоў "Искорки" — ужо свае дзеці. Нам трэба паяднаць усе тры ступені: дзяцей, пісьменнікаў і выдаўцоў. З апошнімі ў нас, на жаль, поўны крызіс. Прывяду прыклад: калі я прыйшоў у выдавецтва "ДЕТГИЗ", мне сказалі: "Навошта вы да нас ходзіце, у нас ёсць сваё кола аўтараў!" Пра іншыя я і не кажу: сур'ёзную літаратуру нідзе не чакаюць. А што да гандлю, то калі я паспрабаваў аддаць наш часопіс у кіёскі, мне прапанавалі заплаціць за яго прысутнасць 300 расійскіх рублёў, пры тым, што сам часопіс каштуе 30… У выніку ў гэтых кіёсках стаіць Данцова, а на іншае ім напляваць! Нават на гэту выстаўку ўваход платны — і для дзяцей, і для дарослых! Так звужаецца кола нашых чытачоў.

**Мікалай ЧАРГІНЕЦ, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі:**

— Сёння мы сутыкнуліся з новымі выклікамі грамадства, тэлебачанне і інтэрнэт усё больш уплываюць на дзяцей, у той час як бацькі губляюць уплыў на розум і сэрца моладзі. Мы ўсё часцей павінны нагадваць пра такія паняцці, як гераізм, патрыятызм… Добра, што ў Беларусі дзяржава дацыруе кнігі для дзяцей, але як прапагандаваць добрую кнігу сродкамі СМІ? Саюз пісьменнікаў Беларусі пачаў праводзіць конкурсы сярод дзіцячых калектываў, у дзіцячых садках. Мы самі здзівіліся, якую цікавасць выклікалі гэтыя акцыі, і цяпер арганізоўваем іх рэгулярна. Пры СПБ працуе Секцыя дзіцячай літаратуры, наладжваюцца конкурсы і сярод дзіцячых пісьменнікаў. Мы таксама сур'ёзна задумаліся пра тое, каб у любым дзіцячым калектыве ствараліся літаратурныя гурткі пад кіраўніцтвам вядомых творцаў, членаў СПБ. Саюз пісьменнікаў Беларусі разам з усімі канфесіямі нашай краіны працуе дзеля маральнага выхавання дзяцей і моладзі, у тым ліку дбае і пра якасць выдаваемай дзіцячай літаратуры.

## *У падтрымку чытання*



**Дзмітрый ДЗЯТКО, загадчык кафедры беларускага мовазнаўства БДПУ імя Максіма Танка, кандыдат філалагічных навук:**

### «Мастацкая літаратура — для душы»

**Вікторыя ГАБРУСЕВІЧ**

— Маё свядомае чытанне пачалося ў школе. Чытаў і перачытваў усё, што было ў школьнай бібліятэцы, але з асаблівым задавальненнем — раманы А. Дзюма, В. Скота, Р. Сабаціні. Фонды ведаў лепш за бібліятэкараў, таму ў знак асаблівага даверу мяне дапускалі ў сховішча, дзе мог гадзінамі перабіраць кнігі.

У старшых класах уразілі і захапілі "Каласы пад сярпом тваім" і "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" У. Караткевіча, а таксама вершы Р. Барадуліна са зборніка "Евангелле ад мамы". Відаць, у многім менавіта дзякуючы гэтым кнігам трапіў на філфак.

Цяпер чытаю шмат навуковай літаратуры. Не ўяўляю сабе добрага спецыяліста, які б не цікавіўся тым, што адбываецца ў яго сферы. Імкнуся не абмяжоўвацца толькі лінгвістыкай. А мастацкая літаратура — для душы. У абсалютным захапленні ад "Доктора Живаго" Б. Пастарнака і "Идиота" Ф. Дастаеўскага. Гэта шматпланавыя, глыбокія рэчы. Люблю еўрапейскую і лацінаамерыканскую інтэлектуальную літаратуру. Сярод самых блізкіх пісьменнікаў — Ж.-П. Сартр, А. Камю, Ф. Кафка, Г. Гесэ, Х. Картасар, І. Бродскі. З суайчыннікаў — К. Чорны, У. Караткевіч, А. Сыс. Прыцягвае руская рэлігійная філасофія — Л. Шастоў, М. Бярдзяеў, В. Розанаў, С. Франк. Прыемнай нечаканасцю стаў дэбютны зборнік маладога беларускага паэта Антона Францішка Брыля.

## *Прэзентацыя*

# Аркадзь Куляшоў не пакінуў дзённікаў

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Слынны беларускі паэт, крытык, публіцыст, перакладчык, кінасцэнарыст, грамадскі дзеяч, ветэран Вялікай Айчыннай вайны — скупы пералік таго, што можна сказаць пра Аркадзя Куляшова, стагоддзе з дня нараджэння якога будзе адзначацца 6 лютага 2014 года. Да гэтай падзеі навуковая грамадскасць краіны пачала рыхтавацца ўжо зараз. У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры адбылася прэзентацыя кнігі Тэрэзы Голуб "Летапіс жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова". Даследаванне загадчыка аддзела тэксталогіі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Т. Голуб убачыла свет у выдавецтве "Беларуская навука". Навуковым рэдактарам выдання стаў член-карэспандэнт НАН Беларусі, прафесар Міхась Мушынскі. У якасці рэцэнзентаў выступілі доктар філалагічных навук Міхась Тычына і кандыдат філалагічных навук Пятро Васючэнка.

Выхад кніг падобнага жанру, адзначылі выступоўцы, — рэдкая ў беларускім літаратуразнаўстве з'ява. Выданне пабудавана на дакументальным матэрыяле. Сабраныя ў "Летапісе..." звесткі ў храналагічнай паслядоўнасці ўзнаўляюць факты з жыццёвай і творчай біяграфіі Аркадзя Аляксандравіча.

Падзеі, мерапрыемствы, у якіх браў удзел А. Куляшоў, згадваюцца ў непасрэднай сувязі з асяроддзем, што стварае пэўны грамадскі фон, спрыяе ўспрыняццю вобраза галоўнага героя кнігі ў кантэксце часу, той гістарычнай эпохі, у якую яму выпала жыць, адлюстроўвае знітаванасць яго лёсу з лёсам




краіны. На старонках выдання змешчаны рэдкія фотаздымкі — каштоўны ілюстрацыйны матэрыял да біяграфіі пісьменніка. І хаця А. Куляшоў не пісаў дзённікаў, своеасаблівымі дзённікамі засталіся яго творы. "Летапіс…" — магчымасць зазірнуць у творчую лабараторыю аўтара.

Тэрэза Станіславаўна распавяла пра сваё даследаванне, пачатае ў 2004 годзе: "Кніга няпоўная, але гэта аснова, і за два гады да юбілею ёсць магчымасць унесці ў яе некаторыя ўдакладненні і істотныя дапаўненні і выдаць наступны тыраж з іх улікам". (На сайце інстытута ёсць электронны адрас, на які прапанавана дасылаць заўвагі.)

Высока ацаніў навуковую вартасць кнігі ў сваім выступленні прафесар Міхась Мушынскі: "Створана грунтоўная аснова для напісання падрабязнай біяграфіі, кніг серыі ЖЗЛБ, даведніка. Пры тым яна чытэльная, бо ўтрымлівае вялікую колькасць разнастастайнага матэрыялу — мемуарнага, эпісталярнага, што складае жывое аблічча пісьменніка".

Гучалі ўспаміны пра Аркадзя Аляксандравіча дачкі паэта Валянціны Куляшовай, пісьменніцы і літаратуразнаўцы; пляменніка Віталя Маслоўскага, кандыдата філалагічных навук; песня І. Лучанка на словы А. Куляшова "Алеся", паэтычныя радкі ў выкананні акцёра і рэжысёра Беларускага радыё Алега Вінярскага. Галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская навука" Георгій Кісялёў і намеснік дырэктара Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Сяргей Гаранін падкрэслілі: "Няма сумнення, што "Летапіс жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова" будзе запатрабаваны шырокай чытацкай аўдыторыяй: даследчыкамі, выкладчыкамі, студэнтамі, школьнікамі, архівістамі, тэкстолагамі, музейнымі работнікамі, выдаўцамі і ўсімі, хто неабыякавы да беларускай літаратуры і гісторыі".

# Таямнічая статуэтка

## Апавяданне



Алесь Ярмашук

Ягор пазіраў з набярэжнай на серабрыстасінюю паверхню ракі, на якой самотна пагойдваўся апалы кляновы лісцік, і думаў… Падумаць было пра што. Яму ўжо дваццаць пяць, а чаго ён дабіўся ў жыцці? Гэтым летам не змог здаць два экзамены, і яго выключылі з універсітэта. Яшчэ адна акалічнасць, што прыгнятала яго: Дзіяна. Яе абрысы так і стаялі ўвачу, люстраваліся ў рачной плыні. Яркі кляновы лісцік аздабляў і без таго прыгожыя хвалістыя валасы, асвятляў вялікія цёмныя вочы ў абрамленні доўгіх веек, зграбны нос, пульхныя губы… Ах, Дзіяна! Чароўная і недаступная.

Ягор пазнаёміўся з ёю год назад. Запрасіў у кавярню, у тэатр і потым часта тэлефанаваў ёй, каб сустрэцца зноў. Яна пастаянна спасылалася на неадкладныя справы, аднак Ягор быў настойлівы. Заўчора ён зноў пазваніў і, на вялікую сваю радасць, адмовы не атрымаў. Апрануў касцюм, купіў белую ружу (на букет грошай не хапіла) і дачакаўся яе тут, на набярэжнай.

— Дзякуй, — сказала яна, узяўшы ружу, і яе голас падаўся Ягору халодным. Змоўчала на ягонае "сёння такі цудоўны вечар", а праз хвіліну прамовіла нечаканае:

— Паслухай, Ягор, не тэлефануй мне больш. Забудзь. У мяне ёсць той, хто дарагі мне, а ты…

Згадка пра гэта, як і той раз, кальнула крыўдаю. Дзіяніны абрысы ў вадзе расплыліся, зніклі. Ягор прысеў на лаўку і сціснуў далонямі твар. Як жа так? Няўжо нельга нічога змяніць, няўжо?..

— Чаму ж? Усё можна змяніць, — пачуўся побач мяккі мужчынскі голас.

Ягор падняў вочы. Перад ім стаяў высокі хударлявы мужчына ў чорным гарнітуры і беласнежнай кашулі. Вузкі твар з прамым носам і тонкімі губамі. А больш за ўсё ўразілі вочы — глыбокія і нерухомыя.

— Хто вы? — спытаў Ягор.

— Мяне завуць Люцыян, — спакойна адказаў незнаёмы і прысеў на лаўку поруч. — Вы здзівіліся, малады чалавек? Гэта праўда, што можна змяніць усё, літаральна ўсё. Я магу даць вам сілу, грошы, уладу, знакамітасць. Дзіяна без памяці будзе кахаць вас.

— Думаеце, я паверу вашым казкам?!

— Усе казкі, спадар былы студэнт, маюць пад сабой рэальны грунт. Ды не пра тое гаворка. Я, у прынцыпе, проста чалавек, але з неймаверна вялікімі магчымасцямі. І я магу вам дапамагчы.

— Праўда? — паддаўся спакусе заваружаны Ягор. — І як жа, якім чынам?

— Ды лёгка. — Мужчына завёў правую руку за спіну, а праз момант працягнуў яе ашаломленаму Ягору. На далоні ў незнаёмага стаяла невялікая алавяная статуэтка. — Вазьміце, не бойцеся.

Ягор асцярожна ўзяў, прыгледзеўся. На яго пазіраў цьмянымі, загадкавымі вачыма маленькі дракон.

— Падабаецца? — працягваў незнаёмы, і Ягор міжволі кіўнуў. — Абыходзіцца з ім зусім лёгка. Калі вы хочаце, каб збылося жаданне, трэба роўна апоўначы паставіць каля дракона тры свечкі, сесці перад ім і загадаць сваё жаданне ў думках або ўголас. Вось і ўсё. Толькі памятайце: дракона нельга нікому ні дарыць, ні прадаваць.

— Але чаму вы дорыце яго мне?

— Мне падабаецца дапамагаць людзям. Не ўсім, а толькі слабым, пакрыўджаным, няўпэўненым.

— А як і дзе вас можна знайсці? — дарэшты ўражаны, запытаўся Ягор.

— Ды я часта бываю тут па вечарах. — Мужчына падняўся. — Мне час ісці. Да сустрэчы.

Дома Ягор, стомлены і збіты з панталыку дзіўнай сустрэчай, не наважыўся выняць дракона з кішэні пінжака і толькі намацваў яго рукою, адчуваў прыемнае цяпло, што сыходзіла ад статуэткі. Дый было ўжо цёмна, яго адольваў сон. Ягор скінуў пінжак і паваліўся на канапу.

Свяціла ваўсю вераснёўскае сонца, калі ён прачнуўся. Падышоў да акна, прыжмурыўся — і тут жа прыгадаў учарашнюю прыгоду. Набярэжная, загадкавы незнаёмы, статуэтка… Гэта быў сон? Пэўна ж! Рэальнасць не можа быць такой неверагоднай. Аднак палёгка, з якою падумаў, змянілася разгубленасцю, як толькі Ягор адвярнуўся ад акна. Позірк упаў на пінжак, што вісеў на спінцы крэсла. Ён узяў яго, засунуў руку ў кішэню. Пальцы натыкнуліся на невялікі гладкі прадмет. Сэрца яго замерла, ён павольна выцягнуў статуэтку і паставіў на стол.

Увесь гэты дзень не выходзілі з галавы словы незнаёмага. А што, калі ён сказаў праўду і перад Ягорам адкрыюцца бязмежныя магчымасці? Загадаў любое жаданне — і яно збудзецца! Галава ішла кругам ад самай захаплялнай прыгоды ў ягоным жыцці. Жыцці пустым і нудным… У ванным пакоі ён паглядзеўся ў люстэрка: худы, бляклы твар. Нічога. Калі Люцыян не зманіў, можна будзе папрасіць у дракона ўнушальны выгляд і не горшую, чым у культурыстаў, мускулатуру.

А і праўда, што ён загадае найперш? Пра гэта Ягор думаў, калі мыўся ў ванне, калі снедаў, калі хадзіў у краму па свечкі і нават калі надвячоркам неўпапад адказваў на пытанні бацькі. "Ты ўрэшце падшукаеш пастаянную работу? Або хоць кніжкі чытай. Ці ўжо і думаць забыў, каб аднавіць вучобу ва ўніверсітэце?" Ягор толькі ківаў ці няўпэўнена вымаўляў "так", адзін жа раз адказаў Люцыянавай фразаю "змяніць можна ўсё", чым збянтэжыў бацьку і змусіў махнуць на сына рукою.

Дык што ж папрасіць у дракона сёння? Люцыян папярэджваў: за адзін раз можна загадаць толькі адно жаданне. Загадаць на грошы? На ўнушальную знешнасць? На ўзнаўленне ва ўніверсітэце?.. Дзіяна! Спачатку ён папросіць у дракона яе. Каб пакахала ўсёй душой. Так, менавіта так. Спачатку — Дзіяна, усё астатняе — потым.

Пасля вячэры Ягор бавіў марудлівы час. Пагалядзеў тэлевізар, пагартаў прынесеную бацькам газету, пасля ўзяў кніжку, што першаю трапіла пад руку. "Сергей Есенин. Поэмы". Разгарнуў наўздагад: "Чёрный человек на кровать ко мне садится… Чёрный человек водит пальцем по мерзкой книге…" Яго ахапіў неспакой. Ах, Сяргей Аляксандравіч, што вы мелі на ўвазе?! Ягор трасянуў галавою, спрабуючы прагнаць трывожныя прадчуванні, і загарнуў кніжку. Паспрабаваў заснуць, адкінуўшы галаву на спінку канапы. Скрозь дрымоту бачыў твар Люцыяна.

Тым часам на горад апусцілася ноч. Калі Ягор прахапіўся, гадзіннік на сцяне паказваў 23.50. Пара. Ён падняўся з канапы, шпурнуў на яе ясенінскі томік, падышоў да стала. Паставіў на сярэдзіну статуэтку дракона, абапал і за ім свечкі, прысеў на крэсла насупраць. Пагалядзеў на гадзіннік: за хвіліну поўнач. Патушыў святло і запаліў свечкі. Водсвет ад іх заскакаў языкамі на паверхні невялікага круглага люстэрка, што стаяла збоку. Ягор адсунуў яго далей.

Яны пранізвалі адзін аднаго позіркамі — чалавек і дракон. Ягору здалося, што драконавы вочы ажылі, іх бляск пранікаў у душу яму. "Хачу, каб…" — дрогкім голасам пачаў Ягор, але не вытрымаў напружання, і яго позірк таксама тарганууся. Краем вока Ягор зірнуў на люстэрка. Там адлюстравалася фігура Люцыяна. У руках — старадаўняя кніга з іерогліфамі на вокладцы. Люцыянаў твар наблізіўся, і на губах яго загуляла злавесная ўсмешка. А вочы! Такія ж, як вочы дракона. Дракон, Люцыян, Чорны чалавек… Сэрца сціснула ледзяная рука жаху.

— Не! — бязгучна ўсклікнуў Ягор. Намаганнем волі глыбока ўздыхнуў і, з сілаю выдыхнуўшы, задзьмуў свечкі. Ужо ў змроку змахнуў са стала дракона. Статуэтка з жудасным грукатам упала на падлогу — і Ягор праваліўся ў бяспамяцтва.

У непрытомнасці, гарачцы і трызненні праляжаў ён амаль да сыходу гэтага дня. Адзіны пробліск свядомасці быў у прыезд доктара, які агледзеў яго і зрабіў укол. Яшчэ Ягор запомніў, як яго ўхутвала ў мяккую коўдру маці, пасля чаго ён спаў ужо спакойным сном.

Маці сядзела на канапе ў яго нагах і цяпер, калі ён ачуўся.

— Усё добра, мама, — сказаў Ягор. — Ідзі прыгатуй што паесці, а мне хочацца пабыць на вуліцы, развеяцца. Не забаўлюся, не турбуйся.

Калі маці выйшла, Ягор апрануўся, падняў з-пад стала статуэтку і паклаў у кішэню. На дварэ прагна ўдыхаў свежае паветра. Затым рушыў на аўтобусны прыпынак.

Вось і тое месца, дзе ён сустрэўся з Люцыянам. Сустрэча… А ці была яна, тая сустрэча? Лухта! Сон! Але, і тут Ягор адчуў глыбокую прыкрасць, калі гэта быў і сон, дык усё роўна як ён мог згадзіцца на несусветную прапанову? Паддацца нейкай цёмнай сіле, Чорнаму чалавеку?.. Даўно ўжо сказана: трэба па кроплі выціскаць з сябе раба. Трэба верыць у сябе, у сваю зорку.

Ягор агледзеўся. Люцыян… Дзе ж ты? Ён выняў статуэтку, смела зірнуў у маленькія, затоеныя вочкі. "Дракон, чараўнічы дракон… Заваражвальная пастка для наіўных, слабых, расчараваных…"

— Люцыян! — нягучна крыкнуў Ягор. На набярэжнай панавала цішыня і зыбаўся змрок.

— Люцыян! — павысіў голас Ягор. Размахнуўся і што ёсць сілы шпурнуў дракона ў ваду. Глухі ўсплёск, і зноў стала ціха.

Ягор павярнуўся спінаю да парапета. Яго позірк улавіў у змроку, як фігура Люцыяна замігцела прывідным серабрыстым святлом і праз некалькі імгненняў знікла.

# Дрэва спазнання

## Абразок



Віталь Воранаў

На беразе возера расло не падобнае да ўсіх астатніх дрэва — яблыня-дзічка. "Іншыя дрэвы звычайна растуць у садзе, у лесе ці хаця б паабапал дарогі, а я што..." — думала сабе дзічка. "Адны даюць плады, другія — прытулак і зацішша, яшчэ іншыя нясуць прыгажосць. Нават тыя, што ідуць на бярвенні ці дровы, усё ж хоць нечым карысныя", — разважала дзічка, ніяк не могучы знайсці свайго прызначэння. Міналі гады, а трэба ведаць, што ў дрэў гады даўжэйшыя, чым у людзей. Дзічка ўжо разраслася, набралася сокам, зацвіла, бы тая паненка ў свае найлепшыя гады, а ўсё яшчэ не ведала адказу на асноўнае пытанне — у чым хаваецца мэта ейнага жыцця. Аднойчы, а было гэта, калі дзічка зверху данізу стаяла ўсыпаная белым квеццем, яна адчула, як нешта шапоціць на яе вершаліне. Яна пачала расхіляць свае ўквечаныя галінкі, пакуль на адной з іх не паказалася птушка.

— Рррайская дррррэва, — азвалася птушка. Дзічка была збянтэжаная гэтымі словамі. Вытрымаўшы паўзу, птушка загаварыла ізноў:

— Перрршанарррроджанае дррррэва, — яшчэ больш цьмянымі для дзічкі словамі працягвала птушка.

— Не, ты мяне з некім блытаеш. Я звычайная дзічка, якая расце на беразе возера, — адгукнулася дрэва.

— Кожнае дррррэва звычайнае толькі да пары, пакуль не спаррродзіць яблык спазнання.

— Яблык спазнання? — перапытала дзічка.

— Яблык, які ррррасплюшчвае вочы, — працягвала сваю таямнічую гаворку птушка.

— А як жа спарадзіць такі яблык? — зацікавілася дзічка.

— Пакорррай! — выклікнула птушка, раптам успырхнуўшы з вершаліны ўгору.

— Чым, чым? — перапытала дзічка.

— Ррр-рай! — адно данеслася з неба.

Пачуўшы ад птушкі таямнічы аповед пра яблык спазнання, дзічка пачала думаць толькі пра тое, як гэткае дзіва спарадзіць. Яна дзень і ноч намагалася выгадаваць яблык, які расплюшчвае вочы. Аднак як ні старалася, так і не вырасла нічога іншага на ейных галінках, апрача кіслых, зялёных яблыкаў. Ужо набліжалася восень, і ў дзічкі пачала знікаць надзея, што некалі на ёй вырасце яблык спазнання, пра які ёй, здавалася, даўным-даўно напяяла птушка. Дзічка пачала горка плакаць. А паколькі слёз у дрэваў няма, то плачуць яны сваёй лістотай. Праз некаторы час вада з берага возера была ўсланая лісцем, як дываном. Калі з дзічкі адарваўся апошні лісток, дрэва адчула, як па яе камлі пнецца нешта слізкае і халоднае. Гэта быў змей. Ён дапоўз амаль да самай кроны, прымасціўся як мага зручней, а пасля звярнуўся да дзічкі з наступнымі словамі:

— Шшшто сссумуешшш, яблыня-дзічка? — зашыпеў-засычэў змей.

Дзічка перш была здзівілася таму, што змей такі ўважлівы да ейнага гора, а пасля з горычу пачала жаліцца:

— Ніхто яблыкаў маіх ірваць не хоча... кіслыя яны. Нікому я вочы не расплюшчу, як бы ні старалася.

— Як жа ты хочашшш рассссплюшчваць вочы іншшшым, калі ў цябе сссамой вочы заплюшшшчаныя? — задаў пытанне змей.

Задумалася дзічка, а пасля спыталася:

— Штo значыць у самой вочы заплюшчаныя?

— Райсссккі яблык ссспазнання ты не ўбачышшш, пакуль не расплюшшшчышшш сссвае вочы на сусссвет, — шматзначна прамовіў змей і пачаў паўзці ўніз па камлі.

— Сусвет? — паўтарыла незразумелае для сябе слова дзічка.

— Першшш чым убачыць канец, сссузірай пачатак.

— Што-што? — перапытала дзічка, заўважыўшы, што змей знікае там, адкуль з'явіўся.

— Рай-ссс! — паспела пачуць апошнія змеевы гукі дзічка.

Доўга думала яблыня над гэтымі словамі. Сэнс іх, аднак, быў для яе надта цьмяны. Ночы паспелі ўжо стацца па-сапраўднаму сцюдзёнымі, а дзічка ўсё яшчэ працягвала думаць над тым, што меў на ўвазе змей. Урэшце, амаль страціўшы надзею, дзічка сумна пазірала ўніз на азёрную роўнядзь, як раптам да яе прыйшло прасвятленне. На гладкай вадзе яна ўбачыла чыстае, нічым не замглёнае адлюстраванне сябе.

— Якая я дзівосная, якая прыгожая, — уголас сказала яблыня, падумаўшы, што цяпер у яе ў сапраўднасці расплюшчыліся вочы і яна гатовая расплюшчваць іх іншым. Неўзабаве пасля гэтага вада ў возеры замерзла, лёд укрыла густым покрывам снегу і настала доўгая зіма.

Навесну дзічку ссеклі, з галін збілі крыж, паўзверх накінулі лахмоцце і паставілі ў агарод. Цяпер дзічка была пудзілам. Замест таго, каб знайсці сваё прызначэнне, прызначэнне знайшло яе. Дзічка так ніколі і не зразумела, хто ўзбілася дрэвам спазнання, як і кожнае дрэва, што карэння свайго ў празрыстай вадзе пазнаць не можа...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

# Музычны замак у стылі постмадэрн

**Рамантычны паддашак роднага дома, адкуль увесь двор са старымі таполямі — як на далоні; поліфанія мінскіх вуліц; невымоўны стан прысадаў Нясвіжскага парку і загадкавасць паўднёвай марской хвалі; пачатковыя ўрокі скрыпкі; уваходзіны ў гісторыю і тэорыю музыкі; калейдаскоп дзіцячых перажыванняў, успамінаў юнацтва, рэфлексій, адкрыццяў, расчараванняў і новых захапленняў; чытанне філасофскіх прац і паглыбленне ў постмадэрнізм; наблізжэнне да сакральных сэнсаў і самаахвярнасць у прафесіі... Усе нюансы жыцця і асобы Аляксандра Літвіноўскага пэўным чынам праходзяць праз яго музыку. Аднак у гэтай складанай творчай сублімацыі аб'ектыўныя даследчыкі, бадай, не знойдуць "аўтабіяграфічных слядоў" кампазітара, чалавека замкнёнага, які хавае свой прыватны свет ад староннiх вачэй. Яго цікавіць музычны гук ва ўсіх праявах — і вось на гэту тэму Аляксандр Літвіноўскі можа захоплена і артыстычна разважаць і дыскутаваць гадзінамі.**

**Свой "музычны замак"** Аляксандр Літвіноўскі пачаў узводзіць на памежжы двух стагоддзяў, хаця ў архітэктоніцы гэтага адмысловага будынка знойдзеш уплывы самых розных эпох і культурных пластоў, мастацкіх стыляў, жанраў, напрамкаў. На пачатку 1980-х, калі ён быў студэнтам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (клас кампазіцыі прафесара Дзмітрыя Смольскага), пісаў рамансы на вершы Янкі Купалы і Тадэвуша Ружэвіча, Аляксандра Пушкіна і Сяргея Ясеніна. Яго творы другой паловы 1980-х і пачатку 1990-х, сярод якіх кантаты "Вяселле" і "Зборная суботка" на народныя тэксты (абедзве і сёння ўключаюцца ў рэпертуар камерных харавых калектываў), сімфанічная фрэска "Крэва", "Канцэрціна-барока" для струннага аркестра, містэрыя "Францыск" для баса і аркестра на тэксты з прадмоў і каментарыяў Францыска Скарыны да "Біблії", цыклы інструментальных версій старадаўняй беларускай музыкі паводле ананімных зборнікаў "Віленскія табулатуры" і "Полацкі сшытак. Новыя мелодыі", пошукі ў сферы электронных кампазіцый, ужо ўспрымаліся як заўважныя набыткі айчыннай музыкі. А п'еса для струннага квінтэта "Ул" і сюіта для гітары "Intavolatura" займелі асаблівы поспех як у публікі, так і ў выканаўцаў. Праз некалькі гадоў кампазітар увасобіў свае доследы ў сферы вакальнай санорыкі, напісаўшы "Грыгарыянскую імшу" для мужчынскага хору, з якой публіку пазнаёміў вядомы калектыў "Унія" пад кіраўніцтвам Кірылы Насаева. А спалучыўшы каноны культавай музыкі з авангарднымі дысанансамі сучаснага гукасвету, А. Літвіноўскі раскрыў у кантаце "Stabat Mater" узнёслы і трагічны змест ахвяры Маці Божай.

**Хрысціянскай тэматыцы** прысвяціў ён і своеасаблівы харавы трыпціх: "Да Маці Божай", "Сэрца Езуса", "Песні на Божае Нараджэнне". У аснове гэтых трох кантат, пра гісторыю стварэння якіх "ЛіМ" распавядаў у свой час даволі падрабязна, — традыцыйныя беларускія тэксты хрысціянскіх малітваў. Кампазітар знайшоў іх у старым рарытэтным зборніку "Вучыся і маліся", які склаў вядомы беларускі дзеяч, ксёндз Адам Станкевіч і адрасаваў яго школьнай моладзі з мэтай "дапамагчы маліцца на роднай мове". Мэтай кампазітара было стварэнне арганічнага музычнага матэрыялу, які не заценіў бы немудрагелісты, дэмакратычны малітоўны тэкст, а надаў бы светламу, шчыраму слову адпаведную эмацыянальную мастацкую афарбоўку. І аўтар скіраваў сваю цікавасць на раннекласічны стыль, які адпавядае ўзнёслым ідэалам ды пазітыўным вобразам. Вынікам — прыгожая, інтанацыйна свежая і даходлівая, густоўна аркестраваная музыка, якая дзякуючы выкананню салістаў, хору і аркестра капэлы "Санорус" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута мела шырокі розгалас як у свецкіх канцэртах, так і падчас набажэнстваў у беларускіх храмах на галоўныя хрысціянскія святы.

Сюіта для камернага аркестра "Consort Lessons", цыкл з адзінаццаці п'ес "Tales of the Magic Tree" ("Казкі Старога Дрэва") для струннага аркестра, канцэрт для фартэпіяна і струннага аркестра "Каліпса" — таксама прыгожая і ўпадабаная меламанамі музыка А. Літвіноўскага, у якой можна знайсці люструнак пэўных станаў прыроды, чалавека і, калі хочаце, прыроды чалавека, міфалогіі ды містыкі — праз пераасэнсаванне і пераўвасабленне стылістыкі барока ў прыёмах артмінімалізму. Дарэчы, персанажы антычнай міфалогіі, істоты беларускіх паданняў і легенд, адухоўленыя прыродныя з'явы, можна сказаць, прыжыліся ў яго разнажанравай і полістылістычнай творчасці, пра што кажуць і самі назвы, якія патрапляюць у сутнасць музычнага вобраза: "Ра", "Сцікс", "Фея прыліваў", "Таўрус", "Нікта", "Вір", "Фарон", "Філікс"... Аднак ці ёсць сэнс у пераліку твораў, якія кожны ахвочы можа проста паслухаць і атрымаць непасрэдныя ўражанні!



*Кампазітар Аляксандр Літвіноўскі ля дома ў Кларане, дзе жыў і працаваў Ігар Стравінскі (Мантро, Швейцарыя).*

**Дзе ж можна паслухаць** яго музыку? На жаль, жывое канцэртнае выкананне твораў беларускіх кампазітараў апошнім часам ператварылася ў амаль невырашальную праблему. Аднак музыку аднаго з нашых самых паспяховых і запатрабаваных кампазітараў Аляксандра Літвіноўскага можна знайсці ў інтэрнэце. І не толькі. Вядомае мінскае выдавецтва "Каўчэг" (дырэктар Уладзімір Кузьмін) выпусціла ў свет ужо шэсць гожа аздобленых кампакт-дыскаў з яго музыкай. Прадаюцца яны не ў падземных шапіках, а ў элітарных кіёсках, размешчаных у фае Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, Беларускай дзяржаўнай філармоніі, галоўнага корпуса Нацыянальнай акадэміі навук. Дыскі з музыкай, не прызначанай для масавай публікі, маюць попыт, а значыць, у кампазітара нямала сапраўдных, сур'ёзных прыхільнікаў. Цікава, што "Tales of the Magic Tree" выдавецтва "Каўчэг" уключыла ў новы праект, і ў хуткім часе цыкл гэтых п'ес будзе растыражаваны на новым дыску "Музыка Нясвіжа", які змогуць набыць наведвальнікі (у тым ліку і замежныя турысты) гістарычнай рэзідэнцыі князёў Радзівілаў у старажытным беларускім горадзе. Зрэшты, для замежжа імя Аляксандра Літвіноўскага даўно адкрытае. Калісьці ён удзельнічаў у міжнародных семінарах для маладых кампазітараў, заняткі з якімі вялі сапраўдныя легенды новага часу: Кшыштаф Пендэрэцкі, Майкл Найман, Дарэл Раўнсвік, бываў на інтэрнацыянальных творчых стажыроўках у музычных цэнтрах Еўропы і ў ЗША, займаўся ў славутай электраакустычнай студыі Кракаўскай музычнай акадэміі пад кіраўніцтвам Марэка Халанеўскага ды Кшыштафа Кнітэля... Яго музыку ігралі ды іграюць замежныя майстры, якія гастралююць у розных краінах: Кёльнскі аркестр (Германія), польскія выканаўцы — скрыпачка Ганна Зялінская, габаіст Марыуш Пендзялэк, трубач Цыпрыян Башынскі, саксафаніст Павел Пец, бельгійская скрыпачка Сесіль Брашэ і яе суайчынніца — віяланчэлістка Эдыт Эрберт, эстонскі дырыжор Эркі Пекх, швейцарскі дуэт Бруна Маер (флейта) і Хан Ёнкерс (гітара)...

**Дзяліцца планамі,** распавядаць пра новыя праекты? Не! Гэта тэма для размоў закрытая. Падсумоўваць тое, што напісана ў розны час, — яму нецікава: гэта ўжо творчае мінулае, куды няма сэнсу, дый немагчыма, вяртацца. Праўда, яшчэ жывыя ўражанні ад працы над праектам "Джаз Графіці" ў студыі электраакустычнай музыкі, дзе кампазітар пры ўдзеле віртуозных выканаўцаў і з дапамогай найноўшых камп'ютарных праграм дасягнуў адмысловага гучання музычных імправізацый, з якіх выкшталцоўваецца непаўторны і дасціпны тэатр інструментальных вобразаў, захаваны, дарэчы, на кампакт-дыску "Jazz Graffiti". А яшчэ можна пагаварыць пра нядаўні, шосты дыск "Windophonia" (музыка для духавых), куды ўвайшлі п'есы для габоя, для квінтэта флейтаў, для трубы і цыкл кампазіцый для нізкіх духавых інструментаў "Рухі на адкрытым сонцы". З гэтым цыклам звязана цікавасць А. Літвіноўскага да мастацкіх магчымасцей інструментаў сімфанічнага аркестра, якія надзвычай рэдка мы бачым і чуем "буйным планам". Выразныя фарбы ў партытурах, яны рэдка трактуюцца як сольныя інструменты, для іх амаль няма арыгінальнай нотнай літаратуры. Аднак у тэмбрах нізкіх духавых ёсць невытлумачальная магія, свая вербальнасць, нейкі медытатыўны, нават чарадзейны эфект. Перакананы ў гэтым, кампазітар, скарыстоўваючы ў развіцці тэматычнага матэрыялу прынцыпы артмінімалізму, нібы ўслухоўваецца ў глыбінную архаічную прыроду інструмента, прымнажаючы яго гучанне ў ансамблі, змешваючы фарбы розных груп: тры эўфоніумы і туба, чатыры трамбоны, чатыры фаготы... Дарэчы, эксперыментаваць ён любіць з жывым акустычным гукам, спасцігаючы і характар, і выканальніцкія параметры кожнага інструмента, вывучаючы ўсемагчымую палітру штрыхоў і прыёмаў гуказдабывання праз кансультацыі з музыкантамі.

**З разважанняў Аляксандра Літвіноўскага:**

*"Жыццё хуткаплыннае, і трэба паспець шмат зрабіць за тыя гады, што табе наканаваныя, каб ты паспеў раскрыцца. Ёсць момант для творчасці, які нельга прапусціць... Я адчуваю сябе адказным за кожную работу, над якой працую. І што б гэта ні было, імкнуся вытрымаць і захаваць пэўны стыль. Немагчыма прымаць, і не толькі ў мастацтве музычным, тыя "адкрыцці", калі поўная бязглуздзіца і безгустоўшчына (часта як вынік "недаспеласці" асобы, а то і недавучанасці, маладукаванасці) выдаюцца за новае і сучаснае. Разуменне гэтага прыходзіць з узростам, калі ўнутры цябе фарміруецца прафесійная самарэдактура. Вось я заканчваю рэч, над якой працаваў некалькі гадоў... Што гэта значыць? Ты ўзводзіш будынак і ўцягваеш у свой праект іншых людзей! Дык нельга прапаноўваць ім нешта ў нечым недаробленае: сорамна!"*

Сёння яго не цікавіць чыстая электроніка, бо гэта штучнае, народжанае машынай, пазбаўленае натуральных эмоцый і станаў, нежывое гучанне. Яго не цікавяць эпатажныя выяўленчыя прыёмы: "Колькі б разоў мы ні стукнулі, напрыклад, па раструбе трамбона ці вечку раяля, ні выканальніцкага майстэрства, ні эстэтычнага зместу ад гэтага не прыбудзе".

У бліжэйшы час працягнецца супрацоўніцтва з англійскім кларнетыстам, які мае намер уключыць опусы таленавітага беларускага аўтара ў анталогію авангарднай кларнетовай музыкі XX стагоддзя. А самому кампазітару хацелася б засяродзіцца на працы з вялікім складам сімфанічнага аркестра (гэтая стыхія заўсёды інтрыгавала яго) і, калі атрымаецца, развіваць кантакты з тэатрам: мінулы сезон Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек, напрыклад, быў азнаменаваны дэбютам А. Літвіноўскага як аўтара музыкі дзвюх прэм'ер, пастаўленых рэжысёрам Аляксандрам Янушкевічам: нашумелага спектакля для дарослых "Вянчанне" і міні-мюзікла для дзяцей "Асцярожна, свіння!" Між іншым, выканаўцы і суаўтары самі знаходзяць яго праз інтэрнэт.

**У юнацтве ён адкрыў** для сябе музычны свет і асобу Ігара Стравінскага. Пісаў рэфераты па яго творчасці. І па-ранейшаму называе гэтага кампазітара сваім галоўным Настаўнікам. Тым часам музыку самога Аляксандра Літвіноўскага ўжо даўно вывучаюць даследчыкі, студэнты і аспіранты пішуць навуковыя работы паводле яго твораў. Гэтай вясной кампазітара запрасілі на сустрэчу, якая адбылася ў яго альма-матар падчас чарговых Міжнародных навуковых чытанняў імя Л. Мухарынскай і прайшла пад рубрыкай "Выдатныя постаці беларускай музыкі XXI стагоддзя". Госць узяў з сабою шэсць аўтарскіх кампакт-дыскаў, раздаў сярод прысутных "па крузе", прапанаваў азнаёміцца са зместам і задаваць пытанні пра тое, што каго зацікавіла. Пры канцы сустрэчы дыскі вярнуліся да А.Літвіноўскага, і ён уручыў іх як дарунак Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, якой сёлета спаўняецца 80. Дарэчы, сам кампазітар адзначыў нядаўна сваё 50-годдзе.

Наталля ВАСІЛЁНАК,
фота Уладзіміра Вітчанкі

**Вясновым суботнім днём у сценах Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі панавала святочная ўзрушанасць: тут праходзіў фінальны тур першага Рэспубліканскага конкурсу юных вакалістаў імя Ф. І. Шаляпіна. Хтосьці скажа: чарговы дзіцячы конкурс? Але гэта не так. Гэты конкурс, у адрозненне ад шматлікіх эстрадных шоу, ставіў асноўнай мэтай распаўсюджванне культуры акадэмічных спеваў сярод хлапчукоў і юнакоў, пошук талентаў для будучыні нацыянальнага опернага мастацтва. Дзеля гэтай высакароднай мэты свае намаганні аб'ядналі Беларускі саюз музычных дзеячаў і яго структурныя падраздзяленні: Шаляпінскае таварыства Беларусі, Асацыяцыя кіраўнікоў хароў хлопчыкаў і юнакоў, прадзюсарскі цэнтр "Класіка", а таксама — Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі.**



*Выступае старшыня Шаляпінскага таварыства Беларусі Алег Мельнікаў.*

# Вакол Шаляпіна

Нягледзячы на абмежаванні па ўмовах удзелу, конкурс выклікаў вялікую зацікаўленасць. На першы тур паступілі 52 заяўкі, і паводле вынікаў прагляду відэазапісаў журы дапусціла да ўдзелу ў другім туры 20 хлопчыкаў і юнакоў, якія прадстаўлялі пяць абласцей краіны і горад Мінск. Юныя вакалісты спаборнічалі ў трох узроставых катэгорыях ад 7 да 16 гадоў. Кожны канкурсант выконваў тры творы: вакальны опус беларускага кампазітара, народную песню *a'capella* і твор на выбар.

У склад журы ўвайшлі кампетэнтныя спецыялісты: Алег Мельнікаў — заслужаны артыст Беларусі, старшыня Шаляпінскага таварыства Беларусі, вядучы майстар сцэны нашага Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, лаўрэат міжнародных конкурсаў, лаўрэат першага Усесаюзнага конкурсу імя Ф. І. Шаляпіна, старшыня журы; Адам Мурзіч — заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь, мастацкі кіраўнік Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра; Валерый Аўраменка — дэкан вакальна-харавога факультэта, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі; Наталля Вітчанка — першы намеснік старшыні праўлення БСМД, віцэ-прэзідэнт



*Лаўрэат конкурсу Юрый Дземідовіч.*

Міжнароднага саюза музычных дзеячаў; Валерый Варлахін — сустаршыня Асацыяцыі кіраўнікоў хароў хлопчыкаў і юнакоў БСМД.

Варта назваць лаўрэатаў конкурсу, бо, думаецца, ён стане вызначальным у творчым лёсе юных вакалістаў, і, магчыма, праз некалькі гадоў мы пачуем іх імёны ў вялікім мастацтве. Гэта Юрый Дземідовіч (дыплом лаўрэата ў катэгорыі "С") — навучэнец Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі; Арцём Голубеў (дыплом лаўрэата ў катэгорыі "С") — навучэнец сярэдняй школы № 1 г. Горкі Магілёўскай вобласці; Даніэль Кейта (дыплом лаўрэата ў катэгорыі "В") — навучэнец Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры БДАМ; Цімур Курбатаў (дыплом лаўрэата ў катэгорыі "А") — навучэнец сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 159 г. Мінска; Уладзіслаў Барткевіч (дыплом 2 ступені ў катэгорыі "С") — навучэнец Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры БДАМ; Уладзіслаў Качан (дыплом 2 ступені ў катэгорыі "С") — навучэнец Дзіцячай школы мастацтваў г. Смалявічы Мінскай вобласці; Максім Кажамячонак (дыплом 2 ступені ў катэгорыі "В") — навучэнец Дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 8 імя Р. Р. Шырмы г. Мінска; Ніко Балквадзэ (дыплом ІІ ступені ў катэгорыі "В") — навучэнец Дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 7 г. Мінска; Андрэй Маслаў (дыплом 2 ступені ў катэгорыі "А") — навучэнец Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі; Уладзіслаў Крылоў (дыплом 3 ступені ў катэгорыі "С") — навучэнец ДУА "Абідовіцкі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад-сярэдняя школа", в. Абідовічы Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці; Аляксей Русак (дыплом 3 ступені ў катэгорыі "С") — навучэнец Абухаўскай дзіцячай школы мастацтваў, аграгарадок Абухава Гродзенскага раёна Гродзенскай вобласці; Ігнат Данько (дыплом 3 ступені ў катэгорыі "В") — навучэнец гімназіі-каледжа мастацтваў г. Маладзечна Мінскай вобласці; Аляксандр Нярода (дыплом 3 ступені ў катэгорыі "В") — удзельнік харавой студыі "Пеўнікі" Брэсцкага гарадскога дома культуры; Аляксандр Бабіч (дыплом 3 ступені ў катэгорыі "А") — навучэнец сярэдняй школы № 183 г. Мінска.

Сапраўднае ўрачыстае хвалянне перажылі гэтыя хлопцы з розных абласцей, беларускай сталіцы і глыбінкі, калі ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі праходзіла цырымонія ўзнагароджання і ладзіўся гала-канцэрт пераможцаў конкурсу. Вяла праграму з уласцівай ёй абаяльнасцю музыказнаўца Наталля Ганул. А ў фінале канцэрта быў сюрпрыз: на сцэну выйшаў Алег Мельнікаў і выкананнем "Песні пра блыху" М. Мусаргскага — аднаго з улюбёных твораў Ф. Шаляпіна — проста ўзрушыў публіку!

Вакальны конкурс хлопчыкаў і юнакоў, упершыню праведзены ў Беларусі, спрыяў адкрыццю новых юных талентаў, захаванню традыцый вакальнай школы, садзейнічаў абмену педагагічным досведам і выканаў важную асветніцкую місію. Таму яго заснавальнікі прынялі рашэнне зрабіць гэты праект традыцыйным і правесці другі Рэспубліканскі конкурс юных вакалістаў імя Ф.І. Шаляпіна ў 2013 годзе, прысвяціўшы яго 140-годдзю вялікага рускага спевака.

# Такая магія цымбалаў!

Ала РЫСЕНКАВА

**Сталічны Цэнтр дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі "Ранак" адметны тым, што з 2006 года тут працуе клуб аматараў цымбалаў "Гусляр". Гэты клуб аб'ядноўвае ўсіх неабыякавых да самабытнай культуры роднай Беларусі, інструментальным голасам якой называюць цымбалы. Дзверы клуба адчыненыя для ўсіх, хто мае ў сваім сэрдцы павагу да нацыянальнага інструмента.**

За час свайго існавання клуб склаўся як асяродак творчага яднання аматараў цымбальнага мастацтва, і вынік яго дзейнасці ўражвае: шматлікія канцэртныя праграмы з вялікім рэпертуарным дыяпазонам — ад класікі да джаза, адкрыццё ў 2007 годзе музея цымбальнага мастацтва "Спеў цымбалаў". Падчас адкрыцця ў кіраўніка музея Алены Барысенкі, настаўніцы гімназіі № 174, былі неабсяжныя планы, многія з якіх на сённяшні дзень ужо здзейсніліся. А менавіта — выдадзеныя зборнікі з аранжыроўкамі ў дапамогу настаўнікам-цымбалістам, наладзіліся трывалыя сувязі з клубамі цымбалістаў іншых краін, сам клуб стаў адзіным каардынацыйным ды інфармацыйным цэнтрам, дзе цымбалісты-пачаткоўцы маюць магчымасць атрымаць прафесійную дапамогу і інфармацыю па гісторыі беларускіх цымбалаў.

Аднак Алену Анатольеўну не пакідалі новыя мары. Пра гісторыю беларускіх цымбалаў напісаныя кнігі, ёсць шмат часопісных публікацый. У розныя гады былі створаныя фільмы пра бліскучага музыканта, дырыжора, чулага педагога і руплівага збіральніка беларускай народна-інструментальнай спадчыны Іосіфа Жыновіча. Але ж гісторыя прафесійнай школы цымбалістаў не стаяла на месцы, яна папаўнялася новымі імёнамі.



Расказаць менавіта пра гэта і захацелася ў новым фільме "Цымбалы — ад вытокаў да будучыні". Дзеля ўвасаблення такой ідэі клуб "Гусляр" збіраў і папаўняў матэрыялы музея "Спеў цымбалаў", ладзіў сустрэчы з вучнямі І. Жыновіча, сучаснымі выканаўцамі на цудоўным беларускім інструменце. А калі наспеў час здымаць фільм, член Беларускага саюза музычных дзеячаў А. Барысенка звярнулася па дапамогу да роднай творчай суполкі.

Фільм здымаць — справа вельмі сур'ёзная і затратная, таму вырашылі самі зарабіць грошы: арганізаваць канцэрт і сродкі, атрыманыя ад яго правядзення, накіраваць на здымкі стужкі. Так 19 красавіка 2012 года ў зале "Прэм'ера" ЦК БРСМ сабраліся цымбалісты з розных устаноў сталіцы: ДМШ № 7, ДМШ № 10, Школы мастацтваў, СШ № 60, гімназіі № 4, Мінскага музычнага каледжа імя М. І. Глінкі, Гімназіі-каледжа імя І. В. Ахрэмчыка. На гэты канцэрт нават прыляцела з Бельгіі былая цымбалістка, а цяпер аспірант Бельгійскай акадэміі музыкі па вакале Ганна Селіванава. Прыемна ўразіў таксама прыезд з Люксембурга дацэнта БДАМ Таццяны Ялецкай. Праграма завяршалася "Беларускімі танцамі" І. Жыновіча, калі разам з узорным аркестрам "Абярог" пад кіраўніцтвам Алены Аўраменкі выйшлі іграць вучні І. Жыновіча: Т.Сцяпанава, М. Міцуль, А.Лявончык, Р. Рыбак, Г. Палесава, С. Касцючык.

Прыгожая мара наблізілася да ажыццяўлення: магчыма, дзякуючы праведзенаму канцэрту доўгачаканы фільм папоўніць скарбніцу гісторыі цымбальнага мастацтва.

## Нашы юбіляры



**Генадзь Іванавіч ЗАБАРА** — саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі, заслужаны артыст Беларусі;



**Людміла Сяргееўна ШАЛАМЕНЦАВА** — прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі;



**Валянцін Аляксеевіч ЧАБАН** — прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, кандыдат мастацтвазнаўства;



**Ігар Георгіевіч ВЯДЗЕНІН** — прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, кандыдат мастацтвазнаўства;



**Леў Львовіч МАЕЎСКІ** — старшыня пярвічнай арганізацыі Беларускага саюза музычных дзеячаў ў Дзіцячай музычнай школе № 2 імя М. І. Аладава г. Мінска.

# «Брама мар» прапануе



**У мінулым годзе ў Інстытуце журналістыкі БДУ нарадзілася "Брама мар" — конкурс літаратурнай творчасці студэнтаў. І адразу стала папулярнай — тады ўдзел узялі каля 160 чалавек з 14 беларускіх ВНУ. А сам конкурс названы "Найлепшым моладзевым праектам" і падтрыманы грантам БДУ. "Брама мар" акрамя непасрэдна конкурсу прадугледжвае і пэўнае навучанне ахвочых. Так, пачынаючы са снежня і па май прайшло шмат найцікавейшых творчых сустрэч і майстар-класаў. Сёлета ў шасці намінацыях — "Проза", "Паэзія", "Драматургія", "Крытыка", "Сцэнар", "Творы для дзяцей" — сябе прадставілі 225 студэнтаў. Мы ж прапануем вам паэтычную частку конкурсу — лепшых з лепшых.**

## Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ

### Арменія

***(паэтычны трыпціх)***

*Орущих камней государство —*
*Армения, Армения.*
**Восіп Мандэльштам**

I

Караундж* глядзеў на калядныя зоры
вачыма галодных каменных адтулін,
нібыта цыклопы ў пярэстай прасторы
з дазволу суворага часу паснулі.
Бадзяцца па зорным чужым лабірынце
я ў мроях сваіх нечакана паехаў
туды, дзе мацней арыяднінай ніці
камення спрадвечнага зычнае рэха,
дзе вецер салоны бядзе спачувае,
зямля пад нагамі паэта спявае:
"Каб музыка шчырага сэрца не ўмёрла,
крычы, не шкадуючы хворае горла…"

I — крыкнуў!
Шалёная воўчая зграя
жахлівыя іклы свае агаляе…

II

Крышыцца грыфель, трывае папера,
крычма крычыць у паэта душа.
Муза-пакутніца моўчкі сышла,
каб нарадзіцца ў наступную эру.
Чуеш, як гучна вібруе струна? —
гэта ад сну ачуняла яна.

III

I зноў у срэбры год знікае,
нібы ў трызненні прамаўляе:
"Краіна, дзе крычыць каменне, —
Арменія, Арменія…"

*Караундж —найстаражытнейшая абсерваторыя.

## Максім БАРАВІК

* * *

Давай сёння сустрэнемся ўвечары,
Там, на месцы спатканняў колішніх.
Хочаш, я напяку табе печыва
З дзьмухаўцовым сочывам сонечным?

Твае вочы такія халодныя,
Засмучоныя, беззаганныя,
Як паўшар'і зямнога геёіда,
Па экватары разарванага.

Не марозь майго сэрца туманамі,
Не палі яго позіркам ветаха.
Ты мяне абдымі лепш, каханая,
Ахіні гэтай ночкаю летняю.

Пацалунак, табою народжаны,
Па ўсім целе цяплом расцякаецца.
Бачыш, наша каханне ўстрывожана
З прасціны небакраю ўсміхаецца?

Ты цалуй, не спыняйся, мілая,
За ўсе дні, што расстанем азмрочаны.
Твае вусны, такія шчаслівыя,
Дзьмухаўцовым мне пахнуць сочывам.

### Слоік кахання

Прачнуўшыся ранкам,
лаўлю сябе на думцы,
што галава мая
забіта
толькі неверагодным жаданнем
пакаштаваць
таго буякаватага сочыва,
ягады для якога
дапамагала збіраць яшчэ ты.
Адчыняю дзверцы новай,
зусім нядаўна набытай лядоўні
і разумею,
што,
калі б я нават і марыў зараз
аб якой іншай страве,
рабіў бы гэта дарэмна:
на паліцах
акрамя слоіка з сочывам
ляжыць
толькі
халоднае паветра.
Спрабую зняць
пруткую пластыкавую накрыўку,
якая ўжо пацямнела
ад даўнасці,
і чамусь
пачынаю сумнявацца
ў сваіх магчымасцях.
Складваецца ўражанне,
што
ніяк не хоча мая ёмістасць
з цукрыстым салодкім рэчывам
губляць
нейкую сваю
слоікавую цнатлівасць.
Мучаюся з гадзіну і кідаю —
пад'еў…
А пасля доўга сяджу на кухні
і шкадую,
што цябе зараз няма побач.
Ты мацнейшая за мяне.
Ты б дапамагла.
На жаль, сёння ты не са мною.
Відаць,
не здолелі мы
адкрыць слоікі з сочывам
у нашых сэрцах,
каб стала нам
смачна і салодка
абаім.

## Зміцер БАЯРОВІЧ

### Віжы

Патыліцай чую:
кожны крок,
кожны гак,
кожны гук —
сцеражэ нехта.
Трымае.
Толькі
Трымценне
Трывалае
трам-там
недзе за спінай.
I не ведаю я.
I не думаю я,
што насамрэч
і як адбылося —
што засталося
мне слухаць гэтых уваг,
наўкола
што кволыя
енчуць.

Патыліцай чую: па лужах яны
Шлюп-
шлюп.
Шлюб
спраўляе нейкая пара
ў панядзелак,
і немагчыма праехаць.
Бо немагчыма жыць.

I я так хачу, каб гэта былі твае віжы.
Ды толькі ты ведаеш маё жыццё.
Больш за мяне.

## Ганна ДУСЬ

### Яго кватэра

Пах гарбаты,
невядомых зёлак
I спакой.
Я тут не твая,
Ты не мой.
Ложка няма,
Няма коткі,
Ёсць толькі
Столь,
Гмах,
Хвілінны боль,
Калі ўдыхаеш дым,
А выдыхаеш соль.

* * *

*А у Цябе няма імя.*
*Ніяк не зваць маю руку ці вока.*
**Наталля Кучмель**

Са ста зацікаўленых позіркаў
Мой — апошні.
Калі пройдуць вакацыі,
Скончацца экафорумы,
Ночы на ровары
Простымі рухамі
Вусны ў вусны,
Далонь у далонь
Выкажы словы падзякі.

### Маналог для флейты

Першая вольта два такты —
Басанож на мокрым асфальце:
Па Фарынгэйту,
Па Цэльсію,
Усе вакол закаханыя,
А ён чакае дысперсію,
А ён блукае да раніцы,
А ён не верыць,
Што спраўдзіцца.
Рысамі кплівымі ласціцца,
А ён кажа: "Сонейка лашчыцца".
А ён выпраўляецца на ровары.
А ён мілагучна маркоціцца.
Ды лаецца, гэтак жа правільна.
Не веру.
Калі ж гэта скончыцца?

## Ірына КАРЭЛІНА

### Там, дзе мора

Брукаванка са зліткаў золата
у святле ліхтароў.
I, начной цішынёй праколатая
да глыбінь і асноў,
я блукаю па зорных вуліцах,
удыхаючы пыл.
Мне здаецца, вось-вось перакуліцца
у ваду небасхіл.
Гэты горад на беразе вечнасці —
заканчэнне дарог.
Там, дзе мора зліваецца з млечнасцю,
пачынаецца Бог.
Я іду па аблоках акацыі —
скрозь пялёсткавы рой.
Нават тут, на цэнтральным пляцы,
можна слухаць прыбой
і адчуць — кожнай цела клетачкай,
да скразной нематы:
там, дзе мора зліваецца з млечнасцю,
пачынаешся Ты.

### Пад коўдрай

Па ложках! На раз, два, тры!
Чатыры… "Алё, ты спіш?"
Пад коўдрай тваёй — Гальфстрым,
пад коўдрай маёй — Парыж.
I што б я рабіла без…
Ляжу, вывучаю столь.
Пад коўдрай тваёй — дыез,
пад коўдрай маёй — бемоль.
Радкоў паслухмяны рой
стварае няўцямны гул.
Пад коўдрай маёй — ой…
ты соладка так паснуў…
Гарбаты цыклоп-ліхтар
вартуе штоноч акно.
Пад коўдрай — прыстанак мар
і дзённік агульных сноў…

## Вольга ПАЎЛЮКЕВІЧ

### Арэхавая

яны каштавалі адно аднаго,
яна называла яго антонаўкай,
бо восеньскі,
бо старэйшы на год,
бо так жа ўпівалася
у вусны ягоныя.
а ён называў яе на пацеху ёй
арэхавай.

яны сустракаліся ці ў сяброў,
ці ў "двушцы" ягоных бацькоў
у Дражні,
казалі, яна з яго ўе вяроўкі,
яна зацяжарала —
як разважліва!
вяселле,
кватэра на Нававіленскай —
і закруцілася…
дачка нарадзілася хутка —
ў лютым,
і ён нечакана амаль расплакаўся,
адразу ж назваў яе —
сам — Анютай
адразу ж прыдумаў
ёй сотню якасцяў
і будучыню,
так, што сам паверыў —
наперад.

не стала заробкаў
праз некалькі год —
якраз ён падумваў
скапіць на машыну —
злаваўся, як чорт,
а яна для яго
штаны перашыла
і шалік звязала —
як і для дачкі,
хіба толькі больш
за дзесяць такіх.
а потым, калі прыйшоў нецвярозы,
паклала яго у ложак, як хворага
і іншым казала:
якая
вам
розніца?
а мужа пытала:
табе не сорамна?..
не біла талерак і не крычала —
спачатку.

усё падалося адным імгненнем,
а колькі разоў так хацела кінуць
жанчына з каханнем сваім мацнее:
арэхам,
загорнутым у лупіну.
а вочы арэхавае надзеі —
цямнеюць…

**Мы нярэдка размаўлялі з Ігарам Сіговым пасля спектакляў, калі ён выходзіў да гледачоў: прыгожы, мужны, шчаслівы. Апладысменты, кветкі — усё настройвала на шчырую гутарку. І раптам — кабінет, офісны фатэль, стол з тэлефонамі, супрацоўнікі: сёлета ў сакавіку вядомы акцёр стаў дырэктарам Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі.**



Галіна МАХАЕВА

# Першыя крокі дырэктара

**— Ігар Аляксеевіч, з якімі пачуццямі вы ўспрынялі прапанову Міністэрства культуры заняць пасаду дырэктара роднага РТБД?**

— У мае планы гэта не ўваходзіла, але я пагадзіўся, бо адчуваў, што ў тэатры наспелі перамены, і ведаў, у якім напрамку ён павінен развівацца далей.

**— Але ж гэта вялікае кола адміністратыўных абавязкаў. Чым будзеце ахвяраваць: кіно, сцэнай, сям'ёй, адпачынкам?**

— Давядзецца менш іграць і ў тэатры, і ў кіно.

**— А кіно ж справа такая прэстыжная! Тым больш калі ўсе ведаюць, што вы прайшлі ў Галівудзе па "чырвоным дыванку", калі намінаваліся на прэмію "Оскар" за ролю бацькі ў фільме "Дзверы". Дый вы сыгралі ўжо ў пяцідзесяці стужках!**

— Я і цяпер рыхтуюся да здымак у расійска-беларускім фільме "Смерш", дзе ў мяне роля нямецкага дыверсанта. Так што "я ажаніўся з прафесіяй", ад яе нікуды не сыдзеш.

**— У тэатры ў дачыненнях з акцёрамі ваша роля цяпер іншая. З партнёра вы ператварыліся ў начальніка. Як будзеце ладзіць адносіны, заахвочваць, "пявучаць", сябраваць і г.д. Напрыклад, акцёр дапусціў правіну, вы яго адміністратыўна пакаралі, а ў спектаклі мусіце ўвасабляць прыніжанасць перад яго персанажам. Ці зможаце пераадольваць гэты псіхалагічны бар'ер?**

— Гэтага бар'ера не існуе, бо сцэнічная пляцоўка ураўноўвае ўсіх. Там няма начальнікаў і падначаленых, няма "народных і заслужаных". Зразумела, як дырэктар я павінен патрабаваць парадку, кагосьці караць, кагосьці заахвочваць, аднак гэта датычыцць арганізацыйных, а не творчых момантаў. Мая задача — падабраць такую каманду супрацоўнікаў, якая забяспечвала б на высакаякасным узроўні ўсе службы тэатра: светлавое, дэкарацыйнае, тэхнічнае абсталяванне, касцюмерны і рэквізітарны цэхі, працу з гледачом і г.д. А ўласна творчая праца — гэта справа мастацкага кіраўніка тэатра.



*Спектакль "Чайка": І. Сігоў у ролі Трыгорына і Вераніка Буслаева ў ролі Ніны Зарэчнай.*

**— Дарэчы, новы мастацкі кіраўнік і галоўны рэжысёр РТБД Аляксандр Гарцуеў прыйшоў у тэатр, можна сказаць, адначасова з вамі. Ці працавалі вы раней з ім як акцёр? Ці ўяўляеце ўзровень яго творчых патрабаванняў?**

— У нас працоўныя стасункі, тым болей, што як акцёр я працаваў з рэжысёрам Аляксандрам Гарцуевым у спектаклі "Чорны квадрат", які ён ставіў. Такім чынам, ведаю яго творчую пазіцыю і дзелавыя якасці. Варта нагадаць, што пастаўлены ім на Купалаўскай сцэне спектакль "Не мой" атрымаў не так даўно пяць з сямі конкурсных узнагарод першай Нацыянальнай тэатральнай прэміі. І гэта таксама важна для пачатку яго дзейнасці ў якасці мастацкага кіраўніка і галоўнага рэжысёра нашага тэатра. Вядома, шэраг творчых праблем мы будзем вырашаць з ім разам, а таксама калегіяльна з дапамогай мастацкага савета тэатра.

**— Што б вы хацелі ажыццявіць у сваім калектыве ўжо ў ролі дырэктара, чаго не маглі здзейсніць раней як акцёр?**

— Захаваўшы даўнія традыцыі, закладзеныя яшчэ Валерыем Мазынскім, а затым працягнутыя Валерыем Анісенкам (папярэднік І.Сігова, ён з нядаўняга часу з'яўляецца мастацкім кіраўніком Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. — **Рэд.**), хацелася б змяніць у лепшы бок фармату тэатральную аснову тэатра. Будзем запрашаць розных рэжысёраў з іх індывідуальным почыркам, знаёмых з новымі сучаснымі тэндэнцыямі ў развіцці тэатральнага мастацтва. Гэта будуць і замежныя майстры, і нашы беларускія маладыя рэжысёры, да прыкладу, Павел Харланчук, Галіна Чарнабаева ды іншыя. Як акцёр я мару пра тое, каб на рэпетыцыю "ляцець, нібы на крылах, а не адбываць павіннасць". Бо, паводле Станіслаўскага, рэжысёр — гэта люстэрка, у якім акцёр бачыць сябе, а ён хоча бачыць сябе розным.

**— А як вы разумееце сучасную ролю тэатра ў беларускім грамадстве? Што ён павінен рабіць: павучаць, забаўляць, выхоўваць, абуджаць свядомасць?**

— Тэатр павінен выконваць усе гэтыя задачы. Яны ў яго застаюцца адны і тыя ж — на ўсе часы.

**— А што можаце сказаць наконт рэпертуарнай пазіцыі тэатра беларускай драматургіі: ёсць жа тут свая спецыфіка?**

— Зразумела, 75 — 80 працэнтаў рэпертуару адведзена беларускай драматургіі, астатняе — гэта сучасная і класічная драматургія рускага, савецкага і сусветнага тэатра. Але ўсё па-ранейшаму будзем іграць на беларускай мове.

**— Ці плануецца нешта новае ў дзейнасці Цэнтра беларускай драматургіі, які працуе ў вашых сцэнах?**

— Разам з дырэктарам Цэнтра думаем пра тое, каб пашырыць функцыі гэтай арганізацыі. Будзем запрашаць драматургаў з Польшчы, Расіі, Украіны. Магчыма, сам творчы працэс будзе ладзіцца на вялікай сцэне, з далучэннем акцёраў розных тэатраў, якія будуць у варыянце чытання прадстаўляць тую альбо іншую новую п'есу.

**— Ігар Аляксеевіч, а вы хацелі б, каб пры РТБД была свая пастаянная тэатральна адукаваная публіка, кшталту глядацкага журы, да меркавання якога вы прыслухоўваліся б?**

— Лічу, што гэта неабходна кожнаму тэатру, бо спектаклі бываюць розныя: і элітарныя, і фестывальныя, і для масавага гледача. І таму тэатральна адукаваная публіка можа сказаць сваё слушнае слова. Тут важная зваротная сувязь.

**— Калі здараюцца складаныя сітуацыі, да каго вы звяртаецеся па дапамогу, якім чынам пазбаўляецеся стрэсу?**

— Хоць я чалавек самадастатковы, у складаных жыццёвых сітуацыях, вядома ж, магу параіцца з роднымі, з сябрамі, з блізкімі мне па духу людзьмі. Бывае, што "размаўляю з Богам". А зняць стрэс дапамагае трэнажорная зала, якая ёсць у нашым тэатры, і прырода. Таму я мару пабудаваць свой дом у якой-небудзь прыгожай мясціне, дзе можна пачувацца вольным, як птушка.

**— Але ж у доме вы будзеце жыць не адзін, а з сям'ёй?**

— Вядома. Проста я буду вольны ад працы, змагу адпачываць з роднымі, з сябрамі, насалоджвацца прыродай, займацца спортам.

*Бацька памёр, не дачакаўшыся яго тэатральных перамог. А мама, як і кожная маці, ганарыцца поспехамі сына і радуецца, хаця вельмі хацела некалі, каб Ігар стаў чалавекам вайсковым. Зрэшты, у кіно "вайна" ўсё ніяк не дазволіць зняць форму з пагонамі, ніяк не адпусціць акцёра ў цывільны свет. А ў гэтым звычайным свеце ён аддае перавагу швэдарам і джынсам, зручнай спартыўнай вопратцы. Прызнаецца ў захапленні самай рознай добрай музыкай — ад класікі да джаза і шансона. А яшчэ займаецца бегам. Між іншым, само гэтае слова для яго знакавае не толькі ў спартыўных занятках, але і, па-свойму, у творчасці. Адну з апошніх па часе, складаную і трагічную ролю Хлудава, Ігар Сігоў сыграў на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага (як запрошаны акцёр) — у спектаклі "Бег" паводле п'есы М. Булгакава. І гэтая роля ўсё яшчэ "трымае" акцёра ў полі псіхалагічных супярэчнасцей вядомага вобраза. Але на бліжэйшую будучыню яму наканавана новая роля, якая абавязвае змяніць бег на ўпэўнены дырэктарскія крокі.*

**Даведка**

**Ігар Сігоў нарадзіўся ў 1968 годзе ў Полацку. Бацькі — простыя рабочыя, ад мастацтва далёкія — ад сына патрабавалі аднаго: каб ён быў сумленны і адказваў за свае ўчынкі. Яго захапленнем не пярэчылі. Сын не піў, не курыў, не хуліганіў, быў упарты і ўсяго дасягаў сам. Займаўся спортам, удзельнічаў у мастацкай самадзейнасці. У школе быў чэмпіёнам Полацка па бегу. З 8 класа "захварэў" на тэатр. Першую ролю — Прынца ў спектаклі "Сястра мая Русалачка" — сыграў у дзіцячай тэатральнай студыі. Тады і пачаў марыць пра сцэну. У Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў паступіў з другога разу — ужо адслужыўшы ў войску. Ігар сыграў у дыпломным спектаклі "Барбара Радзівіл" і адразу быў запрошаны кіраўніком выпускнога курса, рэжысёрам В. Мазынскім у тэатр "Вольная сцэна", які затым стаў Рэспубліканскім тэатрам беларускай драматургіі. "З таго часу, — прызнаецца І. Сігоў, — гэта мой другі дом. Тут для мяне дарагая кожная прыступка і кожная куліса".**



*Фота Аляксандра Дзмітрыева*

*І. Сігоў у спектаклі "Бег".*

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Ганна Шарох, навуковы супрацоўнік Музея традыцыйнага ручнога ткацтва Паазер'я, які з'яўляецца часткай Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, распавядае пра правядзенне вясельнага абраду "Як зліліся дзве рэчанькі":**

— Зразумела, большая частка абраду створана на аснове шырокага кола фальклорных, этнаграфічных крыніц, а таксама даследаванняў навукоўцаў. Вясельны абрад "Як зліліся дзве рэчанькі" пачынаецца з урачыстай сустрэчы маладых хлебам і соллю каля ўвахода ў музей. Потым усе праходзяць у першую залу, дзе ладзяцца выпрабаванні для маладых. Першае выпрабаванне: па падлозе раскіданы відэльцы і качарга. Іх трэба сабраць і звязаць пояском (сімвал таго, што пара не распадзецца). Затым я кідаю маладым пад ногі таўкач. Яго трэба злавіць, але не пераступіць. Калі атрымаецца, яны будуць жыць без сварак. Пасля муж і жонка атрымліваюць першае сумеснае заданне: трэба натаўчы зярнятак у ступе, каб атрымалася мука. Апошняе выпрабаванне мае эратычны падтэкст, бо пасля паспяховага выканання задання маладым уручаюць лялькy-скрутку, якую яны "натаўклі".

Наступны этап абраду праходзіць на другім паверсе музея. Ён называецца "Шлюбавіны". Я абвязваю маладых пояском, каб атрымалася васьмёрка (сімвал бясконцасці, дабра і шчасця), і ваджу іх тры разы вакол "Сусветнага Дрэва". Гэта сімвалізуе яднанне. Трэці этап мае назву "Дарэнне". Мы дорым маладым бурачок, агурок, дыньку і абыгрываем гэта ў жартоўнай форме. Напрыканцы муж і жонка падыходзяць да іконы святой Параскевы Пятніцы, просяць у яе здароўя і шчасця. Пасля абраду яны пакідаюць на Сусветным Дрэве стужкі, у знак таго, што сягоння на Дрэве з'явілася новая галінка, а значыць, стварылася новая сям'я.

Варта адзначыць, што абрад "Як зліліся дзве рэчанькі" не з'яўляецца дэталёвай рэканструкцыяй святочнай традыцыі, ён спалучае ў сабе значныя элементы абраду з традыцыямі правядзення сучаснага вяселля.

## «Матулін куток»

Чвэрць стагоддзя таму з карты Полацкага раёна знікла маленькая вёсачка Вераб'і. Цяпер на гэтым месцы з'явілася агратурыстычная сядзіба "Матулін куток", уладальнікі якой сталі ініцыятарамі адраджэння паселішча. Мясцовыя ўлады пайшлі ім насустрач і ў 2011 г. прысвоілі былой вёсцы статус населенага пункта. Праўда, ён атрымаў новую назву — Булаўкі, але гэта не засмучае гаспадароў — галоўнае, вёска існуе. Хаця ў ёй пакуль толькі адна хата, ды і тая без электрычнасці, газавая лямпа і свечкі турыстаў-экстрэмалаў якраз і прываблiваюць. "Матулін куток" стаў адной з 32 сядзіб-удзельніц абласнога конкурсу на лепшую аграэкасядзібу Віцебшчыны. Цяпер у вобласці дзейнічае амаль 380 аграсядзіб. Летась яны прынялі каля 19,6 тыс. турыстаў. Лідарамі па арганізацыі "зялёнага адпачынку" з'яўляюцца Браслаўскі, Мёрскі, Расонскі, Глыбоцкі, Полацкі і Пастаўскі раёны.

**Бажэна СТРОК**

*Музейны ўнікат*

**Пры стварэнні музея "Трагедыя Чарнобыля" ў аграгарадку Судкова Хойніцкага раёна яго дырэктар Валянціна Гацко неаднаразова выязджала ў зону адсялення і адчужэння з мэтай збору экспанатаў для раздзела "Этнаграфія выселеных вёсак". Цяпер наведвальнікі музея могуць пазнаёміцца са старадаўнімі прадметамі сялянскага побыту.**

# Быццам у старым кіно



*Куфар з гісторыяй.*

**Клаўдзія БОСАК, фота Алесі Ячычэнкі**

У іх шэрагу выдзяляецца драўляны, са скураным пакрыццём і жалезнай акоўкай дарожны куфар. Яго даўжыня — 97 сантыметраў, вышыня — 70, шырыня — 56 сантыметраў. Невялікая пазалочаная таблічка сведчыць, што выраблены ён у 1864 годзе на фабрыцы скураных рэчаў П'ера Карцье ў вёсцы Дзмітраўка каля Масквы. Знаходзіўся гэты куфар у каморы пакінутага дома, які належаў жыхару вёскі Краснаселле Кліму Кананенку.

Падчас ліставання з былым гаспадаром Валянціна Гацко даведалася, што дзядуля Кліма Ігнатавіча Пётр Ніканоравіч некалі служыў у расійскім войску, часта перaязджаў з месца на месца. Калі выйшаў у адстаўку, вярнуўся на радзіму, праехаўшы далёкі шлях з Уладзівастока на Палессе. Рэчы перавозіў менавіта ў гэтым куфры. Так і ўяўляецца, быццам у старым кіно, эпізод: стройны, падцягнуты мужчына ў капелюшы, трымаючы пад руку спадарожніцу жыцця, крочыць да вагона на чыгуначным вакзале, а ззаду — насільшчыкі з куфрам.

Пасля смерці дзядулі куфар належаў яго сыну Ігнату, затым — самому Кліму Ігнатавічу. Спачатку ў куфар ссыпалі збожжа. А потым, да наступлення эры шафаў, складвалі вопратку. Як успамінае адна з дачок Кліма Ігнатавіча, ёй вельмі цікава было перабіраць тыя ўборы.

Яшчэ адну адметнасць мае гэты рарытэт: унутры, на сценцы, наклеены медалі з тоўстай паперы, на якіх можна прачытаць: "За якасць і стараннe". Значыць, рабочыя фабрыкі ў тыя далёкія гады працавалі сумленна. Яно і не дзіўна: амаль праз паўтара стагоддзя куфар мае належны выгляд — толькі дзе-нідзе пашкоджана скураная абіўка.

*Незабыўнае*

# За кожным імем — подзвіг

**Вайна, якая знішчала ўсё на сваім шляху, нараджала Герояў. Калі за сем даваенных гадоў ганаровага звання "Герой Савецкага Саюза" былі ўдастоены больш як 600 чалавек, то за чатыры гады Вялікай Айчыннай — больш як 11,5 тысячы. Пра 14 Герояў Савецкага Саюза якраз і распавядае выстаўка "Яны прайшлі па той вайне…", якая адкрылася ў Лепельскім краязнаўчым музеі.**

**Таццяна ШЛЕГ, галоўны захавальнік фондаў Лепельскага краязнаўчага музея**

У экспазіцыі прадстаўлены асабістыя рэчы, партрэты, фотаздымкі, узнагародныя лісты, граматы, лісты пяці Герояў, выхадцаў менавіта з Лепельшчыны. Свае подзвігі нашы землякі здзейснілі за межамі сваёй малой радзімы. Кулямётчык Іван Туфтоў прыкрываў пераправу праз раку Паўднёвы Буг і ўдзельнічаў у жорсткіх баях ля Днястра (Украіна). Танкіст Мікалай Тамашэвіч — удзельнік абароны Ленінграда падчас блакады. Лётчык-штурмавік Іван Ерашоў праявіў мужнасць у баях на Курскай дузе і пры вызваленні Левабярэжнай Украіны. Артылерыст, а пасля камандзір партызанскага атрада Вячаслаў Квіцінскі ваяваў на Украіне, у Польшчы і Чэхаславакіі. Пехацінец Павел Ялугін праявіў сябе пры фарсіраванні Дняпра ў раёне Днепрапятроўска (Украіна). Усе яны прайшлі вайну і сустрэлі Перамогу, але за кожным імем свая гісторыя, свой лёс.

У 1943 годзе за здзейсненыя 94 баявыя вылеты лётчык Іван Ерашоў быў прадстаўлены да звання Героя Савецкага Саюза. Указ пра гэта выйшаў на пачатку лютага 1944-га. Але атрымаць высокую ўзнагароду лепельчанін не паспеў. У сакавіку пачалася Адэская наступальная аперацыя савецкіх войскаў. 23 сакавіка ў паветраным баі яго збілі. Ерашова абвясцілі прапаўшым без вестак. Доўгі час пра яго нічога не было вядома. Але лётчык не загінуў. Падчас паветранага бою ён быў паранены, а пры пасадцы самалёта на лясную праталіну страціў прытомнасць і ачуўся ўжо ў нямецкім палоне.




*Частка экспазіцыі, прысвечаная Героям Савецкага Саюза.*

Знаходзіўся ў канцлагеры пад Берлінам, дзе не расставаўся з думкай пра ўцёкі, нягледзячы на моцныя болі ў нагах, якія пашкодзіў пры падзенні. Здзейсніў уцёкі, за тры месяцы прайшоў пешшу больш як 800 кіламетраў па Германіі і Польшчы і выйшаў да сваіх. Пасля лячэння ў шпіталі і працяглых праверак Ерашова залічылі ў войска і ўручылі заслужаныя ўзнагароды — ордэн Леніна і медаль "Залатая Зорка". Але пашкоджаная нага не давала забыцца пра сябе. На ампутацыю Іван Міхайлавіч не пагадзіўся. Магчыма, гэта стала прычынай таго, што 8 мая 1948 года 37-гадовага героя вайны не стала.

Паветраны стралок Фёдар Занько — адзіны лепяльчанін — стаў кавалерам ордэна Славы трох ступеняў. Ваяваў пад Сталінградам, вызначыўся ў баях за вызваленне Крыма, Беларусі і Усходняй Прусіі. За гады вайны Фёдар Пятровіч здзейсніў больш як 230 паспяховых баявых вылетаў. У 1946-м дэмабілізаваўся, вярнуўся на радзіму, працаваў кавалём. Памёр 9 мая 1979 года.

Новая выстаўка распавядае таксама пра Герояў, якія не паходзяць з Лепельшчыны, але злучаны з нашым краем сваімі подзвігамі. Выхадзец з Ліпецкай вобласці (Расія) Міхась Радзівонаў, камандзір 7-й гвардзейскай механізаванай брыгады, 28 чэрвеня 1944 года пры падтрымцы іншых часцей вызваляў Лепель ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Другі расіянін, які нарадзіўся ў Белгарадскай вобласці, сапёр Віктар Кладзіеў 30 чэрвеня 1944-га здзейсніў геpаічны подзвіг пры фарсіраванні ракі Бярэзіна ў раёне вёскі Крайцы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена яму пасмяротна.

З Лепельшчынай звязаны імёны герояў партызанскага руху: камандзіраў партызанскай брыгады Аляксея Данукалава, Лепельскай партызанскай брыгады імя Сталіна Уладзіміра Лабанка, Чашніцкай партызанскай брыгады Фёдара Дуброўскага, партызанскай брыгады Канстанціна Заслонава. Імёнамі Уладзіміра Лабанка і Аляксея Данукалава названы вуліцы ў Лепелі. Малады камбрыг Аляксей Данукалаў загінуў у 1944 годзе, пахаваны на плошчы Свабоды ў Лепелі. У пасляваенныя гады адна са станцый на чыгунцы Орша — Лепель атрымала новую назву — станцыя Заслонава.

На выстаўцы прадстаўлены таксама ўнікальныя дакументы 1943 года: партызанская перапіска, віншаванні Фёдару Дуброўскаму з нагоды прысваення яму звання Героя Савецкага Саюза, партрэты і карціны, напісаныя партызанскім мастаком Мікалаем Абрыньбам.



*Салісткі гурта "Ветах" Таццяна Пладунова і Эвеліна Шчадрына і гурт "Талака".*

# Поруч з традыцыяй

**У Мінску прайшла VI навукова-практычная канферэнцыя "Аўтэнтычны фальклор: праблемы захавання, вывучэння, успрымання", яе арганізатарам выступіла кафедра этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Удзельнікамі форуму сталі вядучыя беларускія і замежныя даследчыкі-фалькларысты, у яго межах прайшлі таксама канцэрты "Фальклор беларускай глыбінкі" і "Традыцыі і пераемнікі". Падчас канферэнцыі навукоўцы звярнулі ўвагу на некаторыя праблемы сучаснай фалькларыстыкі, акрэслілі шляхі вырашэння пэўных пытанняў захавання і папулярызацыі народнай нематэрыяльнай культурнай спадчыны.**

Вячка КРАСУЛІН

Акрамя беларускіх даследчыкаў фальклору канферэнцыю наведалі спецыялісты з Германіі, Славакіі, Літвы, Латвіі, Кітая і Расіі. Падчас зладжаных майстар-класаў кожны мог навучыцца традыцыйным танцам Літвы ад гурта *Reketukas*, паслухаць медытатыўную музыку на паўночнарускіх гуслях у выкананні Сяргея Парамонава. Эксклюзівам майстар-класаў можна смела лічыць першае за 12 год выступленне Алеся Журы з беларускай дудой, які стаяў ля вытокаў аднаўлення і рэканструкцыі школы ігры на дудзе разам з такімі майстрамі і музыкамі, як Алесь Лось, Тодар Кашкурэвіч. Сам вырабляў інструменты і запісаў дыск дударскай музыкі, які, на жаль, не выпускаўся ў поўным аб'ёме.

Падчас пленарнага пасяджэння выступілі беларускія навукоўцы і замежныя госці. Так, прафесар Ульрых Моргенштэрн, які спецыялізуецца на вывучэнні этнічных інструментаў, прадставіў грунтоўную працу, прысвечаную дудзе і сучасным містыфікацыям, звязаным з яе бытаваннем на тэрыторыі Беларусі. Славацкі навуковец Бернард Гарай, нашчадак вясковых музыкаў, дэкан факультэта філасофіі Універсітэта Канстанціна Філосафа ў горадзе Нітра, распавёў пра вопыт захавання і аднаўлення ігры на гайдзе — славацкай дудзе. Карысным і істотнай для беларускіх фалькларыстаў-адраджэнцаў інфармацыяй падзялілася Ірэна Страдзіене, кіраўнік віленскага фальклорнага цэнтра *Reketukas*. Спадарыня Ірэна яшчэ з 1980-х гадоў займаецца педагагічнай фальклорнай дзейнасцю і мае вялікі досвед у галіне этнавыхавання дзяцей і моладзі. Прафесар Аляксей Рагуля распавёў удзельнікам пасяджэння пра пантэізм у ліраэпасе і драматургіі найноўшага часу і прысвяціў сваё выступленне 130-гадоваму юбілею Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Падчас канцэрта "Фальклор беларускай глыбінкі" слухачам выдался ўнікальная магчымасць пачуць народныя гурты "Крыніца" і "Спадчына" з Падзвіння, якія прадставілі песні земляробча-каляндарнага цыкла і песні пазаабрадавага характару. Сапраўдным падарункам фольк-гурманам сталася выступленне мужчынскай валачобнай дружыны вёскі Далосцы, што ў Бешанковіцкім раёне Віцебскай вобласці. У суправаджэнні музычнага акампанементу на скрыпцы і бубне студэнтаў кафедры этналогіі і фальклору мужчыны выканалі абыходную валачобную песню, а саліст суполкі Уладзімір Казлоў — паставую баладу, якую яшчэ ў маленстве чуў ад аднавяскоўцаў.

Увечары другога дня канферэнцыі адбыўся вялікі гала-канцэрт "Традыцыі і пераемнікі", на якім выступілі 18 гуртоў і выканаўцаў. Яшчэ да пачатку канцэрта гурт *Reketukas* вучыў усіх ахвочых традыцыйным літоўскім танцам. Распачаў канцэрт гурт "Раме" з велікоднай песняй "Зялёны сад вішнёвы", якую хлопцы перанялі ад выканаўцаў вёскі Далосцы падчас нядаўняй фальклорнай экспедыцыі. Традыцыйна на фэсце выступілі гурты кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ "Вяснянка", "Страла", "Этнасуполка" пад кіраўніцтвам вядучых этнапедагогаў краіны Наталлі Петуховай, Эвеліны Шчадрыной і Таццяны Пладуновай. Пад бурныя апладысменты адыграў сваю праграму гурт-ветэран "Ліцьвіны" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Бярберава. Цяпер калектыў мала выступае, але знаходзіцца ў баявой форме і застаецца адным з самых папулярных фольк-гуртоў Беларусі. Ларыса Рыжкова, этнапедагог і бязменны лідар гурта "Калыханка" Міханавіцкага Дома культуры разам са сваімі выхаванцамі выканала пазаабрадавыя песні. Свае пошукі ўніверсальнай формы гучання рускага паўночназаходняга фальклору і яго сучаснай рэканструкцыі паказалі ўдзельнікі гурта "Ансамбль СКМ". З дапамогай скрыпак, гусляў і гармоніка яны не далі наведвальнікам канцэрта засумаваць ні на хвіліну. Алесь Жура выканаў традыцыйны найгрыш на дудзе, а потым у дуэце са Сняжанай Рыбальскай на імгненне даў магчымасць меламанам згадаць пра лепшыя часы піцерскага гурта *Musica Radicum*. Дзіцячыя гурты з Сеніцы сыгралі найгрышы да беларускіх народных танцаў, і, падаецца, у гэты час шмат хто з гледачоў шкадаваў пра адсутнасць прасторы для танцаў у канцэртнай зале Палаца культуры ветэранаў. Гэтыя ж адчуванні не пакідалі і падчас выступлення капэлы Анса Берзіна, харызматычнага латышскага выканаўцы на петраградскім гармоніку, і заліхвацкіх танцаў літоўцаў *Reketukas*.

Гурт крыўскай музыкі "Ветах" пад кіраўніцтвам Вячаслава Калацэя, які можна смела лічыць адным з лідараў у аднаўленні дударскага музычнага рэпертуару, выканаў беларускія танцы і песні, сабраныя падчас шматлікіх этнаграфічных экспедыцый па ўсёй Беларусі. Цікавыя паралелі можна было правесці паміж традыцыйнай славацкай школай ігры на гайдзе і беларускай школай ігры на дудзе, калі па зале разліваліся чароўныя гукі гайды Бернарда Гарая, выканаўцы-віртуоза, які даў магчымасць рассунуць межы аматарам дударскай музыкі. Праз выступленне гурта "Грамніцы" яго кіраўнік Уладзімір Зяневіч выявіў сваё бачанне беларускага фальклору і яго адаптацыю пад харавое выкананне. Энергетычным выбухам стаўся карагод "Талакі", — супольнасці гуртоў кафедры этналогіі і фальклору БДУКіМ. Так была пастаўлена кропка ў канцэрце і канферэнцыі.

Падчас канферэнцыі адбылася таксама прэзентацыя зборніка артыкулаў удзельнікаў форуму. Колькасць арыгінальных тэкстаў (а іх у зборніку каля ста) сведчыць пра зацікаўленасць маладых і сталых даследчыкаў традыцыйнай культурай, іх інтарэс да яе вывучэння, захавання і адраджэння.

# Дударскі фольк- (і пост-) мадэрн

**Калі вы знаходзіцеся ў месцы, дзе канцэнтрацыя дудароў на квадратны метр плошчы перавышае звыклую норму ў некалькі разоў; дзе з розных бакоў вы чуеце гукі дуды (добра наладжанай ці не вельмі); калі вы назіраеце сустрэчу музыкаў з розных куткоў Беларусі і іншых краін; асабліва калі ўсе гэтыя дзіўныя працэсы і з'явы адбываюцца ўвесну, то ведайце — вы трапілі на чарговы міжнародны фестываль, прысвечаны дудзе.**

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Алены Рамашко

Менавіта такі фэст, ужо адзінаццаты па ліку, не так даўно прайшоў у беларускай сталіцы. Па завядзёнцы "Дударскі фэст-2012" расцягнуўся на некалькі дзён і ўключаў цэлы шэраг імпрэз рознага фармату — ад традыцыйнага канцэрта-адкрыцця ў сталічным Палацы культуры ветэранаў, канферэнцыі на хутары Шаўловічы, што ў Валожынскім раёне, і камернага канцэрта з майстар-класам па танцах у музейным комплексе "Дудуткі" да абсалютна нефармальнага завяршэння ў клубе "Рэ:Паблік", дзе дудароў і даследчыкаў можна было пабачыць не толькі на сцэне, але і на танцпляцы. І калі дзясяты фэст, што адбыўся ў мінулым годзе, зорны па складзе гасцей з Германіі, Швецыі, Польшчы і Беларусі, у некаторай ступені падвёў вынікі, то сёлетні "Дударскі фэст" хутчэй абазначыў пачатак новай хвалі ў фольку і прадставіў новае пакаленне дудароў, новыя гурты і праекты.

Думаецца, лагічна, што сёння ў фольку назіраецца ўсё больш і больш эксперыментаў па спалучэнні гучання дуды з электроннымі інструментамі. Не дзіўна і тое, што яшчэ застаецца прыхільнікі традыцыйнага акустычнага гуку, часам нават вельмі мінімалістычнага па сваім музычным складніку, але моцнага эмацыянальна. Натуральна выглядаюць таксама міксы дуды і рок-музыкі. І хоць сёлета фэст быў тэматычна прысвечаны фольк-мадэрну, са сцэны можна было пачуць усе гэтыя варыянты сумесі дудовага гучання з музыкай рознага кшталту. А там вырашыць — каму што больш даспадобы. Так, музыку ў традыцыйным рэчышчы прадставілі гурт "Тутэйшыя" (дарэчы, падчас фэсту адбылося іх першае выступленне), дуэт Дзяніса Сухога і Стася Чавуса, гурт падлеткаў — вучняў Івянецкай школы мастацтваў "Рарог" пад кіраўніцтвам Касі Радзівілавай, ужо многім добра вядомыя гурты *Cornucopia*, *Essa* і знакаміты "Стары Ольса".

Тут варта прыгадаць і польскі гурт *Tryzna*, які ўпершыню выступіў у Беларусі. У калекцыі інструментаў яго шмат валынак розных канструкцый, характэрных для розных народаў, ёсць сярод іх і беларуская дуда. Адметна і тое, што калі музыкі толькі вучыліся граць, то слухалі шмат кампазіцый гурта "Стары Ольса", таму і адна з мелодый, выкананая гасцямі з Польшчы падчас заключнага гала-канцэрта, была натхнёная беларускім гуртом.

Рок-плынь прадставілі каманды "Кашлаты Вох" і *Litvin-Troll*. І непасрэдна фольк-мадэрновае гучанне прадэманстраваў новы гурт *Pawa*, захапілі публіку і музычныя імправізацыі дудароў і дыджэя Паўла Бальцэвіча. Падчас гэтых эксперыментаў гледачы маглі танчыць пад дыджэйскія сэты або выконваць старадаўнія танцы пад дуду. Што да праекта *Pawa*, то ён пазіцыянуецца як цалкам новы ў беларускай музыцы. У яго складзе — удзельнікі гурта *Testamentum Terrae* і дыджэй Мікіта Седзянкоў, і выконвае гурт звыклыя кампазіцыі "Тэстаментаў", але ў нязвыклай дыджэйскай апрацоўцы. На пытанне пра матывы такога спалучэння кіраўнік праекта, дудар Юрась Панкевіч адказаў: "На канцэрты зазвычай прыходзіць моладзь, якая захапляецца народнымі танцамі. Нам жа важна, каб музыка была даспадобы ўсім, каб і людзі з іншымі інтарэсамі адчувалі, што сучаснасць і мінуўшчына звязаныя".



*Грае Алесь Чумакоў (музыка гурта "Стары Ольса").*

Назіраючы такую жанравую і стылёвую музычную разнастайнасць, складана было не пагадзіцца з Тодарам Кашкурэвічам, адным з заснавальнікаў "Дударскага фэсту". Ён падкрэсліў: "У самым пачатку справай адраджэння дуды займаліся толькі лічаныя адзінкі, энтузіясты. Тады нават і спадзеваў не было, што рух стане настолькі шырокім, шматлюдным і будзе рэзаніраваць у розных субкультурах, сярод людзей рознага узросту і перакананняў. Дуда адрадзіла свой статус у культуры нашага народа".

Дарэчы, мастацтвам выканання, эксперыментамі дудароў захапіліся не толькі нашы суайчыннікі, але і даследчыкі з замежжа. Так, падчас заключнага гала-канцэрта ў фае клуба "Рэ:Паблік" я сустрэла спадара Ульрыха Моргенштэрна, доктара габілітаванага, прафесара музыказнаўства Кёльнскага ўніверсітэта (ён вядомы даследчык фальклору, часта наведваў нашу краіну з экспедыцыямі). У гэты час на сцэне выступаў гурт "Кашлаты Вох". Напачатку энергічны фольк-панк з выкарыстаннем дуды здзівіў шаноўнага навукоўца, які нават жартам паскардзіўся на тое, што ўжо надта стары для такой музыкі. Але ўсё ж зноў зайшоў у залу і паслухаў колькі песень… А потым спадар Ульрых надзвычай эмацыянальна сказаў: "Цяпер я дакладна разумею, што такое постмадэрнізм!" Прытым гэта была не скруха адносна дэструктыўнасці плыні, але здзіўленне і радасць ад удалага спалучэння розных элементаў і майстэрства пераўвасаблення музыкаў гурта.

Думаю, што элементы постмадэрну ў музыцы сучасных беларускіх гуртоў, якія выкарыстоўваюць дуду, — добрая тэма для абмеркавання падчас чарговай канферэнцыі. Сёлета ж падчас сустрэчы на хутары Шаўловічы, уладальнікам якога з'яўляецца лідар гурта "Стары Ольса", прадзюсар фестывалю Зміцер Сасноўскі, даследчыкі засяродзіліся на іншых пытаннях. Так, удзельнікі канферэнцыі абмеркавалі першы выпуск часопіса Dudar, звярнулі ўвагу на змест наступнага нумара выдання.

Зміцер Сасноўскі падчас свайго выступлення падкрэсліў: "Колькі год таму мы абмяркоўвалі ідэю стварэння дударскага цэху, які б меў назву "Дударскае братэрства імя Святога Васіля". Гэта была б элітная структура са сваім сімвалам і строгімі патрабаваннямі да ўступлення. Так, сябрам братэрства мог бы стаць толькі дудар, які сам здолее зрабіць інструмент і прайсці некаторыя выпрабаванні на майстэрства ігры. Думаю, што цяпер гэта задумка можа быць увасоблена ў жыццё".

Несумнена, "Дударскі фэст-2012" атрымаўся. Гледачоў уразілі і крыху няўпэўненыя "Тутэйшыя", і брутальны *Litvin-Troll*, і неўтаймоўны "Кашлаты Вох", які — "асобная тэма для гаворкі", і спакойная *Tryzna*, і нечаканая *Pawa*. Засталося і адчуванне няскончанасці, незавершанасці. Але гэта добра. Значыць, працяг будзе.

# Традыцыйная культура жыве і квітнее

**Хаця гадоў пятнаццаць таму па ўзроўні развіцця некаторых рамёстваў і традыцый Магілёўшчына значна адставала ад іншых абласцей, удзельнікі і госці міжнароднага форуму "Традыцыйная культура: ахова, захаванне, актуалізацыя" ўпэўніліся: тутэйшым майстрам, спевакам, танцорам і кулінарам ёсць што паказаць. Пацвярджэннем таму — прэзентацыя аб'ектаў нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны Магілёўскай вобласці і беларускай кухні, якая прайшла ў Магілёўскім абласным метадычным цэнтры народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы ў рамках форуму.**

**Вольга СЕМЧАНКА, Раіса МАРЧУК, фота Раісы Марчук**



*Круглянскія кулінары запрашаюць да стала.*

Вынік дзейнасці ў гэтым кірунку — той факт, што дзевяці культурным аб'ектам Магілёўскай вобласці нададзены статус нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці Рэспублікі Беларусь, які толькі летась атрымалі тры аб'екты: песні традыцыйнага вяселльнага і хрэсьбіннага абрадаў вёскі Паршына Горацкага раёна, тэхналогія пляцення лапцей у Дрыбінскім раёне, а таксама абрад "Бразгун" і яго складнік — ушанаванне іконы святых апосталаў Пятра і Паўла вёскі Наркі Чэрыкаўскага раёна. Удзельнікам форуму былі прадстаўлены пяць аб'ектаў.

— Гэта прэзентацыя практычна замяніла некалькі навуковых выступленняў, бо кожны жадаючы мог падысці да майстра ці носьбіта народных традыцый і атрымаць неабходную інфармацыю, — зазначыў намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі.

Дрыбінскія майстры знаёмілі з традыцыяй пляцення лапцей і сваім знакамітым шапавальствам — валяннем з воўны. Удзельніцы аўтэнтычнага гурта "Незабудкі" з вёскі Галавенчыцы Чавускага раёна выконвалі мясцовыя песні і традыцыйныя для сваёй вёскі танцы. Народны майстар з Бабруйскага раёна Юрый Боўда дэманстраваў мастацтва вырабу керамічнага посуду, якое аднавіў разам з іншымі мясцовымі ганчарамі. Майстар Аляксандр Харкевіч з вёскі Ваўканосава Круглянскага раёна не толькі паказваў самаробныя музычныя інструменты з дрэва, але і граў на іх.

— Мы ладзілі форум не толькі як навукова-практычную канферэнцыю, бо хацелі ў першую чаргу паказаць уласныя набыткі па захаванні сваёй спадчыны, — распавёў дырэктар Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветнай работы Алег Хмяльcoў. — За апошнія пяць гадоў дзякуючы падтрымцы кіраўніцтва аблвыканкама, абласнога Савета дэпутатаў і ўпраўлення культуры мы сталі больш увагі надаваць традыцыйным беларускім рамёствам і абрадам. Некаторыя нават вярнулі, і даволі паспяхова, з небыцця, пачалі развіваць іх далей. Цікавы момант: чатыры гады таму ўпраўленне культуры аблвыканкама аб'явіла на Магілёўшчыне Год рамёстваў. Раней такіх крокаў ніхто яшчэ не рабіў. Менавіта тады мы правялі шмат цікавых мерапрыемстваў, якія садзейнічалі захаванню традыцыйнай культуры і яе ўзняццю на адпаведны ўзровень. І нам гэта ўдалося! Цяпер стараемся не страціць назапашаная напрацоўкі, а наадварот — прымнажыць. Мэта форуму — не толькі сухая тэорыя, але і практыка. Каб тыя, хто прыехаў да нас, змаглі ўбачыць і пачуць, як гэта адбываецца. Падобнае мерапрыемства праходзіць пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь упершыню не толькі ў Магілёўскай вобласці, але і ў нашай краіне. Хочацца спадзявацца, што гэта будзе не апошні форум. Госці з Расіі, Украіны, Літвы, Азербайджана і Арменіі ўпэўніліся ў тым, што нас у гэтай адказнай справе вельмі падтрымлівае дзяржава.

Таксама былі прэзентаваны аб'екты культурнай спадчыны, якія яшчэ не набылі статус нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці, але ў будучым змогуць на гэта прэтэндаваць. З Бялыніцкага раёна "прыехала" багатая калекцыя саматканых вышываных ручнікоў. Частка з іх захоўваецца ў мясцовым музеі, іншыя належаць прыватным асобам.

Асіповіцкі раён прадставіў калекцыю саматканых ручнікоў і сукенак, выробленых маладой ткачыхай Аляксандрай Рыбак, членам Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці. З 2007 года яна працуе майстрам-метадыстам Асіповіцкага Цэнтра народных рамёстваў і кіруе дзіцячымі гурткамі па ткацтве, вышыўцы, нітачным дызайне, пляценні паясоў. Аляксандра Генадзьеўна разам з іншымі майстрамі дэкаратыўна-прыкладной творчасці шмат увагі надае развіццю ў раёне народных промыслаў і рамёстваў, займаецца вывучэннем і адраджэннем старажытнага рамяства тутэйшага рэгіёна — ткацтва. У 2008 годзе ўдзельнічала ў абласным конкурсе, дзе прадстаўляла рэканструяваныя народныя касцюмы свайго раёна і была ўдастоена першага месца. У наступным годзе брала ўдзел у абласным конкурсе па рэканструкцыі ручніка, дзе таксама паднялася на вышэйшую прыступку. Пераможца таленавітая асіпаўчанка і на конкурсе па ткацтве "Матчыны кросны" ў Старых Дарогах, на штогадовай Рэспубліканскай выстаўцы Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці "Калядныя ўзоры".



*Юныя асіпаўчанкі ў строях ад Аляксандры Рыбак.*

Наогул, адраджэнне такіх відаў традыцыйнага мастацтва, як ткацтва і вышыўка, на Магілёўшчыне ідзе вельмі актыўна. Абласны метадычны цэнтр паспяхова рэалізуе доўгатэрміновы творча-адукацыйны праект "Чароўны куфар", галоўная мэта якога — прыцягнуць да супрацоўніцтва майстроў вобласці, каб з іх дапамогай наладзіць навучанне маладых кадраў.

Пры рэалізацыі праекта паўстала праблема забеспячэння спецыялістаў адпаведным абсталяваннем, у прыватнасці, кроснамі. Ініцыятыўная група шмат зрабіла для таго, каб адшукаць неабходны інвентар. У выніку метадычнаму цэнтру перадалі два ткацкія станкі, якія пастаянна выкарыстоўваюцца ў працы метадыстам установы Аленай Саўчанкай, якая тчэ на іх ручнікі, посцілкі, габелены, а таксама для правядзення семінараў-практыкумаў па ткацтве для пачынаючых ткачых вобласці.

Яшчэ адна праява традыцыйнай культуры — гэта кухня. Кулінарнымі дзівосамі здзіўлялі прадстаўнікі розных рэгіёнаў Магілёўшчыны. Ячня "чачоха", журавінавы кісель, рулька з печы — далёка не поўны спіс бялыніцкіх прысмакаў. Удзельніцы аўтэнтычнага гурта "Незабудкі" з Чавускага раёна прыгатавалі адмысловыя вясковыя стравы: клынду з ільнянога насення, "бульбашы" з грыбамі, сырнікі з бульбы, некалькі відаў бульбяных "рэзнікаў", бярозавік на бураках і з хлебнай скарынкай. Дрыбінскія кулінары здзівілі не толькі смакам сваіх цудаў, але і іх назвамі на мове шапавалаў: кілбаса — тартаса, хлеб — акруш, грыб — багол, агуркі — вахмаркі. Карацей, у кожнага раёна хапала ўсялякай смакаты — усяго не пералічыць!

## Афарызм

*Свет не толькі бязлітасны і жорсткі. Ён яшчэ ласкавы і ясны.*

**Кузьма ЧОРНЫ**

## З глыбінкі

# У школьным музеі

Дваццаць гадоў таму ў Ільянскай сярэдняй школе імя А. Грымаца быў адкрыты музей "Вілейшчына літаратурная". Сёння ён мае статус народнага, пра музей ведаюць далёка за межамі раёна. Тут праводзіцца да тысячы экскурсій у год, на базе музея ладзяцца канферэнцыі, літаратурныя чытанні, працуе клуб "Цікавыя сустрэчы".

Адзначаць юбілей музея вырашылі ўрачыста, тым больш што чакалася шмат гасцей: прадстаўнікі раённага кіраўніцтва, мясцовыя літаратары, тэлежурналісты. Безумоўна, свята распачалося экскурсіяй, якую вялі вучні 3 — 10 класаў.

У гэты ж дзень была прэзентавана кніга кіраўніка музея Розы Шэрай "П'ескі для школьнага тэатра". Большасць п'ес сапраўды пастаўлена на школьнай сцэне. Перад прысутнымі выступілі вучнёўскі калектыў з маленькім спектаклем "Жорсткасць Лаўрука" і настаўніцкі — з п'есай "Адам Гурыновіч". Са свайго боку шаноўныя госці-літаратары — Уладзімір Кажамяка, Мікола Кутас, Уладзімір Цанунін, Галіна Кутас, Аксана Ярашонак, Клаўдзія Дубовік — падарылі музею свае паэтычныя творы.

**Раіса ШАРКО, Вілейскі раён**

# Россып самацветаў

Чарговае пасяджэнне літаратурнага аб'яднання "Люстэрка душы" прайшло ў Свіслацкай раённай бібліятэцы, мясцовыя паэты чыталі новыя вершы. Самым цікавым момантам сустрэчы была прэзентацыя кніг таленавітай паэтэсы з Новага Двара Марыі Захаркі. Яе вершы натхнёна агучыла супрацоўніца бібліятэкі Алена Пясецкая. Яна ж коратка пазнаёміла прысутных з біяграфіяй паэтэсы. Для М. Захаркі, якая нарадзілася і вырасла ў Сібіры, другой радзімай стала Свіслацкая зямля.

У Марыі Васільеўны свой адметны стыль. Пра што б ні пісала яна, кожны радок напоўнены жыццёвай мудрасцю, глыбокім сэнсам. Цудоўныя словы ідуць з яе душы і россыпам самацветаў кладуцца на чыстыя старонкі. З іх нараджаюцца кнігі. Дзве — выдадзены, яшчэ дзве рыхтуюцца да друку.

"Нынче здесь, завтра там" — кніга-падарожжа па роднай зямлі, па краінах і кантынентах, якое аўтарка здзяйсняе… не пакідаючы свайго дома. У аснову кнігі "Ад неба да зямлі" ляглі сюжэты Бібліі. Біблейскія казанні ў вершах Марыі Захаркі незвычайна прыцягальныя. Тут жа сабраны ўспаміны пра дзяцінства, іншыя цікавыя гісторыі ў вершах і прозе.

М. Захарка не любіць распавядаць пра сябе, яна на рэдкасць сціплы чалавек. А вершы, як сама кажа, — гэта свет яе захапленняў, праменьчык святла, які падтрымлівае жаданне жыць. Няхай жа ён свеціць яшчэ доўга-доўга, абуджаючы да жыцця ўсё новыя самацветы-радкі!

**Ядвіга КОБРЫНЕЦ, Свіслацкі раён**

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас: 220034, Мінск, пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны: галоўны рэдактар — 284-66-73; намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы: публіцыстыкі — 284-66-71; крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04; прозы і паэзіі — 284-44-04; мастацтва — 284-82-04; навін — 284-44-04; аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71; бухгалтэрыя — 284-66-72; Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2853
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 17.05.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2134
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686